НАША НІВА

*Беларуская газэта* ***№12, 1994***



**Рэдакцыя «Нашай Нівы»
віншуе ўсіх сваіх супрацоўнікаў,
фундатараў і чытачоў
з Новым Годам!**

**Redakcyja «Našaj Nivy»
vinšuje ūsich svaich supracoūnikaū,
fundataraū i čytačoū
z Novym Hodam!**

رَدَاقْڝِيَا «نَاشَايْ نِوِى» وِنْشُيَ
وْسِيحْ صْوَايِحْ صُپْرَاڝُوْنِقَاوْ, فُنْدَاطَارَاوْ
اِ چِيطَاچُوْ ظْ نُووِيمْ هُودَامْ !



**В.К.Л.** З гісторыяй гэтай дзяржавы зьвязаны ўспамін пра найлепшы ў Беларусі дзяржаўны парадак, пра «залаты век» культуры, пра сваяцтва беларусаў зь літоўцамі. Пра гэта — тэзы Адама Мальдзіса, гутарка Генадзя Сагановіча зь Юліюшам Бардахам, артыкул Яўгена Анішчанкі.

**БЕЛАРУСЬ І ІРЛЯНДЫЯ.** Шэсьць пунктаў падабенства ў гаспадарцы, палітыцы, культуры й будучыні.

**СТЭРЭАТЫП** кажа, што на ўсходзе Беларусі ў сялян ужо няма жывое памяці пра сваіх паноў. Але гэты стэрэатып абвяргаецца... Эсэ Міколы Крывальцэвіча.

**ВІЛЕНСКІ КЛЮБ.** Вільня — літоўскі Ерусалім, нібы карабель мараў, увесь у вагнях, адплывае ў вечнасьць, аточаны сотнямі караблёў і караблікаў, гружаных старымі жыдоўскімі скарбамі нашага краю... Эсэ Гірша Кановіча.

**ПРАГНОЗ НА ЗАЎТРА.** Якія наступны народ усьлед за Чачэніяй захоча стаць незалежным ад Расеі?

**АПАВЯДАНЬНЕ**

# Кліч мора

С.Д.

Гэта было ў Лімбажы, сьпякотным летам 1989 году. Я прыяжджаў сюды, каб выдаваць забароненую ў Беларусі газэту. Тады мы ўсе толькі й думалі, што пра палітыку. Чарнобыль, Курапаты, Незалежнасьць... Надрукаваць праўду пра гэта ў Менску было немагчыма. І таму я езьдзіў у Лімбажы, латыскае мястэчка, 18 км ад Балтыйскага мора. Тут ужо дазвалялася. Было вальней, дый мала каго хвалявалі нашыя праблемы.

Я пасяліўся ў невялікім гатэлі на другім паверсе ў двухмясцовым нумары. Ноччу працаваў у друкарні, а ўдзень адсыпаўся, хаваючыся ад яркага летняга сонца. Саладкаватае балтыйскае паветра крыху кружыла мне галаву, і я тлумачыў гэта большай свабодай, калі нікому няма да цябе справы й ніхто не залазіць у душу.

Мой сусед па нумары цэлы дзень прападаў у мястэчку, і ўбачыліся мы толькі пад вечар, калі я зьбіраўся перахапіць чаго-небудзь перад працай. Сусед згадзіўся пайсьці са мной за кампанію.

— Вы на машыне? — спытаўся ён. — Цудоўна. Тут ёсьць адна неблагая кавярня на ўскрайку.

Гэта быў саракагадовы лысаваты мужчына з рэзкім турэцкім профілем. Але вымаўленьне адразу выдавала ў ім беларуса. Зрэшты, калі мы выехалі на цэнтральную вуліцу, ён сказаў:

— Я адразу пазнаў у вас земляка. Вы зь Менску?

— Так.

— Гэта акцэнт. Але да гандляра вы не падобны.

У той год усю Балтыю пачалі напаўняць гандляры зь Беларусі. Пачынаўся прыватны бізнэс, і калі дзе-небудзь у Рызе спатыкаўся наш зямляк, то абавязкова «мяшэчнік» або «тарбэшнік», як іх тады называлі.

— Я нефармал. Выдаю газэту, — адказаў я. — А вы, мусіць, з КГБ?

Ён засьмяяўся:

— Не. Хоць ведаю, што падобны. Я прыехаў сюды памерці.

— Памерці?

— Так. Рана ці позна прыходзіць час... Урэшце, у кожнага свае справы. Вы — змагар, выдаеце газэту. Я настолькі ж мастак. А сапраўднаму мастаку належыць думаць пра сьмерць.

Так пачалося нашае кароткае знаёмства. Інакш як жарт успрымаць ягоныя словы я ня мог.

— І вы абралі Лімбажы, таму што тутэйшыя могілкі — помнік сусьветнага значэньня? — спытаўся я. — Сапраўдны мастак мусіць думаць таксама й пра славу...

Могілкі былі зусім побач з друкарняй, і паміж працай, выходзячы пакурыць, я блукаў па іх, нібы па батанічным садзе, разглядаў дзівосныя нетутэйшыя дрэвы й кветкі.

*Працяг на старонцы 4*



# Дзёньнік прыватнага чалавека



1.

Калі людзі й сапраўды падзяляюцца на пэрсанажаў і аўтараў, то сёньня час аўтараў застаўся ззаду і надыйшоў час пэрсанажаў, дзейных асобаў, герояў. Драма гэтага часу — у скасаваньні літаратурнае ўмоўнасьці. Дзюймовачка выпадае з свае шкарлупіны ў брудную балотную ваду. Добра сябе пачуваюць дзейныя асобы, кепска — іх выканаўцы. Артыст у трагедыі знаходзіць ціхі прыстанак пасьля *вялікае сцэны*, дзе падманваюць, забіваюць і вымагаюць геройства ўжо ня ўмоўнага. Людзі наракаюць, што вымушаныя рабіць неўласьцівыя ім рэчы, жыць так, як раней жылі толькі кніжныя героі. І хліпкі дзядзечка-пісьменьнік, які ўчора складаў вершы пра мужнага бальшавіка-тэрарыста, сёньня сам мусіць узяць у рукі гранату.

Але ён ня прагне нікому рабіць блага, у яго дрыжаць рукі й прападае голас, яму хочацца лепш памерці самому. Ён усёй сваёй істотаю працівіцца таму, каб увайсьці ва ўласную кніжку й зажыць па сабою ж прыдуманых законах. У яго сям'я, кватэра, лысіна...

Раней якія праблемы хвалявалі сэрца? Узяў траяк і не аддаў. Вынесьлі сямейны развод на прафсаюзны сход. Не зусім тое й не зусім так некаму сказаў... Патрабавалася ў прынцыпе зусім няшмат сумленьня, маралі, надзейнасьці, каб лічыцца прыстойным чалавекам. Людзі прывыклі, адаптаваліся да гэтага. І вось прыйшоў час, які запатрабаваў усяго сумленьня, усёй маралі і ўсёй надзейнасьці, — усяго або нічога. А дзе ўзяць, калі прывык да малога?

І пачалося. Першае памерла сяброўства, бо якое сяброўства ў пэрсанажа, а тым больш — у *непэрсанажа*? Шэрагі сяброў скарачаюцца на колькасьць тых, якія вышэй за ўсё паставілі грошы, і тых, якія ня здолелі супрацьстаяць падману, ня здолелі стаць пэрсанажамі. Літаратура крытычнага рэалізму страчвае цікавасьць, бо «такога поўна ў жыцьці». Зь вялізнае ілюзіі дабра засталіся крохі, якія штодня трэба вышукваць з павелічальным шклом, і не заўсёды гэта ўдаецца. Затое гэтыя крохі ўжо не ілюзорныя, іх можна «намацаць».

У гэты час задаесься пытаньнем: а чым уласна адрозьніваецца дзейная асоба ад выканаўцы? Мабыць, толькі адказнасьцю. З пэрсанажа не спытаеш, аўтар жа нясе адказнасьць за свае ўчынкі і паводле гэтага заслугоўвае найменьне прыстойнага або непрыстойнага чалавека.

Адказнасьць — другі бок свабоды. І пэрсанаж ня можа быць свабодны ад уласных заганаў: ад прагі грошай і сьвербу славы.

Сьнежаньскі вецер нясе гэтае лісьце кніжных старонак без кірунку й бяз мэты. Гамлеты, Міколкі-паравозы, Блюмы, Міці Карамазавы, японскія імпэратары... Яшчэ ўчора падначаленыя аўтарскай волі, яны разьмяшчаліся ў нейкім парадку, на сваіх месцах. Але сёньня й самі аўтары — недзе сярод іх, такія ж бязвольныя, безадказныя й бязмэтныя. І ўсё за ўсіх вырашае вецер. Такі ж безадказны. Такі ж бязмэтны...

2.

У папярэдняй гісторыі нібы код-адгадка вылучаецца тэма спаборніцтва дзьвюх сыстэм, двух ладаў жыцьця. Калі-небудзь у дваццатыя-трыццатыя ўсё выглядала менавіта так: хто каго, капіталізм ці камунізм? Лепшыя галовы сьвету на час схіляліся да камунізму, пільна сачылі за жыцьцём савецкай краіны. Капіталізм заслугоўваў толькі крытыку, камунізм хвалілі. І там і там жылі людзі: будавалі, нараджалі, елі. І там і там парушалі правы чалавека: затыкалі рот, садзілі ў турму, забівалі. Але вось розьніца: капіталізм ніколі ня зьвязваў рэпрэсіі супраць якой-небудзь Анджэлы Дэвіс з выжываньнем самой сыстэмы. Дысыдэнцкія выступы разглядаліся там як бы на ўзроўні раённага народнага суда. Тады як у Савецкім Саюзе дысыдэнту адразу проціпастаўляла сябе сама сыстэма, сама дзяржава. Дзяржава ўяўляла сябе гэткім зьмеем-гарынычам, усемагутным і дабрадзейным, перамагчы якога аднак патэнцыяльна мог і адзін Іванушкадурачок. Дапушчэньне такое думкі, а тым больш пакладаньне яе ў падмурак дзяржаўнай палітыкі зрабіла камунізм слабым спаборнікам, а ўрэшце й загубіла яго.

Што праўда, такая залежнасьць ва ўсёй паўнаце ўвасаблялася толькі ў Расеі і ў расейскім народзе, як тамтэйшая нацыянальная асаблівасьць. Уласна камунізм мог і не грунтавацца на ёй. А калі б камунізм «перамог» не ў Расеі, а ў якой іншай краіне, дзе супрацьпастаўленьне дзяржавы асобе ня легла б у ягоны падмурак? Тады, магчыма, ён хутка адаптаваўся б да традыцый плюралізму, згладзіўся на стракатым тле індустрыйнага грамадзтва сярод дзясяткаў і соцень іншых -ізмаў. Не было б столькі крыві. Выглядае, што камунізм тут увогуле ні пры чым. Як, зрэшты, і «капіталізм». Гутарка йдзе пра спаборніцтва расейскага імпэрскага самадурства зь іншымі імпэрыялізмамі. Апошнія таксама можна называць фашызмамі, сыянізмамі, маоізмамі... Хоць за ўсім гэтым тэарэтычным прыкрыцьцём праглядаюць тысячагадовыя зададзенасьці й арыентацыі канкрэтных этнасаў.

3.

З Новым годам! Выбары новага парлямэнту, падпісаньне дамовы зь Літвой, Расейская інтэрвэнцыя ў Чачэніі, вайна ў Босьніі, Лукашэнкава прэзыдэнцтва... — усё гэта будзе адбывацца, пераплятацца й дасягаць свайго апагею менавіта ў наступным годзе. Можа быць, ён стане годам Нобэлеўскай прэміі для Васіля Быкава альбо годам апошняе адчайнае спробы далучыць Беларусь да Расеі. Колькі яшчэ адкрыецца «гарачых кропак»? «Наша Ніва», магчыма, пераедзе ў Менск, але можа быць і так, што «Свабода» перабярэцца зь Менску. І гэтыя падзеі будуць для нас індыкатарам таго, што адбываецца з краінай.

Пажадаем сабе добрага.



# ПРАГНОЗ НА

Антон Сіюль

Лезгінку ведаюць усе савецкія людзі. Яе танчаць і грузіны, і кубанскія казакі, і народныя танцоры з бабруйскіх і харкаўскіх ПТВ ды немаведама хто яшчэ.

Хачмас, Худат, Ялама, дэльта Самура, — тут жывуць лезгіны. Сёньня палова іх у Дагестане, палова ў Азэрбайджане. Усіх лезгінаў больш за ісляндцаў. Раней усе ўскраінныя народы і іх аўтаноміі на мапе СССР выглядалі карузьлікамі ў параўнаньні з асноўным чырвоным абшарам. І толькі сёньня прыходзіць разуменьне, што некаторыя зь іх па плошчы й насельніцтву перавышаюць тузін эўрапейскіх гаспадарстваў.

Лезгіны жывуць каля самага Касьпійскага мора. На поўдзень ад самурскае дэльты пачынаюцца дрымучыя тэрасныя лясы. Тут поўна ягадаў, гарэхаў, на высечках уздоўж дарог ажно шалее ажына, у абдоймах якой, здаецца, ледзьве дыхаюць дубы, грабы, плятаны. Гэтыя лясы называюць Набрані. Чамусьці з асаблівай шматзначнасьцю кожны лезгін нагадвае, што тут любіў паляваць Кіраў (і ня толькі ён). Балай толькі тут можна пакаштаваць шашлык з касьпійскага асятра. Па-першае, іншыя мусульмане ставяцца да асятровых як да сьвініны, а па-другое, дзе ж яшчэ робяць сапраўдныя шашлыкі, як не на Каўказе.

Крыху вышэй, літаральна 10-15 км адсюль, ад станцыі Ялама (па-лезгінску — «не аблізвайся»), якая патанае ў кветкавай пене й нэагатычна-маўрытанскі будынак якой — з чайханою — трывала застаецца ў памяці, — горы.

Дакладней, ня горы, а панылае каменнае плато, дзе пыл — гатовы цэмэнт. Тут таксама яшчэ лезгіны. Шырванаўка, Капіркізмаляр... Адна-дзьве таполі, стары канчар, шэрыя запыленыя дамы з саману й далёка-далёка па ўсім даляглядзе — шэрыя горы. І неба тут шэрае, і сонца, і вецер... Вецер тут ніколі ня сьпіць.

Гаспадар завёў за дом паказаць «поле». Гэты па-нашаму вялікі агарод ён здолеў зрабіць за палову жыцьця. Кожную вясну ён запруджвае каламутную раку. Глей і твань, а таксама гной з хлява зрабілі тут глебу. Чалавек зрабіў. Лезгін.

— А чаму ня можна перабрацца бліжэй да мора, тут жа нават па ваду трэба йсьці невядома куды?

— Гэта НАША зямля. На, пакаштуй віна... Гэта НАША віно.

— А вы?

— Сёньня ня сьвята, а ты госьць.

Лезгіны ня ходзяць у калматых бурках, альбо ў лямцавых бэшмэтах, не трымаюць пры сабе кінжалаў. Гладка голяцца (калі не паголены, значыць — жалоба) і носяць даўгаватыя валасы. А лезгінку я тут і не пабачыў, ні за тыдзень, ні за два...

**Калі лідэры нацыяў на Каўказе (дый ня толькі) гавораць адно й тое («Згода!»), кожны мае на ўвазе толькі свае. Лезгіны падзеленыя напалам між Азэрбайджанам і Расеяй. У Дагестане ў іх ёсьць афіцыйная мова, поўныя школы, радыё, пэрыёдыка. У Азэрбайджане, у больш блізкім культурным і расавам асяродку, яны хутчэй асымілююцца. Асабліва моладзь, што едзе вучыцца ў Баку. Сёньня й тут мытні, прапускі. Усё напалам. Вядома ж: «Згода, згода, згода...»**

**Лезгін лезгіну робіць усё бясплатна (прынамсі пры чужых). Шафёр-лезгін мусіць весьці лезгіна куды трэба. Наш папутнік стопіць машыну. Жывая гамонка па-лезгінску. Але ўжо ў дарозе шафёр спахмурнеў. І спытаў у папутніка па-ра-**

# Грабніца

Мікола Крывальцэвіч

**Існуе стэрэатып адрозьненьня ўсходняй і заходняй Беларусі, які нібы ў фокусе можна ўбачыць у жывой памяці пра «былыя парадкі» на захадзе й поўным забыцьці пра іх на ўсходзе краіны. Там згадваюць пра тое, што было «за польскім часам», тут — толькі стварэньне калгасаў і камсамольскія акцыі «ваяўнічых бязбожнікаў».**

**Але гэты стэрэатып можа быць абвергнуты. Рэч у тым, што і на ўсходзе Беларусі старыя людзі таксама яшчэ памятаюць пра сваіх паноў...**

Магільны склеп — тое, што мясцовыя людзі называлі «грабніцаю», узвышаўся над хмызьняком, пахавальнымі крыжамі, просьценькімі надмагільнымі стэламі. Грабніца адразу кідалася ў вочы ня толькі сваімі памерамі, але й беламармуровым на чатыры калёны порцікам, падставаю для якога была чорная бліскучая пліта. На люстраной паверхні мармуру быў высечаны надпіс:

> **Bolesław Łaniewski-Wołk ur. 19.07.1823 r. um. 20 maja 1891 r. Adolfina Łaniewska-Wołk ur. 1. mar. 1841 r. um. 21 stycznia 1899 r.**

Вышэй калёнаў, на атыку, пад франтонам — дробныя літары ледзь бачнага зьнізу выслоўя па-латыні. З усёй гэтай мармуровай зіхатліва клясычнай вытанчанасьці выпадала амаль кубічнае склепішча — бэтоннае, ядавіта-зялёна-шэрае ад часу. Уваход у магільны склеп быў закладзены цаглінамі й замазаны зьверху сьветлаватай рошчынай...

У вёсцы Барысаўшчыне пад Глускам гэтым летам я шукаў пахаваньне. Зусім ня тое, што ў вёсцы называлі «грабніцаю». Мне трэба было знайсьці тое, што некалі месьцілася на адной зь пяшчаных выспаў пад Барысаўшчынаю, на ўскрайку лесу, за якім пачыналіся паплавы Пціча. Трыццаць гадоў таму назад менавіта на тым пагорку археоляг Л.Побаль сярод вытаптаных каровамі сьцежак разгледзеў вуглістую пляму. Ён доўга выбіраў яе й знайшоў там рэшткі спаленага нябожчыка й абломкі адмысловай пасудзіны, якую спэцыялісты датуюць сярэдзінай 2 тысячагодзьдзя да нараджэньня Хрыстова. Мабыць, побач былі й іншыя пахаваньні таго часу. Знайсьці іх хацелася таму, што надзвычай адмыслова й нават фантастычна выглядаў гаршчок, знойдзены Побалем пры рэштках памерлага чалавека эпохі бронзы.

Грабніцу я ўбачыў у першы ж дзень. Яе нельга было не заўважыць зь вясковай вуліцы, настолькі выпадала яна зь мясцовага ўсходнебеларускага калярыту, і варта было чакаць ад старых людзей надзвычайных аповедаў пра яе. Я не памыліўся. У доўгіх гутарках на лаўках перад хатамі бабы Тацяны, Івана ды Васіля Ахрэмчыкаў грабніца, як, дарэчы, і мясцовыя паны Парэбскія, згадвалася часта. Можа таму, што мая прасякнутасьць «магільнымі» пошукамі перадавалася ім...

«Першыя бальшавікі», якія стаялі ў вёсцы, безумоўна, не маглі ня ўбачыць грабніцу. Імпэту паддавалі чуткі пра золата ды срэбра, якое было пры панох у тым склепішчы. З усёй рэвалюцыйнай рашучасьцю камісары вывернулі магільныя дзьверы, а нябожчыкаў абрабавалі. Мала хто зь вяскоўцаў пайшоў глядзець на нялюдзкасьць. Тыя, у сваю чаргу, забраўшы каштоўнасьці, неяк прыставілі дзьверы ды зьехалі. Мо хто й заглядаў пазьней у грабніцу, але нябожчыкаў, казалі людзі, ніхто не чапаў.

У 60-ыя гады, расказваў Васіль Ахрэмчык, залезьлі маладыя вясковыя хлопцы ў склепішча ды выцягнулі касьцякі нябожчыкаў. Забаўляліся, маўляў, камсамольцы. Прыкрываючыся высахлымі пастацямі памерлых, падкрадаліся да дзьвярэй, за якімі танчыла моладзь, і палохалі вясковых дзевак. А калі ўжо ўсіх «перапалохалі», то не знайшлі больш разумнага занятку, як цягаць занядбаныя косьці па Барысаўшчыне на вяроўцы! Пабачыўшы тое д'яблава блазнаваньне, пайшлі старыя людзі па вёсцы, забралі зьняважаныя астанкі ды зьнесьлі іх у грабніцу, а ўваход замуравалі.

З размовы пра грабніцу старыя перакідваліся на ўспаміны й вясковыя паданьні, у якіх часта згадваліся пан і пані. Называлі яны іх Парэбскімі ці Парэнскімі.

Маёнтак Парэбскіх стаяў у канцы вёскі на беразе Пціча. Побач рос вялікі панскі сад, месьціліся агароды. Старыя гэта добра памяталі, бо калісь дзецьмі лазілі праз платы красьці панскія яблыкі й зялёнае шчаўе. Сёньня тое месца — вялікі вясковы выган, па ўскрайку якога стаяць хаты, збоку адзінока прытуліўся да старых дрэў шэры цагляны будынак крамы. Пасярод выгану ў бур'яне ўзвышаецца бэтонны помнік з прозьвішчамі палеглых у апошняй вайне салдат. Па выгану да ракі цягнецца дарога. Яна ўпіраецца ў стромкі, заляпаны гразёю й

# ЗАЎТРА

сейску: «Дзе ж ты лезгінам на сьвет зьявіўся?» Той адказаў: «У Баку». Шафёр зьніякавеў, давёз і не разьвітаўся.

Ты свой — калі ў поўнай меры свой, горац.

Калі гавораць «Да згоды!» інгушы, яны маюць на ўвазе, што ім яшчэ не вярнулі палову іхняй зямлі, якую адабралі пасьля татальнага выгнаньня й перадалі Асеціі й Расеі. Не выпадкова расейскія вайскоўцы, што йшлі на Грозны, пагражалі інгушам, нагадваючы пра пазамінулую зіму. Тады чарговы раз падманутыя людзі з розных краёў вярнуліся на сваю зямлю, а іх сагналі ізноў. З крывёю й попелам. Перацерпяць. Згода?

Калі гавораць «Згода» абхазы, яны чакаюць дапамогі, каб высклізнуць з Грузіі; калі адыгейцы, — яны спадзяюцца выкраіць хоць кілямэтар каля мора, адкуль іх сто гадоў выкурвалі то дзекабрыст Адоеўскі, то мараход Лазараў, то іншыя героі.

Не згадзіліся пакуль толькі чачэнцы. Але апроч Чачэніі ёсьць Карачай, дзе здабываюць медзь, цынк, сьвінец, нікель, марганец і ці ня большую частку расейскага кобальту. Карачаеўцаў таксама пагалоўна ганялі на Ўсход. Зімою. Палова загінула, загінулі амаль усе дзеці, блізу 40 тысяч. Гэта значыць, што сёньня жыве цэлае пакаленьне бацькоў тых дзяцей.

Апроч Карачаю ёсьць яшчэ Кабарда, Чаркесія... Крыўды, крыўды, крыўды... Поўныя казачных скарбаў горы, магутныя горныя рэкі, шырокія лугі...

Зьнікае з расейскага палітычнага лексыкону ёрніцкі матыў пра «парад сувэрэнітэтаў». Дэ-факта сталіся незалежнымі паўтара дзясятка «суб'ектаў фэдэрацыі», не закрытыя тэмы Крыму, Карабаху, Паміру... Усярэдзіне Расеі працэс сувэрэнізацыі зайшоў таксама далёка — перад фэдэральнымі ўстановамі лунаюць ужо два дзясяткі сьцягоў.

На поўны сувэрэнітэт прэтэндуюць найперш самадастатковыя, самазабясьпечаныя, структурызаваныя народы. Перадусім тыя, якія маюць досьвед уласнай дзяржаўнасьці. Да прыкладу, Тува, якая здабыла незалежнасьць у 1912 годзе і страціла яе ў 1944-м. Мела свой парлямэнт.

Тува — унікальны край, дзе на невялікай тэрыторыі зьмяшчаюцца ледзь ня ўсе ляндшафты паўночнай Эўразіі, а канцэнтрацыя карысных выкапняў пераўзыходзіць Эўропу. Натуральна, што народ, абсалютна чужы Расеі паводле расы, рэлігіі й мовы, прэтэндуе на незалежнасьць.

Гіганцкая здабыўчая прамысловасьць прыцягнула ў Туву вялізную колькасьць нізкакваліфікаваных расейскіх рабочых. Тут разьмешчаны шматлікія калёніі для крымінальнікаў, якія застаюцца пасьля амністыі або ўцякаюць у тайгу. У вачох народа, які згодна з сваёй рэлігіяй імкнецца ня раніць зямлі (у будыстаў насы абутку загнутыя ўгару), гэты «кантынгент» выглядае жахліва. Пакуль што зьвесткі пра масавыя хваляваньні тувінцаў у 1989-90 гг. (пасьля чаго засталіся шматлікія ахвяры), акуратна схаваныя ад расейскай публікі. Але ці надоўга?



Падобная сытуацыя ў Бурацііі, дзе больш насельніцтва, разьвіты транзыт (БАМ) і свае нюансы — дзьве ізаляваныя бурацкія акругі, што само па сабе правакуе тэрытарыяльнае пытаньне. Між тым, бураты й тувінцы гістарычна й геаграфічна, расава й рэлігійна зьвязаныя з сваімі бліжэйшымі суседзямі на Ўсходзе, эканамічны й культурны патэнцыял якіх не пакідае ваганьняў у выбары.

Канфэсійны фактар, які моцна перабольшваецца ў нас (паўстагодзьдзя сэкулярызацыі), адыгрывае магутную ролю ў будысцкіх (Калмыкія, Бурація, Тува) і ісламскіх рэгіёнах (Каўказ, Паволжа). Сутнасьць гэтага фактару ў тоеснасьці этнічным традыцыям. Мы не задумляемся над тым, што адзначаем гады ад Хрыстовага нараджэньня, носім хрысьціянскія йімёны й г.д. Дзеля гэтага не патрабуецца катэхізацыя альбо штодзённае ўнурваньне ў праблемы тэалёгіі. Але для большасьці расейскіх ускраінаў пануючая сыстэма календара, імёнаў, бытавых традыцыяў (нарадзіны, вясельле, пахаваньне...) — зусім чужая. Як чужыя і раса, і мова.

Неразьвітасьць уласных гуманітарных школаў фармуе там спэцыфічны погляд на этнічныя праблемы. Няведаньне сваёй гісторыі падмяняецца рэлігійнай традыцыяй і расавай самаідэнтыфікацыяй. Ня ведаючы нюансаў тэа- і культуралёгіі, паўночныя каўказцы, тувінцы, бураты, манголы і г.д., выяўляюць рашучую гатовасьць да шчыльнай кансалідацыі паводле веры й расы. Прыклад — вайна 19 ст. на Каўказе або імгненная рэакцыя інгушоў на інтэрвэнцыю ў Чачэнію сёньня. Праблема Чачэніі пры агрэсіі звонку перастае быць праблемай Чачэніі й перарастае ў праблему Каўказу. Дзеля гэтага й быў зроблены паход бранетэхнікі на Грозны праз Інгушэцію й Дагестан. Каб напалохаць Каўкаскі хрыбет. Папярэдзіць усіх разам.

Ня можна паверыць, што арганізатары чарговай вайны не прадбачылі ўсплёску расізму ў Расеі, стварэньня там псыхічнага прэсынгу на ўсіх каўказоідаў (армянаў, грузінаў, азэрбайджанцаў, жыдоў...), якіх у Расеі мільёны. Ня трэба быць аналітыкам, каб прадбачыць разрыў Расеі зь ісламскім сьветам, на кантакты зь якім было пакладзена столькі высілкаў (пасярэдніцкія місіі на Блізкім Усходзе, Балканах і г.д.). Расея, вырашаючы свае нутраныя тактычныя мэты, бярэ стратэгічны курс на свой далейшы распад.

Ускраіны памятаюць жывую гісторыю XX ст., белыя й чырвоныя інтэрвэнцыі, рэпрэсіі, дэпартацыі. Ускраіны адштурхоўваюцца ад савецкай і расейскай невыноснай дэмаралізацыі. Ускраіны пазіраюць на прывабныя культурныя й эканамічныя мадэлі, якія стварылі адзінаверцы й суродзічы на Ўсходзе. Ускраіны бачаць поўны роздрызг палітыкі й эканомікі ў свайго чванлівага «старэйшага брата».

Памяць пра расправы 50-х будзе ятрыць іхнюю кроў і клікаць іх на змаганьне да апошняга, без пэрспэктывы на літасьць Масквы, бо літасьці няма й ня будзе.

---

каравяком бэтонны мост зь ненадзейнымі іржавымі парэнчамі. Побач стары, звалены на бок, драўляны масток. У празрыстай вадзе бачныя палі колішняга млына. Казалі, млынарамі спрадвек былі тут жыды, якіх ня стала ў Барысаўшчыне яшчэ да вайны.

Дзед Ахрэмчык расказваў, як паны зрабілі на Пцічы купальню. Абгарадзілі яе высокім і шчыльным плотам. А калі ішлі купацца, то выстаўлялі служанак на варту перад агароджаю. Распавядаючы пра тое, як ён зь вясковымі мальцамі неяк падглядзеў панскае купаньне, дзед ня мог стрымаць сьмех. І ўжо зусім зайшоўся ад свайго бяззубага рогату, калі паказаў, як, нібыта, пан пагладжваў у купальні голую пані. Стары Ахрэмчык маладцаваўся перад бабулямі, а тыя сарамацілі яго за хлусьню.

Парэбскія, мусіць, былі з добрых людзей. Неяк у аднаго беднага селяніна памёр нехта з родных. Няшчаснага нават ня стаў слухаць мясцовы бацюшка, бо селянін ня меў грошай на адпяваньне нябожчыка. Пан паспачуваў бедаку, прыслаўшы яму цэлых паўтара рубля грошай ды кошык з салам, хлебам, яйкамі, іншаю ежаю на памінкі. Здаралася нават так, што ў паноў зерне скончалася раней, чым у багатых мясцовых мужыкоў. Апошнія пазычалі Парэбскім да новага ўраджаю.

Амаль кожны стары ў Барысаўшчыне можа распавесьці пра тое, як у сьвяточныя й нядзельныя дні ў маёнтку запрагалі чацьверыком панскі фаэтон. Сытыя й дужыя коні пад шлёганьне пугі несьліся па вуліцы. Вяскоўцы ведалі, што праз нейкі час пані будзе вяртацца з гораду й везьціме куль пачастункаў. Калі на дарозе за вёскаю чуўся бразгат вупражы, да лавак перад хатамі выбягалі дзеці й зычна віталі пані, а тая частавала малечу гарадзкімі прысмакамі.

Пасьля вядомых восеньскіх падзей 1917 году Парэбскія зьехалі ў Польшчу. Нейкі час панскае дабро заставася некранутым. Потым то адзін, то другі пацягнуліся тутэйшыя людзі да хлявоў, сьвірнаў пана Парэбскага. Але нават тады, цьвердзілі бабулі, як бы апраўдваючыся перада мною, бралі чужое ня ўсе. Звычайна першымі хапалі дабро тыя, хто й раней вылучаўся сквапнасьцю й здольнасьцю ўкрасьці чужое, не баючыся Бога. Большасьць жа разважала так: браць чужое, няхай сабе й панскае, грэх, ды й пан можа вярнуцца.

Парэбскія й сапраўды вярнуліся на нейкі час у Барысаўшчыну ўсьлед за польскімі кавалерыстамі падчас польска-бальшавіцкай вайны. Жаўнеры, разьятраныя пабачанымі, адразу ж кінуліся наводзіць належны парадак. Найперш адшукалі тых, хто пасквапіўся на чужую маёмасьць і адлупцавалі іх нагайкамі пасярод сяла. Афіцэр нават пагражаў некаторых застрэліць, але выратавала іх пані, якая кінулася са сьлязьмі на вачах, укленчыла, рукі цалавала, каб той адпусьціў сялян, бо тыя, небаракі, невінаватыя, скралі чужое дабро ад беднасьці й гора, якое абрынулася на іх галовы праз праклятую вайну й бальшавіцкую рэвалюцыю. Старыя ўспаміналі, што з тых адлупцаваных вяскоўцаў толькі адзін не скарыўся жаўнерам. Кажуць, прыцёгся з той лупцоўкі дахаты, схапіў стрэльбу, пайшоў да дарогі, па якой ужо паехалі палякі, ды колькі разоў пальнуў ім усьлед...

Вечарамі я некалькі разоў заходзіў на вясковыя могілкі. У змроку пад густымі высокімі дрэвамі бялела мармуровымі калёнамі пахавальнае збудаваньне грабніцы. Побач, перад ёю, стаяла мармуровая стэла з крыжам наверсе. На крыжы засталіся дзірачкі ад мацаваньня распятага Хрыста. Я прачытаў надпіс:

**Ś.P. Antoni-Witold Porębski ur. 5 Grudnia 1844 r. zm. 6 Września 1904 r.**

На правай палове могілак спрадвек у Барысаўшчыне хавалі толькі паноў, зьлева — простых вяскоўцаў. І дагэтуль зьлева грувасьцяцца шматлікія людзкія пахаваньні. Справа, там дзе ўзвышаецца грабніца, расьце густы хмызьняк. Сярод яго пад дрэвамі трапляюцца пабітыя каменныя помнікі, якія калісь стаялі над магіламі Лукоўскага, Шарамецьцевай...

Вярнуўшыся ў Менск, я гартаў кніжкі з шляхецкімі радаводамі, спадзеючыся знайсьці там згадкі пра Баляслава й Адальфіну Ланеўскіх-Ваўкоў, Парэбскіх. Ланеўскія, як і Ланеўскія-Ваўкі, — адзін са старэйшых шляхецкіх родаў Рэчы Паспалітай. Пачатак іх вядзецца з 16 стагодзьдзя. Лёс роду непарыўны зь лёсам Беларусі, у прыватнасьці Гарадзеншчыны й Меншчыны. Займалі самыя розныя дзяржаўныя пасады, несьлі службу ў войску Вялікага Княства. Парэбскія згадваюцца з 17-18 стагодзьдзяў. Сярод іх былі выдатныя інжынэры, дзяржаўныя дзеячы, вайскоўцы, паэты...

Мусіць, сапраўды чалавечы лёс невызначальны й непрадказальны, бо інакш ці варта было нашчадкам Ланеўскіх-Ваўкоў усталёўваць прыгожую грабніцу, якую праз нейкі час выпатрашаць, а ўладкаваныя на вечны пакой Баляслаў і Адальфіна Ланеўскія-Ваўкі будуць абрабаваныя й выцягнутыя на вуліцу, каб стаць забаўкаю для хеўры няўцямных землякоў. А мо непрадказальным застанецца лёс Айчыны?..

Пахаваньні на месцы знойдзенай некалі за Барысаўшчынаю адмысловай пасудзіны я так і не знайшоў. Па высьпе, акурат праз яе цэнтральную частку, пралегла шырокая мэліярацыйная канава. Глыбокія сьляды ад бульдозэрных гусеніц разьбягаліся як трэшчыны на паверхні пагорка...

Ці варта паміраць на сваёй зямлі?..

## АПОШНІ ТОМ

**Гісторыя беларускага мастацтва. Т.6 (пачатак 1960-х — сярэдзіна 1980-х). — Менск: Навука і тэхніка, — 1994.**

У пачатку XX ст. Беларусь была радзімаю й калыскаю шматлікіх кірункаў мастацтва, якія далей разьвіваліся на Захадзе, творачы культуру заходняга мадэрнізму. Паводле іроніі лёсу Беларусь, якая дала сьвету волатаў сусьветнае культуры (М.Шагал, К.Малевіч, Ул.Стрэмінскі...), прамінула мадэрнізм, седзячы за савецкай заслонай. У СССР тымчасам досыць разнастайна йшло кшталтаваньне «асаблівага» мастацкага кірунку (хоць, дарэчы, падобныя да сацрэалізму зьявы былі ў 30-50-я гады і ў Эўропе, і за акіянам).

Ад пачатку 60-х гадоў у мастацтве Беларусі (як і ва ўсім СССР) адбываецца імклівая эрозія прыёмаў сацрэалізму, які па вайне ператварыўся ў набор ляпідарных штампаў, якія ўжо не ратавала чырвоная патэтыка. Ня слушна зводзіць гэты працэс да XX зьезду КПСС і лібэралізацыі камуністычнага рэжыму. Цкаваньня авангарду ў 60-я не было б, калі б не было самога авангарду, які зьявіўся на сьвет зусім не ад сьмерці Сталіна.

Таптаньне на заказных тэмах, выяўленчая манэра, даступная для разуменьня партыйнага кіраўніцтва, — усё гэта выдала сацрэалізм знутры. Што датычыць «адлігі», дык у мастацтве яна пачалася з хвалі рэпрэсіяў, хай сабе й больш цывілізаваных, з-за якіх краіну вымушаныя былі пакінуць дзясяткі мастакоў, скульптараў, архітэктараў (П.Чайкоўскі, У.Кузьміцкі, пасьля Б.Забораў ды іншыя). Шмат зь іх пасьпела ў вагон мадэрнізму і больш-меньш плённа ў ім выказалася.

У Беларусі працэс выміраньня сацрэалізму адбываўся і праз нутраную эвалюцыю (найперш праз імклівы рост уласных нацыянальных сілаў), і праз усё больш шырокія кантакты са школамі Балтыі, Украіны, Усходняе Эўропы, дзе да мастацтва ставіліся больш дэмакратычна. Новае мастацтва пайшло ў двух асноўных кірунках. Адзін быў зьвязаны з актыўным пошукам этнічна адметнай стылістыкі (у форме й вобразах), што было парадоксам на тле татальнага заміраньня нацыянальнага жыцьця. Другі распрацоўваў новыя фармальныя прыёмы, актыўна пазычаючы з даступных (легальных і паўлегальных) крыніц замежнага мастацтва, да прыкладу, зь нямецкага «левага» экспрэсіянізму, мэксыканскага манумэнтальнага жывапісу й г.д.

У выніку ў першай палове 80-х стылістычны дыяпазон беларускага мастацтва быў ужо вельмі шырокі. Ад манумэнталізму нацыянал-рамантычнага кірунку (А.Марачкін, Ф.Янушкевіч...) да сюррэалізму (М.Селяшчук, У.Тоўсьцік, Г.Скрыпнічэнка). Апошняга не пазьбегнуў нават М.Савіцкі, чыя «Мадона Біркенау» проста цытуе С.Далі...

Праблема стылю — ключавая ў тэорыі мастацтва. Інакш застаецца простая канстатацыя, без увядзеньня ў кантэксты, бяз выбару зьяваў і паралельнага аналізу. Што й атрымалася ў аўтараў 6-га тому «Гісторыі беларускага мастацтва», прысьвечанага самай блізкай і вызначальнай сёньня эпосе. Менавіта гэты пэрыяд «рэанімаваў» нацыянальнае ў нашым мастацтве. На яго прыпадае адраджэньне манумэнтальнага жывапісу, вітражу, габэлену. У ім беларуская графіка дасягнула сусьветнага прызнаньня. Стварыліся новыя кшталты, якія зьмянілі аблічча сацрэалізму. Адбылася рэзкая зьмена архітэктурных стыляў, выкліканая ня толькі незвычайным размахам будаўніцтва, але й большым абменам інфармацыяй зь сьветам. За гэтыя гады назіраецца замена кадраў, прысланых у Беларусь пасьля вайны, на новае пакаленьне архітэктараў-беларусаў. На жаль, прычынна-выніковая сувязь гэтых зьяваў і стылістычны аналіз, кантэкст у эўрапейскім і нават савецкім мастацтве, — усё гэта засталося за рамкамі шостага, апошняга тому «Гісторыі».

Праблемы архітэктуры, на думку аўтараў, збольшага зводзяцца да пераходу на індустрыйныя мэтады будаўніцтва. Сьледам за дзясяткамі прозьвішчаў і пералікам гарадоў ідуць бяздоказныя дыфірамбы праектам раённых пляніровак, задача якіх — «абгрунтаваньне разьмяшчэньня ў рэспубліцы буйных вытворчых і іншых аб'ектаў». На с.11 аўтары сьцьвярджаюць, што ў пачатку 70-х удалося прадухіліць рост Менску на 150 тыс. чалавек, а на с.12 — што ў 1972 годзе Менск дасягнуў мільённага рубяжа, які чакаўся толькі ў 1980-м... Але якое ўсё гэта мае дачыненьне да мастацкіх вартасьцяў архітэктуры? Мы так і не дазнаемся, хто ж у Беларусі буйнейшы архітэктар і якія будынкі (і чаму) можна лічыць клясыкай нацыянальнай архітэктуры. Ну не Палац жа мастацтваў у Менску (С.Мусінскі і Н.Краўкова, 1973) ці Палац спорту Філімонава, адзін з шматлікіх такіх у СССР, сярод якіх ужо ня знойдзеш, хто ж першы пазычыў тэму ў Л.Нэрві!

У кнізе прыводзяцца зьвесткі пра прэміі СССР, якія атрымалі беларускія архітэктары, але незразумела — за якія менавіта якасьці праектаў. «Будынак... вылучаецца зручным разьмяшчэньнем у ляндшафце, камфартабэльнасьцю нумароў...» А ў чым адметнасьць, дзе прынцыпы, ідэйная аснова? «Для збудаваньняў 70-х гадоў характэрная разьвітая аб'ёмна-прасторавая структура». А для якіх гадоў яна нехарактэрная?

Гаворачы пра праблемы захаваньня спадчыны, аўтары адважыліся згадаць пра страты, якія былі нанесеныя беларускай архітэктуры ў паваенны час. Аднак тут жа ледзь не на дзьве старонкі дадзены пералік заслугаў у захаваньні спадчыны («... былі праведзеныя пэўныя мерапрыемствы...»). У запале сьцьвярджаецца, што нібыта ўжо завершаная рэканструкцыя Старога замку ў Горадні, Падніколья ў Магілёве, Усьпенскага касьцёлу кармэлітаў у Мсьціславе... Тое, што за паваенныя гады архітэктурная спадчына Беларусі згубіла болей, чым за ўсё сваё йснаваньне, вядома. Як і тое, што высілкі дзяржаўнае рэстаўрацыі на тле агульнага заняпаду да 90-х гадоў роўныя амаль нулю.

Але дзе ж помнікі новыя? На магіле П.Брунэлескі высечана: «Піліпу Брунэлескі, адраджэнцу старажытнага дойлідзтва, сэнат і люд флярэнтыйскі свайму ганароваму грамадзяніну». Каму з нашых архітэктараў і ў якім месцы такое напішуць? Калі нікому (а з кнігі выглядае якраз на тое), дык нашто пераводзіць паперу на пералікі сааўтараў?

«Аналягічныя Палацы культуры пабудаваныя ў Баранавічах, Наваполацку, Салігорску, Пінску і інш. гарадах рэспублікі». Аналягічныя мікрараёны, клюбы... Усё аналягічнае. «Унікальным» названы Дом літаратара? Унікальны — дзе? У СССР?.. «У Горадні атрымаў завяршэньне ансамбаль плошчы Леніна. Перад новым адміністрацыйным будынкам устаноўлены помнік правадыру». Міжволі пераправяраеш дату выданьня кнігі...

«Стаўшая традыцыйнай ленінская тэма атрымлівае глыбокую распрацоўку ў творчасьці К.Касмачова». Наколькі «глыбокую»? «Ленінская тэматыка і падзеі рэвалюцыйных дзён...» «Уладзімір Ільіч Ленін у ботах і кажуху стаіць у нерухомасьці...», «... сілу ўзьдзеяньня ленінскага слова на працоўныя масы...» і г.д. Зь песьні словаў ня выкінеш. Але гэтая кніга мае быць у бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі падручнікам для новых пакаленьняў. Што ім скажуць такія эпітэты (аўтар П.Масьленікаў)? Хто вымяраў ступень «праўдзівага адлюстраваньня гістарычных падзеяў» мастацкіх твораў, прысьвечаных гісторыі КПСС, 1917-му году, грамадзянскай вайне?..

Ёсьць эстэтычныя катэгорыі, ёсьць псыхалёгія ўспрыйманьня колеру й пластыкі, ёсьць адпаведнасьць (неадпаведнасьць) формы й зьместу. На гэтым і павінен будавацца аналіз, у тым ліку — і неахопнай ленініяны. А яшчэ ёсьць сусьветны мастацкі працэс і час, у якім жыве (або ўжо не жыве) твор.

Стыль і яго прынцыпы дазваляюць падыходзіць да твору з пэўнай сыстэмай каардынатаў. «Твары, рукі, адзеньне старанна дэталізаваны, уся паверхня палатна старанна апрацавана...» (карціна Б.Аракчэева «Брэсцкая крэпасьць. Раненыя байцы», 1972). Мы маем справу з гіпэррэалізмам? Магчыма. Аднак чаму тады не назваць гэта гіпэррэалізмам і ў чым супярэчнасьць гэтага з заходнім гіпэррэалізмам, які мімаходзь ганіць аўтар?

Ці можна ў тым самым рэчышчы ацэньваць жывапіс Я.Зайцава й Л.Шчамялёва, Х.Ліўшыца й М.Савіцкага? Ёсьць фігуры буйнейшыя, ёсьць майстры аднаго шэдэўру, ёсьць шараговыя мастакі. У кнізе няма погляду аўтараў на гэта. Ёсьць «праблема актывізацыі мастацкай формы, якая вырашалася ў пастаянных пошуках эстэтычнай каштоўнасьці мастацкіх сродкаў» (!?). Пры гэтым прынцыпы адбору твораў ніяк не доказваюцца. Калі зьмешчаны па некалькі твораў М.Савіцкага, А.Кішчанкі, Л.Шчамялёва і нават В.Шаранговіча (два разы — «Пан Тадэвуш»), дык тое ці іншае абгрунтаваньне гэтаму знайсьці можна. Але ніадкуль не вынікае, што працы У.Куфко, В.Маркаўца, Э.Белагурава, В.Цітовіча — найбольш яскравыя дасягненьні апошняй чвэрці стагодзьдзя. Хіба што дасягненьне — у «напрамку станоўчага абнаўленьня станкавага жывапісу» (?!).

Коснасьць мысьленьня, сьціснутага ўстойлівымі стэрэатыпамі, адразу робіць кнігу састарэлаю. У артыкулах пра плякат не раскрытая творчасьць У.Цэсьлера, С.Войчанкі, А.Шалюты, Ю.Дзеева, К.Хацяноўскага, наогул няма Ю.Пчалінцава. Аўтар зьвёў усю праблему плякату да агітацыі й прапаганды, хоць тут заслугі беларускіх мастакоў, асабліва ў 60-70-я гады, даволі сумнеўныя.

Але ня толькі ідэалягічныя перакосы зьніжаюць вартасьць выданьня як падручніка альбо даведніка.

За бортам апынуліся рэгіянальныя мастацкія школы й зьявы, якія не разглядаюцца ў асобным кантэксьце, хоць Віцебск, Берасьце, Горадня даўно маюць свой адметны кшталт, сфармаваны і перадгісторыяй, і вонкавымі ўплывамі й мэтафізыкай саміх гэтых местаў. Не згаданы таксама беластоцкі беларускі мастак Лявон Тарасэвіч — адна з буйнейшых фігураў у нашым мастацтве канца XX ст.

Наогул ігнаруецца рэлігійнае мастацтва, хоць, як было прадэманстравана на выставах да 1000-годзьдзя хросту, яно ёсьць і ніколі не перапынялася, нягледзячы на маргінальнасьць. Яскравы прыклад — творчасьць скульптара Эдварда Падбярэзскага, які выканаў цэлы шэраг алтарных кампазыцыяў і скульптураў для касьцёлаў на Браслаўшчыне, Пастаўшчыне, Віленшчыне і ў самой Вільні. Падбярэзскі — бадай, найбуйнейшы скульптар-беларус, які працуе ў галіне каталіцкай мастацкай традыцыі зь 70-х гадоў. Чалавек драматычнага лёсу, ён вымушаны быў зьехаць з роднага Паазер'я пад Вільню.

Не знайшлося сярод некалькіх соцень імёнаў месца й такому фэномэну мастацкага жыцьця, як А.Ісачоў, творчасьць якога выклікала гарачыя дыскусіі. Напэўна, гэта былі самыя палкія й скандальныя спрэчкі пра мастацтва наогул, што выплеснуліся за межы СМ і спэцыяльнай пэрыёдыкі.

Калі кніга прысьвечаная беларускаму мастацтву, а не мастацтву БССР, то сюды мусілі трапіць і мастакі дыяспары. Але ня трапілі.

Зусім не адгукнуліся ўкладальнікі тому на творчасьць цэлай плеяды маладых авангардыстаў 70-80-х гадоў, шмат зь якіх сёньня працуюць на Захадзе. Гэта рознага маштабу фігуры, якія складалі рэальную й актыўную апазыцыю, пра што сьведчыць хоць бы збор Плісанава. Заўвагі накшталт «... ацаніць здабыткі маладых наўрад ці магчыма...» сьведчаць пра бездапаможнасьць аўтараў. Назавем наўгад зусім розныя імёны, безь якіх сёньня ня ўявіш сабе жывы мастацкі працэс: Хацкевіч, Мартынчык, Адамчык, Кашкурэвіч, Задорын...

Кніга ня можа быць выкарыстана ў якасьці даведніка і таму, што на яе старонках мы ня толькі ня знойдзем біяграфічных зьвестак, але нават не раскрыем ініцыялы мастакоў. Паказальнік імёнаў складзены неахайна й кур'ёзна. Напрыклад, адсутнічае імя Ф.Скарыны, хоць С.Собаль і П.Мсьціславец ёсьць. Адсутнічаюць і спасылкі ў тэксьце, хоць у папярэдніх тамох «Гісторыі» яны граюць істотную ролю. У сьпісе літаратуры фігуруюць кнігі: «Национальное и интернациональное в советской архитектуре» Ю.Яралава (1971), «История культурной революции в СССР» П.Кабанава (1972), артыкул В.Еўтуха «Величественные планы капитального строительства». Ёсьць нават Чарнышэўскі. А дзе ж тады Гогаль, Герцэн ды Стасаў? Няма ў сьпісе літаратуры па мастацтву 60-80-х гадоў XX ст. ніводнае кнігі на эўрапейскіх мовах. У сьпісе ілюстрацыяў, як і ў тэксьце, не ўказаныя нават памеры працаў.

Прыкра, што менавіта так сканчаецца найбольш поўная на сёньня «Гісторыя беларускага мастацтва», па-сутнасьці першая хрэстаматыя нацыянальнага мастацтва ў незалежнай Беларусі.

Сяргей Харэўскі

## ЗНОЙДЗЕНА Ў САКРЭТНЫМ АРХІВЕ

У Сакрэтным дзяржаўным архіве Прускае спадчыны ў Берліне (яго фонды камплектаваліся ў Караляўцы, а з 1945 году нейкі час перахоўваліся ў Гётынгене) ёсьць дакумант, які самым непасрэдным чынам зьвязаны зь беларускай гісторыяй. Гэта акт, складзены ў 1656 годзе й названы «Справаю па абсьледаваньню й пасьведчаньню чужых людзей, якія знаходзяцца ў герцагстве Прусія». Ён уяўляе зь сябе сьпіс (рэестар) падданых Вялікага Княства Літоўскага, якія ў 1655 годзе зьявіліся ў Прусіі, — у Караляўцы, Тыльзіце, Рагніце... Што гэта за перасяленцы, і чаму яны апынуліся ў прускіх гарадах?

1655. год — самы разгар вайны Маскоўскага царства супраць Рэчы Паспалітай. Падчас першай кампаніі, калі царскае войска захапіла ўсходнія й паўночныя землі Беларусі, многія жыхары адтуль знайшлі прытулак на захадзе краіны, галоўным чынам у Вільні й Коўне. З Полацку шмат людзей уцякло тады да Рыгі. Але падчас другога наступу маскоўскія ваяўнікі дайшлі да Вільні й Коўна. Тысячы людзей, у тым ліку тыя, хто год назад прыйшоў з Усходняй Беларусі, мусілі ўцякаць далей, за мяжу. Ратаваліся ўсе, хто мог, бо стральцы й казакі ня ведалі літасьці. Незалежны сьведка сакратар брандэнбургскага курфюрста Лазарус Кітэльман, якому праз месяц пасьля захопу сталіцы давялося ехаць у лягер маскоўскага цара пад Вільню, вось як апісаў пабачанае: «Усе гарады й вёскі ... былі спаленыя, кучамі паўсюль на палях ляжалі целы пабітых цывільных ...людзей, таксама жанчын і дзяцей, непахаваныя і ўжо загніўшыя, нідзе жывога не было бачна...»

У тыя дні зь Вільні й Коўна хваля ўцекачоў перасягнула мяжу з Прусіяй і атрымала апеку гэтай саюзнай дзяржавы. Ужо ў 1655 годзе ў Караляўцы аформілася праваслаўная царкоўная супольнасьць. Але праз год Прускае герцагства паддалося Швэцыі, і ўцекачы зь Вялікага Княства мусілі прысягаць новаму ўладару — швэдзкаму каралю Карлу X Густаву (і спакойна жыць далей, хоць Швэцыя была ў стане вайны з Рэччу Паспалітай). Вось тады й дайшло да іх пагалоўнага перапісу, які цяпер захоўваецца ў нямецкім архіве. У рэестры пазначалася поўнае імя й прозьвішча, вызначалася рэлігійная прыналежнасьць, ранейшае месца жыхарства, і ставіўся ўласнаручны подпіс кожнага ўцекача.

Уражвае тое, што сярод зарэгістраваных вельмі шмат людзей зь Беларусі, у тым ліку праваслаўных. Многія падпісаліся кірыліцай. Асобную групу ўтваралі вуніяцкія сьвятары, сярод якіх былі манахі й манашкі, — разам 16 чалавек. Узначальваў іх архімандрыт Павал Корсак з Амсьціслава. Гэты гурт склаў асобную прысягу швэдзкаму каралю і трымаўся надзвычай годна. Сярод праваслаўных манахаў падпісаліся Мітрафан Пашынскі, Тарас Пракаповіч, Гіларыён Бакіеўскі ды іншыя.

Гэты дакумант яшчэ чакае дасканалага вывучэньня, але ўжо зь першага знаёмства зь ім пераконваесься, што перад намі важная гістарычная крыніца. Крыніца, што сярод іншых дакумэнтальных сьведчаньняў, паказвае, як успрымала беларускае жыхарства маскоўскую армію. Тую армію, якой савецкая гістарыяграфія стала прыпісвала вызваленчую місію, асабліва ў дачыненьні да Беларусі, і ад якой у сапраўднасьці на край сьвету ўцякалі нават праваслаўныя сьвятары.

Генадзь Сагановіч

# «Так мне напісана ў Страшнай Кнізе...»

Зоя Каўшанка

*Заканчэньне. Пачатак у №10*

... А пасьля я ўжо трошкі пачала хадзіць, і было якраз 23 красавіка. Я сабрала сваю валізку і пайшла на вакзал паветранай чыгункі, каб паехаць да Шчорса. Ён быў у Фінстэрвальдэ, кілямэтраў за 20. Думаю, паеду да яго, ён усё-ткі ў шпіталі працуе, дык і мяне там пакладзе.

Прыходжу ў білетную касу, а касір і кажа: «Es fährt kein Zug». Білеты не прадаюцца. Я залезла на пэрон, села на лаўку й сяджу — куды ж мне падзецца. А тут «кацюшы» гудуць — ужо на вуліцах! І ўвесь час снарады лятуць. Я сяджу. Заб'е, то няхай заб'е, усё роўна, вялікая бяда — так ці так паміраць. Сяджу й думаю — што ж мне рабіць? Няма ніякага выхаду. А тут бяжыць Rotkreuzschwester. Шэранькія яны такія былі, як мышкі, і беленькія ў іх чэпчыкі. Пытаецца, што я тут раблю. Кажу, вось, захварэла й хачу выехаць. «Kommen Sie mit». Забрала мяне, павяла ў нейкі бункер пад зямлёй. Там былі жанчыны й дзеці. Прынесла яна мне кавы — ясна, бяз цукру, ячменнай, але гарачай. Я выпіла, мы пасядзелі трошкі.

І ўсё-ткі прыйшоў нейкі Zug. Нас заладавалі ў гэты Zug і давязьлі да Наўэну. Гэта на захад ад Бэрліна, прыгарад заходняй яго часткі. А далей Zug не пайшоў, бо ўсё было разбомблена. Быў уночы налёт. І нам кажуць: «Цяпер ідзіце вунь туды, там ёсьць станцыя». Да станцыі тры кілёмэтры трэба было йсьці па балоце. Вада стаяла да костак, а гэта ж красавік, халадно яшчэ, вада халодная. Мы йдзем, а самалёты над намі лятуць, лятуць, такія цяжкія, гудзяць, страшныя, а схавацца няма дзе...

Прыйшлі мы ў тое мястэчка, а там кажуць, што ўжо далей цягнікоў няма, ня йдуць цягнікі — лапайце машыну. Пачалі мы лапаць машыны — яны, ясна, вайсковыя ўсе, з салдатамі, а салдаты ахвотна бяруць, як ёсьць месца, пасажыраў, бежанцаў. І плаціць ім ня трэба.

Падыйшла машына, пытаюцца, куды я хачу. Кажу, мне ўсё роўна, абы на захад. Не, кажуць, мы едзем на поўдзень. Другая падыйшла, трэцяя, і нарэшце ўпакаваліся мы ў нейкую машыну, што йшла на Нойштрэліц. Па дарозе нас абстрэльвалі як трэба, было шмат раненых. Прыехалі мы ноччу. У мяне зноў паднялася тэмпэратура, здаецца, такая, што каб пырснуў вадою на скуру, дык зашыпела б. Але неяк я вытрывала да раніцы, прасядзела на вакзале. Пасьля там быў нейкі пункт, дзе бежанцам трэба было зарэгістравацца, каб атрымаць нейкае месца, хоць бы сядзячае. А сядзячае месца можна было атрымаць у кіно. Фільмаў не было, але там можна было пасядзець, падрамаць. І я пайшла на гэтую Stelle, якая выдавала білеты, і кажу, што я хворая. Яны спыталіся, скуль я бежанка (бачаць, што гавару ня чыста па-нямецку). Я кажу, з Беларусі. Ой, кажуць, як шкода, толькі што мы адправілі транспарт украінцаў, каб вы трошачкі раней, мы б вас далучылі да іх. А цяпер, паколькі вы хворая, мы дамо вам картку ў лазарэт.

Лазарэт быў у школе, ложкі без матрасаў. Я падсьцяліла сваю шубку, была ў мяне шуба й паліто, прыкрылася, лягла. І тут нейкая немка надта дасужая, зь дзецьмі, ходзіць і агледае, хто і што. Агледзела мяне, што я ляжу, не падымаюся. Пытаецца: «Чаго?» Я кажу: «Я хворая». Тут жа шпіталь, лазарэт. А яна кажа: «На што вы хворая?» Я ўжо баюся казаць, што на одру, бо гэта надта заразнае, то кажу, што ў мяне ангіна. Дык яна: «О, ангіна, дык гэта ж надта заразная хвароба! А ў мяне дзеці!» Пабегла зараз да лекара, паскардзілася, што трэба мяне забраць, бо я заразная. Прыйшоў лекар, старэйшы немец, агледзеў і кажа ёй: «Тут шпіталь, так што тут хворая й застанецца. А вы з сваімі дзяцьмі забірайцеся адсюль».

Так я там засталася. Прыйшла швэстэрка, прынясла мне маннай кашы. (Яшчэ й цяпер, калі я ем манную кашу, дык успамінаю гэты лазарэт.) Паела я, папіла ячменнай кавы й заснула. І так заснула, што ўночы побач упала бомба, а я ня чула. А раніцай — мне ўжо так добра, я выспалася, добра чуюся, спакойна — раніцай прыходзіць сястра й кажа: «Nu, komm, komm». Куды komm? А на цягнік. Я кажу: «Не хачу нікуды ехаць, мне й тут добра». Яна кажа, тут ня можна заставацца, бо прыйдуць рускія. Я кажу: «А яны мне нічога ня зробяць, няхай прыходзяць». «Не, — кажа, — я вас тут не пакіну». Сьцягнула з ложка й пасадзіла ў цягнік.

Гэты цягнік ішоў у Мэкленбург. Народу шмат — толькі жанчыны й дзеці, і пару старых. І раненыя, тыя, што на машынах параніла. А наверсе, на даху цягніка намаляваныя чырвоныя крыжы. Мы паехалі, а савецкі самалёт спусьціўся амаль нароўні з вокнамі, і сячэ з кулямёту, так што мы бачым і лётчыка, і чырвоныя зоркі. І зноў было шмат раненых. Як толькі ён палятае, дык зараз усе на падлогу, і кажны стараецца як найніжэй, каб наверсе другія былі.

Ну і ў нейкім там мястэчку быў вельмі шчодры Bürgermeister, і даў нам гарачага хлеба (па дарозе бежанцаў кармілі Bürgermeister'ы). Паелі мы гэтага хлеба — захацелася піць, а вадаправод не працуе, разбомблены. А тут возера такое прыгожае. Напіліся мы вады з гэтага возера — як усе пахварэлі на дызэнтэрыю — страх! І я таксама. У мяне апрача одры яшчэ й дызэнтэрыя! Дык я ўжо зусім была, ну... «краще в гроб кладут», ужо горш не магла выглядаць. І сяджу я, прытуліўшыся на лаўцы ў цягніку, чую: немец гаворыць, што вось у тым вагоне памер нехта, і ў тым вагоне памер нехта, а ў нас, кажа, гэтая таксама хутка памрэ. А я так думаю сабе: «А фігу вам, я яшчэ дахаты вярнуся!»

І так па дарозе нас бамбілі некалькі разоў, нягледзячы на тое, што наверсе былі чырвоныя крыжы. А мы ўсё-ткі прыехалі ў Мэкленбург, у мястэчка Нойклёстэр. Маленькае мястэчка, прыгожае, над возерам стаяла. Зараз падбеглі да цягніка гітлер'югенды, забралі ва ўсіх рэчы й пансьлі. Ну і ў мяне таксама. Я йду, а яны за мною валізачку нясуць. І там быў зроблены для бежанцаў прыёмны пункт.

Калісьці гэта быў гатэль, а пры гатэлі ў панадворку вялікі барак, дзе стаялі двухпавярховыя драўляныя ложкі, і туды ўлетку на адпачынак прыяжджалі гітлер'югенды. Вось нас і памясьцілі ў гэты барак. А немкі такія на мяне злосныя, так коса глядзяць, што я ня немка і яшчэ ў дадатку хворая.

А ў гэтым гатэлі быў надта вялікі вінны пограб — вельмі шмат віна. І вось перад тым, як наступалі саветы, гаспадыня гатэлю дала загад, каб гэтае віно раздаць усім, хто хоча, усяму насельніцтву. Каб саветам не дасталася, кажа, лепш свае хай вып'юць. Ну і пайшлі ўсе па віно. А я думаю, што як віна вып'ю, дык можа падужаю трошкі. Бо нічога ні есьці, ні піць ня маю. Пайшла я па гэтае віно. А той, які раздаваў, нейкі немец, паглядзеў на мяне: Як вам, кажа, ня сорамна, вы й так ужо ўпіўшыся да таго, што ледзь на нагах трымаецеся, а яшчэ хочаце віна! І ня даў!

А пасьля немкі сказалі, што там недзе ёсьць капец з бульбай і што можна браць. Я пайшла разам зь імі, набрала гэтай бульбы. А гаспадыня гатэлю дазваляла гэтым немкам, бежанкам варыць на сваёй кухні. І я таксама, начысьціла бульбы, нейкі кацялок дастала, прыйшла, на пліту паставіла. А гаспадыня пасьля прыйшла ў барак і кажа, што яна не жадае, каб тут былі аўслендэры, бо ёй нехта данёс, што я ня немка. А куды ж мне дзявацца? Я ўжо ні маю куды падзецца. Праўда, яшчэ перад тым можна было ўцячы, бо ехалі на захад машыны, і можна было прычапіцца. Але я ўжо ня мела сілы.

Мала таго, як прыйшлі саветы, дык гэтыя немкі пайшлі ў смерш і данесьлі, што я ня немка, што я нейкая бежанка з Савецкага Саюзу. І прыйшоў афіцэр і пытае мяне, хто я, што я. Я кажу, што была вывезеная на работы й засталася. Ён кажа: «Я да вас прыйду заўтра, пагаворым». Але назаўтра ён не прыйшоў, і так гэта ўпяклося неяк.

А аднаго разу я зноў прыйшла на кухню, хацела нешта зварыць. На кухні была гаспадыня гатэлю (муж яе быў тады ў палоне ў ангельцаў), прыгожая немка, маладая. І была Schwesterchen, нейкая яе сваячка. І гэтая Schwesterchen была ў такім строі, як сёстры нямецкія хадзілі — доўгая паласатая спадніца, фартух і чэпчык. І раптам туды ўваходзіць нейкі савет. Без пагонаў, але відаць, што ня просты салдат, і пытаецца віна. Яму кажуць, што віна няма. Ён настойвае, і пасьля прычапіўся да гэтай Schwesterchen. А мне па-расейску гавора, што ён вельмі злосны на немцаў дзеля таго, што яны зьнішчожылі ўсю яго сям'ю, і ён будзе мсьціць, і гэтую Schwesterchen забярэ. А яна таксама прыгожанькая, маладзенькая. Як я гэта пачула, дык кажу ёй: «Schwester, machen Sie daß Sie weg sind». Яна зараз «Ах!» і ўцякла. «Што ты ёй сказала?» «Да я сказала, штобы ана хоць бутылку віна прінесла, што б адцэпіцца ад цебя». Ён трошкі пашумеў, пашумеў, і кажа: «Я мушу йсьці, але я ўсё роўна прыйду, я яе так не пакіну. Я ей атамшчу за сваю сям'ю».

Я пайшла ў барак, лягла. Прыходзіць гаспадыня гатэлю разам з Schwesterchen і пытаецца ў мяне, ці я хворая. Я кажу так, хворая. Што са мной? Кажу, такія й такія хваробы. Schwesterchen зараз пабегла, нейкія біскіты мне прынясла, на кавалак цукру накапала, дала. І гаспадыня кажа: «Як вам што трэба будзе — калі ласка, зьвяртайцеся да мяне й варыць прыходзьце заўсёды, калі хочаце». Я ўжо там жыла тады на поўных правох.

Так я пачала трошкі вылазіць. Была вясна, мусі, пачатак траўня ці канец красавіка. А там, у гатэлі, пасяліліся два савецкія афіцэры. Адзін быў казах такі касавокі, а другі ленінградзец. І вось аднаго разу я вылезла ў гародчык, сяджу на сонцы. Касавокі казах падыйшоў, сеў каля мяне і нешта пачынае па-нямецку мне гаварыць. А я яму кажу: «Да гаварыце па-рускі». «А! А вы скуль?» Я кажу, што была на работы вывезена ды так засталася. Ён кажа: «А ў каго вы былі?» Я кажу: «У адной немкі, працавала як служанка». «Відзіце, што ані с вас здзелалі — вы такая маладая дзеўшка, і да чыво ані вас давялі!» Ну, кажа, хадзіце са мной. Я трошкі завагалася. Ён зразумеў: «Да не бойцесь, каму вы нужны такая! Вы ж самі панімаеце, што вы больша на пакойніка пахожы». Пайшла я зь ім, далі яны мне поўбаханкі хлеба, вялікі кавалак сала, яшчэ чагосьці. Я гэта ўсё забрала. Як пачала есьці — трошкі падужала.



Пасьля яны мне яшчэ давалі хлеба, кансэрвы... Я брала, але глытала са сьлязамі, бо мне было крыўдна, нібы жабраніну ем, як быццам нажабравала.

Яны запазналіся з гаспадыняй гатэлю і пачалі да яе заляцацца. Пачалі прыносіць ёй то мяса, то яшчэ чаго-небудзь, яна варыла, запрашала іх і запрашала мяне, бо яна зь імі не магла дагаварыцца. І я з гэтага карыстала. Варыла яна так, што мне не заўсёды смакавала, па-нямецку, напрыклад, кісла-салодкае мяса. Тушыла бараніну, што яны прыносілі, у масьлянцы. Я гэткай стравы ня ведаю, не прывыкла, і мне яно не смакавала. Ну, але й то добра.

Калі я ўжо трошкі ачуняла, яны мне кажуць: «Трэба табе працаваць». Я кажу: «Дзе я буду працаваць?» Вось, кажуць, у нас стаіць часьць. (А там, побач з гатэлем, быў маёнтак. Відаць, вельмі стары, бо выглядаў як замак на гарэ Гедыміна. Але ўсе гаспадары выехалі. І там стаяла часьць. Ня ў замку, а ў старожцы пры ўваходзе — драўляная старожка, колькі пакояў і кухня. І там было некалькі салдат.) І вось, кажуць, ты будзеш нам варыць. Добра, кажу. А яны паедуць, настраляюць курэй, прывязуць, абскубуць, выпатрашаць — я толькі палажу ў гаршчок і звару. І там быў адзін салдат, які недзе працаваў памочнікам кухара, яшчэ малады. Дык ён мне памагаў. Ён і цыбулю ўмеў добра пакроіць, і бульбу абскрэбсьці. Я й сама гэта ела, і ўжо хутка зноў вылюдзілася, ужо не была такой страшной. Дзіва што, курамі адкыўляцца!

Яны кажуць: «Табе трэба кватэру». Бо я ж усё ў бараку жыла. Пайшлі, паглядзелі, дзе пустыя кватэры ёсьць, бо шмат хто зь немцаў паўцякаў на захад. І знайшлі. Вось тут, кажуць, будзеш жыць? Ну, буду жыць. Гэта недзе на другім паверсе, невялікі дом быў, і там адзін пакой быў. І я начывала ў гэтым пакойку, а ўдзень вяла ім гаспадарку.

Маладыя немкі ўсе хаваліся. Бо савецкія вайсковыя захоўваліся, трэба сказаць, мала непрыстойна, горш як непрыстойна. І скардзіцца не было каму. Бо ў выпадку чаго як пойдуць да камэнданта, а камэндант кажа: «Скажы мне каторы, дык я яго пакараю». А хто ж ведае каторы? Ну, а паколькі я ўжо таксама трошкі вылюдзілася, то й мне трэба было хавацца. І я зноў пайшла ў гатэль і там у пакойку на паддашшы, зусім высока, жыла ў гаспадыні гатэлю.

Есьці ўжо я ад іх не атрымлівала, бо хлеб пачалі выдаваць па картках, па талёнах. Бурмістар даваў усім талёны на хлеб. А ён ведаў, што я Ausländerin, і, відаць, спачуваў. Дык я прыйду, а ён мне замест аднаго талёна дасьць пяць. Я й гэтым немкам давала, бо сама ж не магла зьесьці.

А пасьля я падумала, што мне ўжо няма чаго рабіць у гэтым мястэчку. Трэба ехаць назад. А гаспадыня кажа: «Праўда што, вам трэба выяжджаць, бо тут вам няма будучыні». Сабралася я й паехала ў Бэрлін. Зь вялікімі цяжкасьцямі ў дарозе, ясна, бо тады ўсё было перапоўнена, на вакзалах трэба было чакаць проста на зямлі цэлымі днямі. Прыехала ў Бэрлін, а там таксама — пакуль ня зробіць санітарную праверку, не пускаюць у горад. А на вакзале па тры дні людзі ляжаць, проста на падлозе.

Але вытрывала я й гэта, дастала даведку, што мне ўжо можна ў горад. Пайшла

на тую кватэру, дзе жыла мая знаёмая, якая выехала на захад. Гаспадыня мяне трошкі знала. Я кажу: «Ці прымеце на кватэру?» «Gut, gut». I я пасялілася ў яе. Цяпер мне трэба было нейкую працу, бо інакш не дадуць карткі. У Arbeitsamt мяне скіравалі ў пашывачную майстэрню. Там чалавек пяць працавала ўсяго. Ну й я там працавала.

Але з картак як можна было жыць? На іх давалі 300 грамаў хлеба. Але хлеб пшанічны з канадзкай мукі, такога колеру, як часам сьнег спадзе, і на яго сонца сьвеціць — аж сіні. Хлеб вельмі прыгожы й вельмі смачны. I гэткія булачкі выпякалі па 300 грамаў. Булачку можна было сьціснуць у руцэ. Зьясі — і ня ведаеш, што зьеў, нічога не адчуваецца. А яшчэ на картках бульба была — прыйдзеш у сталовую, там дадуць на картку Pellkartoffel mit Heringssoße, гэта значыць дзьве бульбіны ў лушпайках паложаць на талерку і пальюць расолам, у каторым селядцы моклі, трошкі ён разбоўтаны мукой — гэта называецца Heringssoße. Зьясі гэтыя дзьве бульбіны, і толькі ўстаеш — а тут ужо стаяць нейкія немцы ці немкі— яны зараз пытаюцца дазволу: «Ці можна вашую талерку вылізаць?» Я ўжо на што галодная была, але тое, што на талерцы заставалася, нейкія сьляды гэтага соўса, і то я не вылізвала. Бачыце, які быў голад у Нямеччыне. Або так: стаіць немец на трамвайным прыпынку, ідзе савецкі салдат, кінуў акурак. Немец зараз падхапіў. Усе на яго паглядзелі, маўляў, непрыгожа ты зрабіў. Ён гэта бачыць, кажа: «Мы вайну прайгралі, дык нам так і належыцца». Такі быў настрой.

Калі ж зьяўляўся жытні хлеб, чорны, дык чарга стаяла страшэнная, бо ўсё-ткі ён сытнейшы, чорнага хлеба пад'ясі, дык ужо чуеш. А са мной сталася так, што зь мяне пачала скура злазіць ад голаду. На твары зробіцца маленькая, нібы ўкол шпількай, ранка. I пасьля расьце, расьце і на ўсю шчаку — ад вока да шыі зробіцца. То на шыі, то на лобе, то на галаве. Я ўжо думаю: так уся галава аблысее. А ў мяне густыя валасы былі. Так іх было шкода. I пайшла я да лекара. Ён кажа: «Я вам дам прысыпку, але яна мала што паможа, вам трэба добрае аджыўляньне, калі будзеце добра есьці, дык у вас гэта само сабой пройдзе». А што я буду есьці?

Але ў мяне было — у валізку ўзяла, як адсюль выяжджала — сукенка нейкая лішняя, і яшчэ нешта, ну й матка дала біжутэрыі трошкі, сунула мне, як я ад'яжджала. Пярсьцёнкі былі, і ланцужок залаты. Я ўзяла сукенку, занясла на барахолку. Памяняла яе нейкай савецкай дзеўчыне ваеннай на сала. Пасьля яшчэ нешта занесла. Коратка кажучы, шмат чаго занесла на гэтую барахолку, памяняла то на хлеб, то на сала, і ўжо лепш чулася, і ўжо перасталі рабіцца ранкі.

Аднаго разу прадаю я нешта на барахолцы. Падыходзе савецкі афіцэр. Пачынае таргаваць, стараецца па-нямецку, але ў яго не атрымліваецца, я яму адказваю па-расейску. Ён вылупіў вочы й глядзіць. Я кажу: «Чаго вы так дзівіцеся?» «Такая дама — і вдруг по-русскі!» Дык я думаю — якія ж твае зямлячкі тады, калі — жанчына больш-менш прызваіта апране624 ная й зачосаная, а цябе ўжо дзівіць, што яна па-расейску гаворыць!

Аднойчы забралі мяне ў расейскую камэндантуру. Бо гэты рынак быў каля Брандэнбурскіх варот. Пад Рэйхстагам самым. А з другога боку варот была ўжо Unter den Linden, ужо расейская, і там камэндантура. Дык камэндант часам прыйдзе на барахолку, а там куплялі толькі савецкія, больш не было каму. А яны як нахлынулі, гэтыя вайсковыя з сваімі дамамі, дык хапалі ўсё. I вось гэты камэндант прыйдзе, стане там на прыгорку і пачынае лаяцца, па-расейску, чыстым адборным расейскім эцім... I кіраваў салдатаў, каб яны забіралі тых, хто прадае, і тых, хто купляе. I аднойчы забралі мяне. Прывялі ў камэндантуру, у падвал, і сказалі бульбу чысьціць. Там яшчэ нейкіх жанчын прывялі, і стаялі аграмадныя катлы, шмат бульбы было. Мы начысьцілі бульбу, і нас адпусьцілі.

Я хадзіла шыць у пашывачную, каб мець карткі, і яшчэ пайшла вучыцца на курсы касмэтыкі. На паўгода былі такія курсы. Скончыла я іх і пачала працаваць у касмэтычным кабінэце. Вялі яго дзьве сястры, Fräulein Schuster. А са мной вучылася адна немачка маладзенькая. I яна мела нарачонага — ангельца, ці то вайсковага, ці з цывільнай адміністрацыі. I вось ён паабяцаў ёй грошы, каб яна адчыніла кабінэт у ангельскай зоне ў Бэрліне. А гэтая дзеўчына запрапанавала мне разам зь ёй працаваць. Я згадзілася. А пасьля яшчэ была абвестка ў газэце, што ў Англію набіраюць касмэтычак з Бэрліну, нямецкіх. Умова — ня больш трыццацёх гадоў і не сямейныя. Але я яшчэ думала. Мне хацелася быць са сваімі, бо абсалютна нікога зь беларусаў у Бэрліне не было, хоць убіся — ні аднаго чалавека. Мне ж было надта нудна — ужо каторы год я ўсё адна й адна. I ня ведала дзе іх шукаць.

Аж аднаго разу еду я ў электрычцы, увечары ўжо. Сяджу й бачу, што насупраць сядзіць афіцэр у польскім мундзіры. I з дамай. Мяне афіцэр не цікавіў, але захацелася паглядзець, якая ж у яго дама. Жанчына то заўсёды жанчынай застаецца... А дама сядзіць неяк у цяні, так што твару ня бачна. Я ўсё прыглядаюся, прыглядаюся, пасьля дама да яго прыхілілася, і я бачу — знаёмы твар, і ўжо ведаю, чый, толькі ня пэўная. Бачу, што й яна да мяне прыглядаецца. Тады ўжо я пачакала, пакуль яны будуць выходзіць, і пайшла так, каб быць каля іх. Ну й мы спаткаліся й пазналі адна адну. Але яна ўжо міргнула мне, што не распускай язык надта, і мы гаворым па-польску. Яна кажа: «Я цяпер з табой не магу пагаварыць, бо мы йдзем у Опэру. А давай спаткаемся».

Мы ўмовіліся спаткацца на наступны вечар, на тым самым Bahnhof'е, і тады ўжо пагаварылі так, як трэба, шчыра. Гэта была тая самая Анеля Катковіч, якая са мной жыла, як я захварэла. I пасьля, як паехала тады з Бэрліна, дык яе забралі ў нямецкі Arbeitslager разам зь сястрой. А як прыйшлі саветы, яна падалася за польку й напісала заяву ў польскую дыпляматычную місію. Яе вызвалілі і ўзялі на работу ў гэтую місію. Там яна працавала машыністкай, і сястра яе таксама там працавала канторшчыцай.

Польская Misja dyplomatyczna была ў цэнтры Бэрліна, але жылі яны ў такім раёне, як, напрыклад, Антокаль у Вільні. Пасольства займала для сваіх супрацоўнікаў адну вялікую прыгожую вільлю. Яны зь сястрой мелі адзін пакой.

Я пачала да іх прыяжджаць, але гаварылі мы толькі па-польску, а ўжо як хацелі па-беларуску, дык ішлі на вуліцу. Бо яна баялася за сваё мейсца, бо як даведаюцца, што яна беларуска, зараз аддадуць у савецкае пасольства.

Ад Анелі я дазналася, што мой брат у Ватэнштэце. I як толькі даведалася яго адрас, дык пастанавіла туды ехаць.

Хацела паехаць легальна. Пайшла ў Белы Дом (амэрыканцы называлі яго Белы Дом, а гэта была іх камэндантура), каб атрымаць пропуск у амэрыканскую зону, бо адтуль ужо можна было і ў ангельскую. Ну, прыходжу я туды, ясна, ужо фрызуру накруціла, капялюх на адно вуха, прыходжу — сядзяць два амэрыканскіх вайсковых. Можа яны й цывільныя, але ў мундзірах. Дайшла да мяне чарга, яны заўсьміхаліся ветліва, і я ім сказала, што мне трэба, што хачу пропуск. Добра, кажуць, а якой я нацыянальнасьці? Я кажу, беларуска. Яны пераглянуліся. А была дамоўленасьць паміж заходнімі й Сталіным, што ўсе тыя, хто паходзіць з тэрыторыяў, якія належаць да Савецкага Саюзу, мусяць зьвяртацца толькі ў савецкае пасольства. Амэрыканскае пасольства ці ангельскае ім задаваляць просьбаў ня мае права. Я сказала скуль я родам. Пагаварылі яны нешта між сабой і выдалі мне такога роду даведку: Да нас зьвярнулася міс такая з такой просьбай. Але яна неправідлова падала сваю нацыянальнасьць. Памылка паходзіць адтуль, што яна родам зь Вільні, а Вільня ляжыць у Прыкарпацьці, на тэрыторыі Польшчы, і там усе сябе завуць русінамі. Таму яна назвала сябе беларускай. А фактычна яна зьяўляецца польскай подданнай, полькай, і дзеля гэтага мы выдаем ёй даведку, што яна можа ехаць... З такой даведкай, можа, у Амэрыцы й можна было б рушыцца туды-сюды, куды хочаш. А тут — толькі да першага савецкага патруля, калі б ён быў настолькі граматны, што ведаў бы, дзе ляжыць Вільня.

Калі я пабачыла, што з гэтай даведкай няма чаго рабіць, то пастанавіла скіравацца без усякай даведкі, бо надта ж хацелася спаткацца з сваімі. I вось даведалася, што адна немка таксама кіруецца ў заходнюю зону, ангельскую. А пасьля далучыліся яшчэ нейкі немец і ўкраінка.

I так мы пайшлі ўчатырох. Селі на цягнік і даехалі да Марыенборна. Зайшлі ў карчму. Там было некалькі чалавек. I калі яны даведаліся, што мы хочам туды, дык адны пачалі раіць ісьці ўдзень, а другія — пачакаць да ночы. I яшчэ нам раілі ня йсьці каля млына, а навакол, бо ў млыне савецкі пост. А якраз пачалася завея, мы страцілі дарогу й трапілі на гэты млын.

Нас затрымалі, завялі ў млын і пытаюцца дакумэнты. Немка кажа: «А вы ім скажыце па-расейску, вытлумачце». Я кажу: «А няма дурных, каб я па-расейску гаварыла, дык мяне ўжо й ня пусьцяць адсюль». Дык яны толькі дакумэнты, я ім паказваю нямецкі пашпарт, а яны: «Фраў, інгліш дакумэнт!», а я ім зноў гэты пашпарт, яны зноў: «Фраў, англіш дакумэнт!», і я ім нямецкі пашпарт зноў пад нос. А ён круціць, круціць яго й кажа: «Да чорт яе знает, што ў няе тут напісана!» Ён, мусіць, не разьбірае ці па-ангельску, ці па-нямецку — ведае адно, што не па-расейску. А два салдаты былі. Украінку, пусьцілі, бо яна была цяжарная, дык баяліся, каб вось-вось па дарозе ня сталася зь ёй ЧП. I немку пусьцілі. А мяне й немца затрымалі, чамусьці мы ім выдаліся падазронымі. I зачынілі нас у нейкі сьвіран.

Седзімо мы, пасьля агледзелі, што сьвіран на зашчапку зачынены. Мы зашчапку адчынілі й выйшлі. I пайшлі сабе. I тых дзьвюх нагналі. А салдат, відаць, агледзеўся, што нас няма, выйшаў і крычыць: «Цурык, цурык!» А мы толькі хутчэй! Ну, а тут завейка якраз паднялася, і, мусіць, мы ўжо трапілі ў нічыйную зону. Ён махнуў рукой — баяліся, што будзе страляць — не страляў, забраўся, пайшоў дахаты, мусі, не хацеў мерзнуць.

Так мы перайшлі нічыйны пас і ўвайшлі ў нямецкую гранічную зону, а там два заходненямецкіх ужо паліцэйскіх. «Na, meine Herrschaften, was wollen Sie denn hier? Zurück, zurück!» А мы кажам: «Nein, dahin, dahin!», паказваем на захад. Яны ўсьміхаюцца: «Zurück, zurück!», а пасьля кажуць: «Пасьпяшайцеся, праз гадзіну адыходзе цягнік на Браўншвайг, спадзяемся, што вы яшчэ трапіце».

I мы трапілі на гэты цягнік. Зайшла я ў вагон, а там нямецкай мовы і не чуваць — толькі па-ўкраінску, па-расейску ўсе гавораць. Бо гэта ўжо лягеры пачаліся для перамешчаных. Я пытаюся ў нейкіх украінцаў, як трапіць у Ватэнштэт. А яны: «А вы скуль?» «З Бэрліну». «Ой, ды як жа ж вы сюды трапілі? Ды што ж там у Бэрліне чуваць? Як там людзі?» I яны мне расказалі, як трапіць да Ватэнштэта. Даехалі мы да Браўншвайга, а адтуль трэба было яшчэ аўтобусам — кілёмэтраў дзесяць.

Даехала я аўтобусам, дапыталася, дзе гэты лягер, прыйшла туды, і мне паказалі, дзе брат. Прыходжу, адчыніла дзьверы, брат пытаецца з другога пакою: «Хто там прыйшоў?» А братавая кажа: «Ды нейкая немка прыйшла прасіць» (бо немкі ўсё прыходзілі прасіць — у іх шмат было прадуктаў, ім давала УНРА, і яны што горшае аддавалі, а мяса зьядалі самыя). А пасьля пляменьнік кінуўся: «Ой, цёця Зоя, цёця Зоя!..»

Зараз разыйшлася вестка, што я зьявілася з Бэрліна, дык усе думалі — як быццам я з таго сьвету. Прыйшоў Грабінскі, мы селі зь ім, пагаварылі. А тут іншыя падыйшлі — шмат людзей. I была я там, можа, з тыдзень. А тады кажу, што мне трэба зноў у Бэрлін. Брат кажа: «Не яжджай, заставайся тут». А я кажу: «Прыеду зноў хутка». А ён аднойчы прыходзе й кажа: «А я цябе ўжо запісаў тут у лягер, у сьпісы перамешчаных асобаў». «Не, — кажу, — я ўсё роўна паеду».

Я ўжо сабралася ехаць і неяк аднаго разу пайшла на вахту. А на вахце Шыла сядзіць каля вахцёра. Віленскі Мікола Шыла. I там жа быў Букатка, старшыня Беларускага Прадстаўніцтва ў Бэрліне. А Шыла быў у яго як бы лёкаем. Толькі я прыйшла на вахту, адразу Шыла пазваніў Букатцы, што я ўжо еду.

Я паехала, але неяк сталася, што цягнік ня йшоў ці не магла выехаць у той час. I вярнулася зноў. I Шыла зараз жа даў знаць Букатцы, што я вярнулася. А Букатка часта прыходзіў да брата тады, як я была. I ён, як я сказала, што зноў прыеду, кажа так: Дык я вам памагу прыехаць, каб вы ня йшлі пехатой праз граніцу. Я вам дам адрас у Бэрліне, там ёсьць нейкая транспартная фірма, якая вас перавязе. З дакумэнтамі, з усім. Я яму паверыла. Ну й вось я другі раз паехала, і другі раз Шыла ўжо звоніць яму з вахты, што я ад'яжджаю. I тады ўжо я не вярнулася.

Зьвярнулася я да гэтай фірмы, і за мной пачаў хадзіць нейкі немец. Я жыла тады між іншым у пані Дубейкаўскай. У жонкі Дубейкаўскага, што быў тут інжынэр. Я мела кватэру ва ўсходняй зоне, але неяк Анеля пазнаёміла мяне з гэтай пані Дубейкаўскай, і пані Дубейкаўская кажа: «Прыходзьце да мяне жыць. Бо я, — кажа, — адна». А яна ўжо старэнькая была зусім. «Ну й пакуль вы яшчэ будзеце ў Бэрліне, дык вы начуйце ў мяне». I я да яе перасялілася.

А яна наймала кватэру ў нейкай немкі, таксама старой. Ну й вось да гэтай немкі пачаў прыходзіць нейкі немец і пытацца пра мяне. I пасьля гэтая немка кажа, што ён хоча са мной пагаварыць. Я кажу: «А я не хачу зь ім гаварыць». I гэтая немка надта абурылася, што я не люблю немцаў і не шаную немцаў і наогул я проціў немцаў і дзеля гэтага не хачу зь ім гаварыць.

I ўсё роўна за мной ужо хадзіў хвост. Я так надта не заўважвала, не зьвяртала ўвагі, але ўсё-ткі бачу, еду часам у трамваі ці ў мэтро, бачу, сядзіць напроціў і глядзіць на мяне, уталопіўшыся. Усё той самы. Але я жыла тады ў ангельскай зоне ці амэрыканскай, Цэлендорф — ня памятаю. Дык у гэтай зоне яны не маглі мяне ўзяць. Але неяк мне трэба было ў савецкую зону, дык я прыехала на Александар-пляц, а там была перасадка, як толькі я выйшла, адразу да мяне падыйшлі два немцы: «Kommen». Завялі ў Polizeipräsidium, а адтуль у савецкую камэндантуру. Ну, а далей ужо нецікава...

Запісаў Сяргей Шупа

**Рэдакцыя «НН» мяркуе выдаць поўную кнігу ўспамінаў Зоі Каўшанкі. Тым часам у рэдакцыі падрыхтаваная да друку кніга «Мае ўспаміны» Юліяны Вітан-Дубейкаўскай — пра апошнія гады жыцьця Івана Луцкевіча.**

# Культурная спадчына Княства

Адам Мальдзіс

Вялікае Княства Літоўскае фармальна спыніла сваё йснаваньне 200 гадоў назад — у час трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Але яшчэ доўга яно заставалася ў многім жывым арганізмам. Ідэя аднаўленьня Княства рэанімавалася рознымі групоўкамі й дзеячамі, асабліва ў вайну 1812 г. А Літоўскі статут дзейнічаў на тэрыторыі Літвы й Беларусі да 30-х гадоў XIX ст.

Памяць пра Вялікае Княства жыла ў народзе — пераважна ў асяродзьдзі інтэлігенцыі, то аб'ядноўваючы яе, то разьядноўваючы. У XIX ст. стаўленьне да Княства было дадатным і нават апалягетычным — яно супрацьпастаўлялася Расейскай імпэрыі, нацыянальнаму прыгнёту (прыгадаем «Мужыцкую праўду» К.Каліноўскага). На пачатку XX ст. беларускія адраджэнцы пачалі гаварыць пра «залаты век», які перажывала беларуская культура ў Княстве ў XV-XVI ст., і гэта ўвогуле адпавядала сапраўднасьці, асабліва пры параўнаньні з папярэднімі й наступнымі часамі. Прыхільныя былі адносіны да Княства і ў 20-я гады, калі ў БССР галоўны агонь крытыкі быў скіраваны супраць палянізатарскіх тэндэнцый. Імёны літоўскіх князёў называліся з павагай, а іх дзеяньні лічыліся часткай айчыннай гісторыі.

Сытуацыя рэзка зьмянілася ў 30-я і асабліва ў 40-я гады, пасьля вайны (у вайну, праўда, прыгадвалі традыцыі Грунвальда). Паступова зь літоўцаў ляпіўся вобраз іншароднага, ворага. У беларускіх партыйных дакумэнтах 1947-1949 г. вялікія літоўскія князі параўноўваліся з татара-мангольскімі заваёўнікамі, а само Княства характарызавалася як дзяржава чужая, варожая беларусам. Маўляў, яна была заснаваная літоўскімі фэадаламі, якія сілай захапілі беларускія землі.

Супярэчлівымі зьяўляюцца адносіны да Княства і ў сучаснай Беларусі. Яго гісторыя, спадчына (да прыкладу, супольная перамога пад Воршай 1514 г.) выклікае вострыя спрэчкі ў друку, нават палярызуе грамадзтва. Княства называецца то выключна беларускай, то выключна літоўскай, то беларуска-літоўскай ці літоўска-беларускай дзяржавай. Тое ж адбываецца зь вялікімі князямі.

І сапраўды — хто яны для нас, вялікія літоўскія князі? Чужынцы ці свае? Несьлі беларусам зло ці дабро?

Я перакананы, што беларусы павінны быць удзячныя вялікім літоўскім князям — людзям ініцыятыўным, рашучым, кемлівым, добрым ваярам (прынамсі такімі паўстаюць яны перад намі са старонак летапісаў) за тое, што яны, абапіраючыся на магнацтва й баярства, стварылі моцную й вялікую дзяржаву, якая была ў стане абараніць беларускія землі ад татара-мангольскай навалы.

Беларусы павінны быць удзячныя князям і Княству, бо дзякуючы ім мы, у адрозьненьне ад Масковіі, яшчэ ў XIV-XV ст. увайшлі разам зь імі ў Эўропу, у той або іншай ступені застаемся ў ёй да сёньня. Літоўскую Русь абмінуў трагічны лёс Русі Маскоўскай. І дзякуючы гэтаму наша культура, наша думка перажылі, няхай з пэўным спазьненьнем, усе тыя стадыі й напрамкі, што й Заходняя Эўропа, — гуманізм і Рэфармацыю, контррэфармацыю і Асьветніцтва, зьведалі асноўныя мастацкія стылі — готыку, рэнэсанс, барока, клясыцызм. Бяз гэтага мы былі б бяднейшыя на крэўскі й лідзкі, мірскі й нясьвіскі замкі, сынковіцкі і мураванскі абарончыя храмы, выданьні С.Буднага й В.Цяпінскага, ілюстрацыі да Радзівілаўскага летапісу.

Мы павінны быць удзячныя вялікім князям за тое, што яны, застаючыся ў паганстве, далі шанцы праваслаўю, а зь імі, у патэнцыі, старабеларускай мове, якая стала дзяржаўнай. Што б ні гаварылі скептыкі, называючы яе то старажытнарускай мовай, то канцылярскай мовай Вялікага Княства (быццам тады магло йснаваць нешта накшталт эспэранта, не зьвязанае зь ніякім этнасам), большасьць аўтарытэтных лінгвістаў сьвету сёньня сходзіцца на тым, што аснова ў ёй усё ж беларуская. Яна разьвівалася, пазбаўлялася ад царкоўнаславянізмаў, насычалася літуанізмамі, лацінізмамі, але гэта не мяняе сутнасьці. Для доказу варта пачытаць хаця б акты Ковенскага (Каунаскага) гарадзкога суда, дасьледаваныя ў свой час літоўскім філёлягам А.Антанавічусам.

У сваю чаргу вялікія князі і ўсё Княства павінны былі б быць удзячныя продкам сучасных беларусаў за тое, што яны склалі асноўны людзкі, эканамічны й ваенны патэнцыял дзяржавы, безь якога немагчымыя былі б ні перамога пад Грунвальдам, ні шырокія гандлёвыя сувязі, ні росквіт культуры. Дзякуючы беларусам кнігадрукаваньне пачалося ў Княстве, яго сталіцы на паўстагодзьдзе раней, чым у суседзяў, што адразу ўзьняло на парадак вышэй усю асьвету ў супольнай краіне.

А калі мы павінны сёньня, гаворачы пра мінулае, пра спадчыну, выказваць адны адным словы падзякі, то чаму ж мы не павінны шанаваць літоўскіх дзеячоў, князёў, гісторыю, а літоўцы — нашых?!

Дык як жа тады быць нам сёньня з культурнай спадчынай Вялікага Княства Літоўскага? Лічыць яе выключна літоўскай? Выключна беларускай? Ці, можа, агульнай? Кіруючыся палітычнымі меркаваньнямі, дасьледчыкі, скажам, летапісаў або статутаў, катэгарычныя ў сваіх высновах: толькі наша! Быццам духоўную, мастацкую спадчыну можна падзяліць, як зямлю, тэрыторыю, матэрыяльную маёмасьць, разрэзаць мяжою ў самым недарэчным месцы.

Пры адносінах да культурнай спадчыны Вялікага Княства Літоўскага, як мне здаецца, мы павінны ўлічваць два вельмі йстотныя моманты.

**Першы.** Вялікае Княства Літоўскае зьяўлялася (і гэта прызнаюць літоўскія калегі) дзяржавай поліэтнічнай. Апрача продкаў сучасных літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў тут жылі татары, жыды, палякі, маскавіты, немцы, італьянцы. Прытым з пункту гледжаньня антрапалёгіі, напрыклад, беларускага вучонага А.Мікуліча, найбольш блізкія сярод іх — якраз беларусы й літоўцы. Адначасова гэта была дзяржава поліканфэсійная. Праваслаўна-візантыйскі сьвет уваходзіў тут у самае цеснае ўзаемадзеяньне з каталіцка-лацінскім і пратэстанцкім. Усё гэта вяло да сынтэзу, якім стала, скажам, уніяцтва. Таму й культура ў Княстве была сынтэтычная. Дастаткова прыгадаць летапісы, статут. Асабліва яркі тут прыклад — спадчына нашага першадрукара Францішка Скарыны. Да гэтага часу не заціхаюць спрэчкі, хто ён: католік Францішак ці праваслаўны Георгій, лацінянін-заходнік ці артадаксальны ўсходнік. А ён быў і тым, і другім. Як прыхільнік хрысьціянства ў яго першапачатковым выглядзе ён імкнуўся да паяднаньня абедзьвюх канфэсіяў, абапіраўся і на заходнія, і на ўсходнія традыцыі. Такі ж сынтэз мы бачым у тагачасным летапісаньні, жывапісе, уніяцкім дойлідзтве. Культурнае пагранічча давала тут добры плён, спараджала арыгінальныя мастацкія зьявы, якія сёньня ў большай частцы належаць абодвум суседнім народам.

**Другі.** Гаворачы пра культуру Вялікага Княства Літоўскага як пра нашу спадчыну, трэба мець на ўвазе яе эвалюцыю. На раньнім этапе, у XIV-XV і на пачатку XVI ст. на першы плян у грамадзтве выступалі агульнадзяржаўныя інтарэсы. І яно зразумела: Княству ўвесь час пагражалі — то з захаду, то з усходу. Усё гэта жывіла агульнадзяржаўны патрыятызм. Нездарма Скарына, паступаючы ў Кракаўскі унівэрсытэт, называў сябе літуанусам... Аднак з другой чвэрці XVI ст., у сувязі з фармаваньнем нацыянальнасьцяў, узмацняецца этнічны пачатак, які часта мае канфэсійную афарбоўку. Таму многія культурныя зьявы сярэдзіны й другой паловы XVI ст. мы павінны ўжо аднесьці або да беларускай, або да літоўскай спадчыны. Мы ўжо ня можам прэтэндаваць на М.Мажвідаса ці М.Даўкшу, а літоўцы — на С.Буднага ці В.Цяпінскага.

Гэтая эвалюцыя добра ілюструецца на прыкладзе летапісаньня. У раньніх помніках гэтага жанру, у «Летапісцу вялікіх князёў літоўскіх» і Беларуска-літоўскім летапісе 1446 г., адбілася, як пераканаўча паказаў В.Чамярыцкі, літоўска-славянская канцэпцыя ўзьнікненьня княства: аднолькавая (ці амаль аднолькавая) увага ўдзялялася і «рускім», і літоўскім землям, а іх аб'яднаньне паказвалася, як заканамерны й дабраахвотны акт, выкліканы небясьпекай з боку крыжакоў і мангола-татараў. Таму па зьместу летапісныя помнікі XV ст. можна лічыць агульнай спадчынай як беларусаў, так і літоўцаў.

Зусім іншая канцэпцыя праводзіцца ў «Хроніцы Вялікага Княства Літоўскага й Жамойцкага», якая ўзьнікла ў 1522-1527 г. у асяродзьдзі этнічна літоўскіх патрыётаў Альбрэхта й Станіслава Гаштольдаў (Гоштаўтасаў) і біскупа Паўла Гальшанскага. З назвы помніка, хоць і напісаны ён на старабеларускай мове, ужо зьнікла само слова Русь. Аўтар (ці аўтары) ў літоўскую карысьць выкарыстаў ранейшыя летапісы, дадаў да іх новыя, легендарныя сюжэты. Галоўная ідэя «Хронікі» зводзіцца да таго, што Літва вышэй Русі, што Літва заваявала беларускія і ўкраінскія землі й цяпер мае на іх неаспрэчнае права. Вытокі Вялікага Княства Літоўскага бачацца не ў Цэнтральнай Літве, а ў пэрыфэрыйнай Жамойці: менавіта туды прыплыў са старажытнага Рыму мітычны князь Палямон, ад якога нібы вядуць свой род Гаштольды, менавіта адтуль пачалося «звати и множити» ўсё «панство Литовское». А гісторыя беларускіх і ўкраінскіх земляў тут выглядае неістотным дадаткам да гісторыі літоўскай. У «Хроніцы» ўпершыню выразна парушаецца «літоўска-руская раўнавага», характэрная для летапісных помнікаў XV ст. (дый для самой тагачаснай рэальнасьці, вядома).

На нашу думку, гэтая «Хроніка» зьявілася своеасаблівым адказам на праскія й віленскія выданьні Францішка Скарыны. Дзякуючы ім «руская» культура ў Княстве ўзьнялася на адзін «парадак» вышэй. Усё гэта не магло ня выклікаць рэакцыі супрацьлеглага рэлігійна-нацыянальнага лягеру, на чале якога стаялі Гаштольды й Гальшанскія. Выданьні Скарыны падзейнічалі на іх як каталізатар, як стымул. І вось, нібы ў адказ, праз некалькі гадоў стварaецца «Хроніка»; у 1529 г. у тым жа асяродзьдзі зьяўляецца Літоўскі статут у яго першай рэдакцыі... Паміж выданьнямі Скарыны й гэтымі творамі йснуе, відаць, ня толькі пасьлядоўнасьць у часе, але й прычынная залежнасьць. Дзейнасьць беларускага першадрукара была скіраваная перш за ўсё на абуджэньне самасьвядомасьці беларусаў. Але, як кожны выдатны прыклад, становячы паўплывала таксама на суседзяў, прычынілася да фармаваньня літоўскай самасьвядомасьці, прысьпешыла літоўскае кнігадрукаваньне. Нездарма ў прадмове да «Катэхізіса» М.Мажвідаса столькі сугучнага з прадмовамі Ф.Скарыны.

У канцы XVI — першай трэці XVII ст. дыфэрэнцыяцыя культуры Вялікага Княства працягвалася — як у яго сталіцы (кнігадрукаваньне), так і на «пэрыфэрыі» (палемічная літаратура, асабліва творы Афанасія Філіповіча). Аднак і ў гэты пэрыяд частка спадчыны (найперш лацінамоўная й польскамоўная творчасьць А.Рымшы, І.Радвана, М.Стрыйкоўскага, М.Сарбеўскага, А.Волана і інш.) зьяўлялася й застаецца сёньня агульнай (як, дарэчы, і «Песьня пра зубра» М.Гусоўскага).

Такім чынам, як і сама дзяржава, культура Вялікага Княства Літоўскага мела поліэтнічны й з гэтай прычыны непазьбежна сынтэтычны характар. Таму ня ўсё ў ёй паддаецца чляненьню, дзяленьню па нацыянальных прыкметах. Значная частка нашай спадчыны зьяўляецца супольнай і як такая можа сёньня служыць (пры ўсёй розьніцы ў тэмпах сацыяльных пераўтварэньняў) падставай і абгрунтаваньнем новага збліжэньня і ўзаемнага разуменьня паміж суседнімі дзяржавамі й народамі.



# САНІТАРНЫ КАРДОН

*Яшчэ пра «добраахвотнае ўзьяднаньне Беларусі з Расеяй»**

Яўген Анішчанка

**Як сталася, што вольналюбівая шляхта Вялікага Княства Літоўскага фактычна бяззбройна аддала ў 1772 годзе частку сваёй айчыны пад панаваньне імпэратарскай Расеі? І ці быў увогуле таму супраціў сярод грамадзкага стану, які кожны замах на свае прывілеі сустракаў стварэньнем узброеных канфэдэрацый?**

За год да далучэньня, у 1771 г. расейскі пасол у Варшаве Сальдэрн сьцьвярджаў, што ў Рэчы Паспалітай — а значыць, і ў ВКЛ — маецца да 20 тысяч «скрытно недовольных» увядзеньнем пастаяннай прысутнасьці царскіх войскаў і расейскага пратэктарату. Гэткія паведамленьні надта непакоілі пецярбурскі двор, які дбаў аб вяршэнстве над лігсам зьнясіленай шматлікімі канфэдэрацыямі (а па-сутнасьці, няспыннай грамадзянскай вайной) дзяржавы.

Царызму спрыялі нязгоды ў шляхецкім асяродзьдзі, расколатым на варожыя партыі прарасейцаў і патрыётаў па ваяводзтвах і паветах.

* *Першы артыкул з гэтага цыклю быў надрукаваны ў «НН» N7 за гэты год*

Спробу аб'яднаць іх у адзіны паўстанцкі рух зрабіў генэральны рэгімэнтар Беларускай дывізіі Вялікага Княства Шыман Касакоўскі. 15 ліпеня 1771 г. ён выдаў унівэрсал, у якім пад пагрозай суровай кары загадваў вялікакняскай шляхце выставіць з кожных 10 курных хат коньніка з абмундзіраваньнем, шабляй, карабінам, «пісталетам на 100 зарадаў» і чатырма злотымі на тыднёвае ўтрыманьне. Калі не было сялян, прымусовы набор у апалчэньне замяняўся на 45 талераў.

Ваенная калегія Расеі адразу прыняла адказныя меры барацьбы. З усяе 83-тысячнай расейскай арміі на мяжу з Рэччу Паспалітай яна пасунула 18 палкоў або 23.800 чалавек пяхоты й коньніцы. На выпадак адпору рыхтавалася яшчэ 15 пяхотных палкоў (41.912 чалавек), 100 эскадронаў і 5 казачых палкоў (17.626 чалавек). Часткі гэтай моцы ў сьнежні 1770 г. утварылі санітарны кардон па Заходняй Дзьвіне. Там яны рабілі пeратрус на суднах, якія, як меркавалася, вязуць зброю для літоўскіх канфэдэратаў з Рыгі. Вялікае Княства было ўзятае ў жалезнае кола, праз якое вольна лёталі, мабыць, толькі буслы.

Аднак 5 чэрвеня 1771 г. Пецярбург здрыгануўся ад весткі пра зьяўленьне «многих зборищ шляхты» (да 900 чалавек) каля Вільні. 11 ліпеня наўгародзкі губэрнатар Я.Сіверс паведаміў аб зборы ў Браслаўскім павеце 600 патрыётаў пад кіраўніцтвам Кавалеўскага й Касакоўскага. Наскокі з расейскіх памежных фарпостаў на гэтыя дробныя шляхецкія высілкі былі марныя: 100 канфэдэратаў на чале з браслаўскім старостам Ваўжэцкім рушылі на злучэньне з мсьціслаўскім ваяводам Гільзенам. Па дарозе да іх далучыліся яшчэ 100 чалавек з шасьцю гарматамі.

Неўзабаве «верный диссидент» Зарэмба, а таксама нейкі жыд і апочацкі купец паведамілі аб зьяўленьні 1100 канфэдэратаў пад Браславам. Там яны разыйшліся: сам Касакоўскі рушыў на Дынабург на дапамогу 2-тысячнай грамадзе, Сапега з 700-мі ваярамі скіраваўся на Друю, а Плятар з 300-мі — пад Краславу. Сіверс ў роспачы дакладваў, што «по слухам» пад Себежам, Валынцамі й Полацкам згуртавалася каля 3-3,5 тысяч канфэдэрацкіх «шаек», якія маюць намер спаліць Себеж. Так і здарылася. Чырвоны певень і рабункі... Памежных расейскіх памешчыкаў ахапіў жах. Наўгародкія сяляне, — пісаў Сіверс, — «так волнуются, что при первом нападении разбегутся». Кемлівы губэрнатар параіў дваранам вялікалуцкай правінцыі ўзброіць па 40 уласных прыгонных і выставіць яшчэ па чалавеку на фарпостах для падтрымкі гарнізонаў.

Сэнат адмовіўся ўзбройваць сялян. Але й памежная ахова была заслабая. Між тым шкода чынілася акупантам па ўсёй мяжы. У жніўні «мятежники» з-пад Рагачова й Гомля спалілі казачы лягер Чарнігаўскай і Старадубскай канцылярыі.

Указам за 20 чэрвеня 1771 г. Сэнат перадаў камандаваньне спэцыяльным корпусам «в Польше и Литве» (3 карабінэрныя, 4 пяхотныя й казачыя палкі) генэрал-паручніку А.Бібікаву, які атрымаў настаўленьне «мятежников разогнать и истребить, чтоб они ближе 10 миль (74 км.) от нас не были».

Мяжу разьбілі на ўчасткі пад аховай 2 палкоў пяхоты й 6 эскадронаў. У Вялікіх Луках стаў дэташмэнт Варонескага драгунскага палка на чале з падпалкоўнікам Ангеларам (2 экадроны й 2 роты з дзьвюма гарматамі), каля Полацку — драгунскі аддзел падпалкоўніка Дэбандрэ (2 конныя й 2 пяхотныя роты з гарматай), пад Віцебскам — роты мушкецёраў і Уладзімерскіх драгунаў. Адрэзак мяжы паміж Сма-

# «АСУДЖАНЫЯ» НА СУСЕДЗТВА

Гутарка Генадзя Сагановіча зь Юліюшам Бардахам



Юліюш Бардах (нар. 1914) — прафэсар Варшаўскага Ўнівэрсытэту, доктар габілітаваны, сапраўдны член Польскай Акадэміі Навук. Аўтар многіх працаў па гісторыі права, розных праблемах гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, мэтадалёгіі гістарычных дасьледаваньняў.

**Г.С. Шаноўны прафэсар. Мала хто ведае гісторыю сярэднявечнай Беларусі так добра, як Вы. Скуль паходзіць Ваша цікавасьць?**

Ю.Б. Мая цікавасьць да ладу й права Вялікага Княства Літоўскага датуецца з студэнцкіх часоў, калі як слухач Аддзяленьня Права й Грамадзкіх Навук Унівэрсытэта Сьцяпана Батуры я пачаў у 1934 годзе наведваць сэмінар літоўскага права, які вёў прафэсар Сьцяпан Эрэнкройц. Літоўскае права прыцягнула мяне тады й прыцягвае надалей сваёй складанасьцю й арыгінальнасьцю адначасова. Як само Вялікае Княства Літоўскае было палітычным арганізмам, што злучаў каталікоў літоўцаў і праваслаўных русінаў — продкаў пазьнейшых беларусаў і ўкраінцаў, а пасьля апынулася ў вуніі з Польскім Каралеўствам, так і яго права было сынтэзам арыгінальных літоўскіх і рускіх пачаткаў з уплывамі польскімі і — шырэй — заходнеэўрапейскімі. Апошнія ўзьдзейнічалі рознымі шляхамі.

**Г.С. Ці тады, у даваенным Віленскім Унівэрсытэце, Вы ведалі каго-небудзь зь беларускіх гісторыкаў?**

Ю.Б. Мае першыя кантакты як студэнта датычылі перад усім калегаў беларусаў. Сярод іх найлепей я запомніў Ганну Карпенку зь Беластоку. Яна належала да Саюзу Студэнтаў Беларусаў Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры. У 30-я гады гэта быў жывы асяродак грамадзка-палітычнай і нацыянальнай думкі. Ён варты дэталёвага вывучэньня (калі дагэтуль гэта ня зроблена). Ганна была радыкальная, як большасьць студэнтаў беларусаў, але абапіралася галоўным чынам на ўласныя развагі й аналіз навакольнай рэчаіснасьці. Ня ведаю, як склаўся яе далейшы лёс.

На VI Усеагульным Зьезьдзе Польскіх Гісторыкаў у Вільні ў верасьні 1935 г., дзе я быў адным з наймалодшых удзельнікаў (малодшы за мяне быў — як мы высьветлілі нядаўна — студэнт Варшаўскага Ўнівэрсытэту 19-гадовы Аляксандар Гейштар), я пазнаёміўся з двума рэфэрэнтамі беларусамі. Адным зь іх быў Вінцэнт Грышкевіч, які на Сэкцыі Гісторыі Права, дзе я пільна вёў пратакол паседжаньняў, выступіў з рэфэратам: Роля беларускіх земляў у польска-літоўскіх вуніях. На Сэкцыі Палітычнай Гісторыі Антон Луцкевіч чытаў рэфэрат на тэму: Нарадавольцы-беларусы і іх орган «Гоман». Гісторыкі беларусы працавалі ў Вільні ў цяжкіх умовах. Нягледзячы на тое, што ў статуце Ўнівэрсытэту Сьцяпана Батуры ад 1921 г. былі прадугледжаны катэдры беларускай мовы й літаратуры і гэтаксама — літоўскай мовы й літаратуры, яны ніколі не былі занятыя, фармальна «з-за недахопу адпаведных кандыдатаў», а фактычна ў выніку супраціву, галоўным чынам Міністэрства Рэлігійных Вызнаньняў і Публічнай Асьветы. У віленскім унівэрсытэцкім асяродзьдзі шэраг асобаў дарэмна стараўся перамагчы нагрувашчаныя перашкоды. У найбліжэйшым мне навуковым асяродку — Студыях Гісторыі Літоўскага Права, створаным пасьля шматгадовых намаганьняў у 1934 г. пад кіраўніцтвам праф. Сьцяпана Эрэнкройца, ад'юнктам быў дацэнт Севярын Віславух, жыва й эмацыйна зацікаўлены беларускай праблематыкай. Ён быў аўтарам разьдзелу: Беларусы на Віленшчыне ў калектыўнай працы «Wilno i Ziemia Wileńska» (т.1, 1930) і разьдзелу ў манаграфіі ашмянскага павету — Ашмянская зямля на рубяжы дзьвюх культур. Гістарычныя дасьледаваньні С.Віславуха датычылі між іншым сфармаваньня Кобрыньскага павету, шляхоў Палесься ў XV-XVII ст., разьвіцьця Магілёва ў XVI-XVII ст. (як удакладненьне дасьледаваньняў Генрыка Лаўмянскага на тую ж тэму), камунікацыйных паслугаў ў магдэбурскіх гарадох Вялікага Княства Літоўскага. Пераходзячы да сучаснасьці, ён апублікаваў працу: Роля Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі ў нацыянальным руху беларусаў у Польшчы (1933), дзе сфармуляваў пагляд, што КПЗБ была найперш правадніком імпэрскіх ідэй у палітычным жыцьці Заходняй Беларусі. У паўсталым у 1931 г. Навукова-Дасьледчым Інстытуце Ўсходняй Эўропы ён меў аддзел нацыянальных спраў. Мяркую, што калі захаваўся архіў гэтага Інстытуту, то яго матэрыялы для беларускіх гісторыкаў маглі б мець немалую каштоўнасьць.



**Г.С. Напэўна, Вас ня могуць абмінуць сучасныя спрэчкі вакол спадчыны Вялікага Княства Літоўскага — чыя яна. Часам ствараецца ўражаньне, што літоўскія гісторыкі разглядаюць яе сабе, беларускія — сабе...**

Ю.Б. Вялікае Княства Літоўскае было дзяржавай літоўска-рускай, а пасьля Люблінскай вуніі 1569 г., калі Валынь, Кіеўшчына і ўсходняе Падольле (брацлаўскае) былі інкарпараваныя ў склад Польскага Каралеўства, — дзяржавай літоўска-беларускай.

Літоўскія князі на чале ўзброеных дружын здолелі згуртаваць ў XIII-XIV ст. пад сваёй уладай вялізныя тэрыторыі ў басэйне Дняпра ад яго крыніц да парогаў, а намінальна — да паўночных берагоў Чорнага мора. Значную большасьць насельніцтва Вялікага Княства — як ацэньваецца, звыш 80% — складала насельніцтва рускае, якое з канца X ст. вызнавала хрысьціянства ўсходняга грэка-візантыйскага абраду. Рускія землі захоўвалі самакіраваньне, уласныя правы й традыцыі. Доўгі час паганская, этнічная Літва ў канцы XIV ст. прыняла хрост паводле заходнелацінскага абраду. Этнічныя літоўскія валадары прынялі каталіцызм між іншым з той мэтай, каб запыніць працэсы рутэнізацыі й сьцьвердзіць утрыманьне ў сваіх руках палітычнай улады ў Вялікім Княстве. Рускія князі й баяры былі аднак той сілай, якая змусіла літоўцаў падзяліцца зь імі ўладай. Працэс, які адбываўся ўсё XV ст., прывёў да таго, што ў пачатку наступнага стагодзьдзя ў палітычных колах Вялікага Княства праваслаўныя русіны складалі звыш 40%. Уладальнікі найвышэйшых пасадаў Хадкевічы, Сапегі й шмат іншых магнацкіх родаў былі беларускага паходжаньня.

Культурная й колькасная перавага русінаў прывяла да таго, што іх мова, якая мела сваю пісьмовасьць, стала мовай канцылярыі і судоў Вялікага Княства, урадавай мовай. Гэтую мову, адрозную ад мовы Маскоўскай Русі, у XVI-XVII ст. вызначалі як «літоўскую», відавочна ў дзяржаўным сэнсе. Побач зь ёй існавала літоўская мова ў вузкім значэньні гэтага слова (аўкштоцкія й жамойцкія дыялекты), якая ў XVI ст. стварыла ўласную пісьмовасьць, але яна не перакрочыла межаў этнічнай Літвы й не здабыла пазыцыі урадавае мовы. Такой мовай старабеларуская заставалася да XVII ст., калі ў 1696 г., у выніку наступу ў некалькіх пакаленьнях моўна-культурнай паланізацыі эліты, як літоўскай так і беларускай, саступіла сваё законнае месца польскай мове як урадавай.

У гарадох Вялікага Княства зь Вільняю на чале гарадзкія ўлады складаліся напалову з каталікоў і праваслаўных. Падобны склад мела кадыфікацыйная камісія, створаная Жыгімонтам Аўгустам для рэдакцыі II Літоўскага Статуту 1566 году.

Можна сьмела сказаць, што Вялікае Княства Літоўскае было дзяржавай літоўска-рускай, а пасьля Люблінскай уніі літоўска-беларускай. Я ня бачу перашкодаў, каб у беларускіх школах казаць пра Вялікае Княства, як дзяржаву беларуска-літоўску о, бо гэтак прынята ў міждзяржаўных ад юсінах, калі ў білятэральных арганізацыях на першае месца ставіцца назва ўласнай дзяржавы. Важны зьмест уроку, які ўзгадняе абодва складовыя элемэнты дзяржавы.

Імя «літовец» у XV-XVIII і яшчэ ў XIX ст. мела найперш тэрытарыяльна-палітычны характар. Ім вызначалася агульнасьць жыхароў Вялікага Княства, незалежна ад іх этнічнай прыналежнасьці й веравызнаньня. Яго мінулае, традыцыі складаюць спадчыну ў роўнай меры і беларусаў і літоўцаў. Гэта супольная спадчына абодвух народаў і — дадамо — таксама палякаў (радавітых і абраных) з тых земляў. Адсюль спрэчкі пра прыярытэт, альбо поўнае адмаўленьне ролі другой этнічнай супольнасьці — беспадстаўныя й супярэчныя з гістарычнай рэальнасьцю. Таму трэба было б жадаць як найхутчэйшага ўзгадненьня пазыцый, што істотна асабліва з гледзішча гістарычнай адукацыі моладзі, суседніх і «асуджаных» на супрацоўніцтва народаў.

*Варшава, 10 сьнежня 1994 г.*

**P.S. Поўны тэкст гэтай гутаркі будзе надрукаваны ў №1 «Беларускага Гістарычнага Агляду» за 1995 год.**

---

ленскам і Полацкам сьцярог Дэбандрэ, а лінію Полацак — Друя пільнаваў Ангелар.

Расейскія камандзіры мелі загад расьсекчы й выціснуць згуртаваныя шляхецкія групоўкі з Жамойці, а затым разьбіць іх паасобку. Але гэтае паляваньне на вялікакняскіх дарогах аказалася марным заняткам. Цяжкая кірасірская коньніца расейцаў дзейнічала няспрытна, а мясцовыя жыхары аказвалі падтрымку рухавым шляхецкім партыям (па 50-100 чалавек). І тады жалезная заслона апчаціліласа.

Маёр І.Кітаеў, даведаўшыся аб захопе ў Полацку судовых кніг ваяводзтва Штэйнам і Шалухам, загадаў схапіць апошніх як бунтаўнікоў. Асабістую недатыкальнасьць ён абяцаў толькі тым, хто «будет тихо сидеть дома и не вдаваться ни в какие конфедерации». Рабунак, кантрыбуцыю ў 500 чырвоных, перасьлед і зьняцьце з пасады абяцалі ўсім, хто «поразумеется помощи с противной нам партии». Паўсюдныя пагрозы далі свой плён.

Падпалкоўнік Фабулаў разьбіў злучэньне Касакоўскага пад Рэжыцамі й ня даў яму падняць шляхту ў Аршанскім павеце, Віцебскім і Полацкім ваяводзтвах. Маёр Я.Кошкін у канцы верасьня выгнаў 400 канфэдэратаў маршала Зіберха з Курляндыі пад Дынабург, а затым з 200-мі пехацінцамі пагнаў Касакоўскага праз Браслаўскі й Вількамірскі паветы. Маёр Кітаеў тымчасам загарадзіў шлях на Магілёў, пабіўшы пры гэтым каля 140 чалавек. Ангелар у Полацкім і Віцебскім ваяводзтвах разьбіў 400 канфэдэратаў, а пад Валынцамі ўзяў у палон самога аршанскага маршалка Штэйна. 12 кастрычніка трапілі ў палон 22 чалавекі з партыі рэчыцкага судовага падстаросты Юдыцкага. Астатніх 1500 канфэдэратаў санктпецярбурскі легіён замкнуў у Гарадзенскім павеце. 3 кастрычніка быў разьбіты атрад Агінскага, а 23 кастрычніка 1771 г. у ваенную калегію паступіла паведамленьне: «в Литве шаек не стало слышно».

Аднак на гэтым царскі ўрад не супакоіўся, і 8 кастрычніка Кацярына II загадала ўтварыць мацнейшы кардон «для охраны границ по Двине и Днепру из формируемых в Смоленске и Дерпте легких полевых команд». Дыстанцыю ад Лоева да Друі (14 пяхотных і 11 кавалерыйскіх рот) узначаліў генэрал-маёр М.Кахоўскі. У дыстанцыю трапілі пасты ў Бабры, Віцебску, Друі, Лядах, Лоеве, Магілёве, Мсьціславе, Менску, Воршы, Полацку, Рагачове.

Як бачым, справа вялася не пра ахову межаў, а пра акупацыю краю. Бо ўжо 2 жніўня на нарадзе расейскага двара меркавалі паставіць войскі ажно да Друці, а 22 жніўня ўвогуле парываліся пасунуць 50-тысячнае войска... пад Берасьце.

Кожны пост расейскай дыслякацыі ператварылі ў «гаўптвахту» й загадалі «наглухо запереть» гарматамі, пікетамі й рагаткамі. На падставе даведак мясцовых уладаў расейскія камандзіры складалі сьпісы шляхты ваяводзтваў і паветаў. Шляхту дзялілі на лаяльную й няверную ды заклікалі, каб рэгістранты «воздержались от возмутительных сборищ, не сообщались с возмутителями». Забараняліся й самавольныя наезды на маёнткі. Калі ж хто «по польскому праву» жадаў чыніць самасуд над праціўнікам, трэба было атрымаць на тое папярэдні дазвол. Расейскі афіцэр сачыў, каб наезд «не обратился под сим предлогом в возмутительное собрание» і каб наезьнік абавязкова вярнуўся дадому. Пры найменшым падозраньні наезд разганяўся.

На разьведку «о сборищах и советах между шляхтою» рассылалі патрулі. Вінаватых, як разбуральнікаў спакою, адсылалі ў Смаленск або Вялікія Лукі. Пры недахопе патрульных шпіёнскія абавязкі выконвалі жыдоўскія кагалы. А дзе іх не было, там патрабавалі «от старших жидов, чтобы они за своим выбором и поруками давали надежных и к разведыванию годных людей, которых для того и разсылать, чтобы они давали тотчас знать о приближении какой возмутительской шайки».

Шляхту літаральна паставілі на калені кантрыбуцыяй: грошы за харчовыя пастаўкі для акупацыйнага корпусу давалі толькі лаяльным асобам. На астатніх распаўсюджвалі прымусовыя паборы з 21 тысяч чвэрцяў збожжа й 64 тысяч пудоў сена, што складала блізу 40 тысяч рублёў. Дый гаўптвахты працавалі напоўніцу — паводле некаторых дасьледчыкаў, праз іх у Сыбір трапіла каля 5 тысяч канфэдэратаў.

Зразумела, чаму пасьля ўсяго гэтага далучэньню беларускай часткі ВКЛ да Расейскай імпэрыі акампаніявалі ня стрэлы, а магільная цішыня. У недасьведчанага сапраўды магло стварыцца ўражаньне пра добраахвотнае прыняцьце расейскай акупацыі насельнікамі Вялікага Княства.

# Сон пра зьніклы Ерусалім

Гірш Кановіч

**Аднойчы я спытаўся ў сябра: як па-беларуску будзе «сапожник»? Чабатар, — адказаў сябра. А «портной»? Шавец, — адказаў сябра. Ён усё пераблытаў. Тое, што зь лёгкасьцю блытае сучасны гарадзкі беларус, ніколі ня зблытае стары беларускі жыд. Рэаліі гораду яшчэ не замацаваліся ў беларускай сьвядомасьці, тым часам як жыдоўскую яны пакідаюць. Разам зь іх носьбітамі.**

**Да другой, а яшчэ больш — да першай сусьветнай вайны жыды былі асноўным насельніцтвам гарадоў і мястэчак краю. Яны стварылі гарадзкую культуру тагачаснай Літвы, а яшчэ больш — тагачаснай Беларусі. Сёньня гэтай культуры няма. Яе выбілі разам зь яе стваральнікамі. На вызваленае такім чынам месца прыехалі пасланцы камунізму — чынавенства зь неабсяжных абшараў Расеі, а таксама тутэйшы вясковы народ. Але вакуум, які застаўся пасьля жыдоўскай гарадзкой культуры, ня можа быць запоўнены гэткім мэханічным чынам. Ранейшую жыдоўскую культуру аднавіць няма каму й няма як. І таму спатрэбіцца яшчэ вельмі шмат часу, перш чым зьявяцца зародкі новай гарадзкой культуры.**

**Колішняя жыдоўская культура як аднародная і амаль незалежная ад спэцыфікі канкрэтнага гораду матэрыя запаўняла ўвесь край. І таму гэтае эсэ пра Вільню можна чытаць аднначасова й як эсэ пра Менск, пра Бабруйск, пра Мазыр...**

**Нічога такога нельга пакуль уявіць сабе пра хрысьціянскае насельніцтва гарадоў. Пакуль. Некалі прыйдзе час, калі мы таксама перастанем блытаць краўцоў і шаўцоў, калі, нібы сьлімакі да ракавак, прырасьцем да сваіх гарадзкіх асяродкаў, калі ў нас зьявяцца запаветныя й аднначасова тыповыя мары. І толькі тады, калі мы зьбярэм гэтыя мары ў адно, мы зможам сказаць, што на пакінутай жыдоўскаю культураю прасторы паўстала новая гарадзкая культура.**

**Гірш Кановіч (нар. 1929) літоўскі пісьменьнік, аўтар раманаў пра жыцьцё жыдоўства ў даваеннай Літве. Піша па-расейску. Сёлета выехаў у Ізраіль.**

Ён, здаецца, сьніўся мне яшчэ ў калысцы — задоўга да таго, як я ўпершыню ўбачыў Яго наяве; задоўга да таго, як у сорак пятым Ён прыняў мяне ў свае скрываўленыя, задымленыя вайною абдымкі; задоўга да таго, як у Ім вырас магільны капец, гліна якога заляпала ўсе мае радасьці й назаўсёды афарбавала ў атрутна-жоўты колер усе мае смуткі, бо пад ім знайшла (ці знайшла?) супакой мая мама, хай будзе памяць пра яе блаславёная!

За сваё ўжо некароткае жыцьцё я пабываў у многіх гарадох — у Нью-Ёрку й Парыжы, у Таронта й Жэнэве, у Лёндане й Турыне, у Празе й Варшаве, але ніводзін зь іх, велічных, непаўторных, жаданых, не ўваходзіў у мае сны.

Мне сьніўся толькі Ён, адзіны горад на сьвеце.

Мне сьніліся Ягоныя вуліцы й завулкі, вузенькія, як вяроўкі, на якіх вякамі сушылася жыдоўская бялізна, што не прасыхала ад праліітых сьлёзаў, засіненая сінькай нязбытных надзеяў, дзёрзкіх і высокіх, як ранішнія аблокі, мараў, якія зьліваю абрыналіся на кволыя душы дваравых хлопчыкаў і дзяўчынак з гучнымі царскімі імёнамі — Юдзіф і Руф, Саламон і Давыд.

Мне сьніліся Ягоныя стрэхі з дахоўкі, па якіх кошкі пахаджалі, як анёлы, і анёлы, як кошкі.

Мне сьніліся ягоныя брукі, дзе кожны глыж быў падобны да абломка Майсеевай скрыжалі.

Мне сьніліся ягоныя сынагогі й рынкі — шэпт гарачай, амаль утрапёнай малітвы чаргаваўся й перамяжаўся ў маіх начных сьненьнях з выкрыкамі: «Кугл!.. Хэйсэ бэйгэлэх!.. Фрышэ фіш...» Выкрыкі гучалі пагрозьліва й пранікнёна, як псальмы, а гандляры нагадвалі старажытных прарокаў — на вятры разьвяваліся іх сівыя касмылі; вочы гарэлі незямным вагнём; ад бульбяной «бабкі» пахла не прасмаленай да чарнаты печкай дзе-небудзь на Завальнай ці Наваградзкай, на Мясьніцкай ці Рудніцкай, а ахвярнікам, раскладзеным ля падножжа Хермона ці Юдэйскіх гор.

У маім дзяцінстве, якое ўжо само стала сном, сны аб Ім, дзіўным і недасягальным для мяне горадзе, навейваліся бясконцымі, натомнымі аповедамі хатніх — бабулі й дзядулі, дзядзькоў і цётак, якія ніколі й нікуды не выяжджалі за краяні нашага мястэчка, але ведалі пра ўсё на сьвеце ня менш, чым сам Госпад Бог; вымысламі нашых шматлікіх суседзяў, ахвочых на слова й хуткіх на прыдумку (прыдумкамі мае землякі цалюткі дзень вышывалі шэрае палатно жыцьця), галодных валацугаў і жабракоў, якія заходзілі да нас, на берагі Вяльлі, і шчодра расплочваліся за начлег і ежу ўсякімі байкамі ("майсэс").

Іх нясьпешныя апавяданьні, іх доўгія, расьцягнутыя іншым разам да сьвітаньня гісторыі бударажылі ўяўленьне, як пасхальная агада. Божа, Божа, колькі хмелю было ў той цудоўнай, у той незабыўнай хлусьні, у той ашаламляльнай, раскошнай паўпраўдзе! Ад іх кругам ішла галава, дом перапаўняўся гаротна-шчасьлівымі ўздыхамі і ўсклікамі, у якіх злучаліся туга й захапленьне, жарсьць і таемныя спадзяваньні.

— О! — ускліквала мая цётка Хава й цішком ацірала сьлязу.

Ёй, старой дзеве, Ён таксама сьніўся. Можа быць, часьцей, чым мне. Ён сьніўся ёй у выглядзе вялізнай, разьбітай на шырокім лузе хупы, пад якой яна ўся ў белым, разморанaя ад уласнага шчасьця, стаіць побач з сваім абраньнікам. Там, у тым дзіўным горадзе, нават апошнія брыдулькі выходзілі замуж. Там кожную гадзіну й кожны божы дзень жаніхі й нявесты абмеьваліся залатымі пярсьцёнкамі.

Вільня для маёй цёткі Хавы й была такім згубленым у Сусьвеце залатым пярсьцёнкам!

— Ох! — як у лазьні, стагнаў ад захапленьня пры згадцы пра Яго імя дзядзька Лэйзэр.

Яму Ён таксама зьяўляўся ў сьне. Дзядзьку Лэйзэру сьнілася, што яго абралі старостам Вялікай Сынагогі, што ў яго вышытая бісерам кіпа, ад якой галава сьвеціцца ў прыцемках, як зорка на небасхіле. Лэйзэр марыў, каб яго пахавалі побач з самым рабі Эліягу. Калі ўжо лёс наканаваў яму столькі гадоў прамучыцца ў такой дзіры, як наша мястэчка, то няхай хоць пасьля сьмерці выкапаюць яму магілу побач зь Віленскім Гаонам, прапаведнікам з прапаведнікаў, мудрацом з мудрацоў.

— Та-а-ак! — смачна, у расьцяжку, гундосіў пекар Рахмізль, які нарадзіўся ў Тым дзіўным горадзе, але малечай быў прывезены ў паганскую Літву.

Ён выпякаў іншыя мары, чым Лэйзэр, яму ніякай справы не было да вышытай бісерам кіпы, ён згодны быў ляжаць на могілках з кім заўгодна — могілкі не сужэнскі ложак, але кожны раз, калі загаворвалі пра Вільню, ён бачыў сябе ўладальнікам кандытарскай крамы насупраць Вялікай Сынагогі, дзе з раніцы да вечара прадавалі булачкі з разынкамі й карыцай, якія пахлі раем. Сам Усявышні пасьля ранішняй малітвы зазіраў да яго, каб іх пакаштаваць.

З гэтых баек, парослых перабольшаньнямі, як неаранае поле дзівоснымі кветкамі, з гэтых аповедаў, што кідалі то ў маркоту, то ў трымценьне на мяжы зь ліхаманкай, з гэтых уздыхаў і ўсклікаў, з гэтых намёкаў і паўнамёкаў вырастала тое, чаго ні пад адной местачковай страхою не было, чаго нельга было ўгледзець ні за адным вакном, будзь яно нават у залачонай раме. Зь іх складаўся вобраз Гораду гарадоў, жыдоўскае выспы ў бурным акіяне нянавісьці й чужасьці, вобраз сталіцы жыдоўскай набожнасьці і прамудрасьці. Зь іх, нібы абсыпаны агнямі карабель, выплываў Ён, горад нашых сноў.

То быў дзіўны карабель — ён плыў аднначасова па вадзе, па паветры й па сушы. Ён заходзіў, як у гавань, у кожны дом, у кожную хату. Трумы яго былі поўныя каштоўнасьцяў і скарбаў і заўсёды адкрытыя для ўсіх — бяры, насыпай у кішэню й душу, багатыр і бядняк, разумны й дурань, шчасьлівы й няшчасны!

Дагэтуль у маіх закладзеных жвірам успамінаў вушах гучыць ягоны працяглы гудок, які, напэўна, ня змоўкне да маёй сьмяротнай хвіліны. Ён будзіць жывых і мёртвых.

Ад сну да явы было ўсяго сто трыццаць кілямэтраў. Што значыць цяпер, у эпоху звышхуткіх лайнэраў, такая адлегласьць? Але тады!..

Тады шлях ад нашага мястэчка да Вільні здаваўся такім самым далёкім, як да Вялікай Мядзьведзіцы.

Недасягальнасьць памнажала тугу й любоў. Як казала мая бабуля: рафінад саладзейшы ў думках, чым у роце, у роце ён растае, у думках — ніколі.



Вільня ніколі не раставала ў думках тых, каго спрадвеку прынята называць літвакамі.

Памятаю, як шавец Шыман Дудак, закатваючы свае маленькія, як шчыліны ў амбарным замку, вочы і, паднімаючы да лысага, гладкага, як біта, чэрапа калматыя чорныя бровы, усклікаў:

— Божа! Якія там шаўцы! Іх шылы вытачыў сам Усявышні.

Памятаю, як кравец Шымшэн Банквэчар, пачэсваючы свае шляхецкія вусы й прыпадаючы на ўкорчаную нагу, адкрыта выхваляўся:

— Я вучыўся шыць у Вільні. Такіх краўцоў, як Там, сьвет ня бачыў. Яны гарбатых выпростваюць.

Памятаю, як наш местачковы вар'ят Мотке, ціхі, заўсёды апрануты ў белае, як у саван, казаў:

— Вось гэта горад! Вось гэта горад! Там усе вар'яты. Усе!

І ў знак згоды з самім сабой цмокаў языком.

Мая бабуля, празваная за сваю набожнасьць Богавай нявестай, проста трызьніла Вільняю, ірвалася туды з усіх сілаў, шаптала Тое імя, як шэпчуць імя закаханага, рыхтавалася калі не да сустрэчы, дык хоць бы да кароткага спатканьня — падымецца на другі ярус Вялікай Сынагогі, прамармычыць малітву, і Госпад пачуе яе, даруе усе праступкі, задзьме, як сьвечку, яе старасьць і зноў запаліць яе маладосьць.

Але мары яе не было наканавана збыцца. Як не было наканавана збыцца марам яе суродзічаў і землякоў, сьціплых і ня вельмі ўдачлівых працаўнікоў — гандлярак рыбай, павівальных бабак, краўцоў і шаўцоў, шорнікаў і сталяроў, крамнікаў і лудзільшчыкаў, якія з волі Ўсявышняга ці з волі Д'ябла завяршылі свой зямны круг.

Я не магу сказаць ёй, маёй бабулі, Богавай нявесьце, праўду пра Вялікую Сынагогу. Я не магу сказаць пра гэта ніводнаму з больш чым двухсот тысяч жыдоў, якія загінулі ў Другой сусьветнай вайне ў Літве, — ні малечы, кінутаму зажыва ў яму, ні старому, які мармытаў ці то ў вагні, ці то пад вагнём зацьверджанае зь дзяцінства «Шма, Ісраэль».

Мёртвыя, як і жывыя, ня вераць у праўду, якая не пакідае ім надзею. Як гэта так — няма Вялікай Сынагогі? Хто кажа, што й сьледу ад яе не засталося? Прыйдзе Мэсія, і мы, мёртвыя, устаўшы з магілаў, першыя пасьпяшаем туды маліцца!..

Яна, мая бабуля, яшчэ задоўга да нечуванай разьні, да жахлівай касьбы, што не пакінула ў літоўскіх мястэчках ніводнага парастку, ніводнай расьлінкі, ніводнай галінкі на Дрэве Ізрайлевым, не давала й пылінцы ўпасьці на яе мару, на яе сон, на яе ўлюбёны горад. Ён зьзяў для яе ва ўсім сваім асьляпляльным бляску й харастве.

Да вайны толькі адзін чалавек у нашым мястэчку даўся гонару пабываць у Ім — балагол Пэйсах-"Цымэс", далёкі сваяк майго дзеда.

Калі ён вярнуўся зь Вільні, бабуля спыталася ў яго:

— Ну, як? Што ты скажаш?

Яна чакала ад яго словаў, якіх дагэтуль ня чула, словаў, ад якіх у змучанай, зацягнутай непраглядным хмарамі душы, раптам расквітнее вясёлка, але Пэйсах, ведаючы нораў старой, мяўся, доўга шмыгаў чырвонай моркаўкай носа, пераступаў з нагі на нагу, быццам стаяў не на драўлянай падлозе, а на плыце.

— Горад, як горад. Шум, штурханіна, гразь... На кожным кроку жыды. А ўжо балаголаў як сабак нярэзаных.

— І ўсё? — жахнулася бабуля.

— Усё, — шчыра прабурчаў балагол.

— А Вялікая Сынагога!.. А магіла Гаона!..

А... А... А... — усе гукі, якія жылі ў яе ўсярэдзіне, раптам рассыпаліся, разьвеяліся, зьніклі. Старая закашлялася, спрабуючы выткнуць з горла ці то зьдзіўленьне, ці то пагарду да Пэйсаха. Той разгубіўся, заміргаў сваімі рознавялікімі, як дзьве неаднолькавай вартасьці манэты, вачыма і прымірэнча кінуў:

— Ня верыш?.. Зьезьдзі сама!.. Пасьля Ём-Кіпуру магу цябе ўзяць з сабою!



Але бабуля яшчэ больш на яго раззлавалася.

— Ні за што! — прашыпела яна.

З кім заўгодна паедзе — толькі ня зь ім. Ні пасьля Ём-Кіпуру, ні на Хануку, ніколі. Яна лепш пешшу пойдзе, адна, без спадарожнікаў, чым сядзе ў ягоны задрыпаны воз, які сьмярдзіць мачою й сырымі скурамі. З кім заўгодна, але ня зь ім, мужланам, абжорам і выпівохам, які акрамя карчмы, коней і дарожнай гразі нічога на сьвеце ня бачыць. Ні-чо-га!..

Дзякуй ёй за гнеў і крыўду — яна зьберагла ад шкоды мае сны, не дазволіла заканапаціць трумы карабля зь яго каштоўнасьцямі й скарбамі, які плыў па нашай ціхай завадзі. Дзякуючы ёй да ракавога дваццаць другога чэрвеня — маё дзяцінства яшчэ залівала сьвятлом, якое струменіла з вокнаў Вялікай Сынагогі, — сьвятлом сьвятасьці й веры; дзякуючы ёй яно працягвала пахнуць не рамізьніцкай праўдай, грубай і сьмярдзючай, як конская мача ці сырыя скуры, а добрымі пахамі вымыслу, які ўзвышаў душу й пераносіў яе ў іншыя, недаступныя й цудоўныя краяні; дзякуючы ёй у мяне быў неадчутны, верны талісман, які ахоўваў мяне ад зла й роспачы.

Вайна не разлучыла мяне з горадам маіх сноў.

Праўда, я ўсё радзей і радзей бачыў яго ў сьне, але жыцьцё раз-пораз сутыкала мяне зь людзьмі Адтуль.

У цяплушцы па дарозе ў невядомы Казахстан, які нічога добрага не абяцаў, я пачуў:

— Я зь Вільні. Зь Ерушалаіма дэ Літа.

Я забыў твар свайго суседа па шурпатых стрэмістых нарах, што ўпіліся, як палявыя сьляпні, у маё схуднелае цела, але голас яго, гаротна-прыглушаны, хрыпаты, захаваў назаўсёды.

Я ня ведаю, хто быў гэты чалавек — можа ён быў пекарам, які меў краму насупраць Вялікай Сынагогі, можа, краўцом, які выпростваў гарбатых, можа, наборшчыкам друкарні, дзе друкаваліся на таннай паперы жыдоўскія кніжкі, можа, перапісчыкам Торы, які не зрабіў за сваё доўгае жыцьцё ніводнае памылкі.

Яго вынесьлі з задушнага, прапітанага потам і горам вагону таварнага цягніка на паўстанак недалёка ад Сьвярдлоўска і паклалі на чужую, халодную зямлю, і раньняя расейская завея замяла яго буйнымі хлапякамі, ухутваючы, як у пахавальнае покрыва.

Пад грукат бязьлітасных колаў, што везьлі нас у невядомасьць, я па складах паўтараў:

— Е-ру-ша-ла-ім дэ Лі-та! Е-ру-ша-ла-ім дэ Лі-та!

Што гэта было — трызьненьне ці заклінаньне? Напэўна, усё ж заклінаньне. Я заклінаў свой страх, сваю бездапаможнасьць, я заклінаў расейскую завею, расейскія прасторы, сустрэчныя расейскія цягнікі, што няспынна імчалі на вайну і абдавалі наш вагон гарачай паравознай парай, гучнымі салдацкімі песьнямі й сьцюдзёнымі хвалямі безвыходнасьці.

Вяртаючыся да тых дзён, я лаўлю сябе на думцы, што сьмерць майго спадарожніка была прадвесьцем чагосьці большага, чым зыход асобнага чалавека. Разам зь ім завея на паўстанку замятала ня толькі дарогу назад, у Ерушалаім дэ Літа, але й сам Ерушалаім дэ Літа, яна ўхутвала ў саван Ягоныя стрэхі з дахоўкі, па якіх кошкі пахаджалі, як анёлы, і анёлы, як кошкі; Яго брукі, дзе кожны глыж быў падобны да абломка Майсеевай скрыжалі; Вялікую Сынагогу зь яе арон-койдэшам, яна замятала непралазнымі сумётамі мае сны.

Не, не, падбадзёрваў я сябе, няма такой завеі, якая замяла б горад, да якога цягнулася сэрца ўсіх жыдоў Літвы; няма такога ветру, які зьдзьмуў бы ў мора забыцьця гэты востраў жыдоўскай мудрасьці й набожнасьці. Ён вечны й будзе ў вякох! Бог, наш міласэрны, наш усемагутны Бог не дапусьціць, каб зьдзейсьнілася такая нечуваная несправядлівасьць.

Сорамна прызнацца, але я ў сваіх думках, у сваіх снах імкнуўся ня столькі быць побач з бацькам і маці, колькі зь ім, Усявышнім. Што маглі бацькі? Яны маглі апрануць і накарміць, і тое не дасыта. Ён жа мог выратаваць горад маіх сноў, зрабіць так, каб усе завеі ўціхлі і ўсе сумёты расталі!

— Гот із а татэ! Бог — наш бацька!

Хто мог тады, у казахскім стэпе, у зачуханым кішлаку, дзе мы жылі — ды што там жылі — кожны дзень падыхалі з голаду, дзе нават аслы й авечкі зь цікаўнасьцю й нехаванаю перавагай пазіралі на ўцекачоў-жыдоў, як на іншапланэтнікаў, хто мог падумаць, што завея — расейская, нямецкая, літоўская — акажацца мацнейшая за Госпада!

Хто мог падумаць!

Але нават там, сярод бясконцых стэпаў, па якіх блукалі спрытныя, бязьлітасныя шакалы і над якімі кружлялі ўсёвідушчыя беркуты, што падпільноўвалі сваю здабычу, нават там ля падножжа Ала-Таў, у дымнай мазанцы яшчэ пабліскваў каштоўны каменьчык зь яго, Ерушалаіма дэ Літа, кароны.

У той мазанцы жыў таварыш Іцхак, які працаваў у калгаснай бухгальтэрыі рахункаводам. У той час у казахскай сельскай мясцовасьці рахункаводы былі такой самай рэдкасьцю, як астролягі. Як пазьней высьветлілася, таварыш Іцхак ня быў ані рахункаводам, ані астролягам. Ня быў ён і таварышам. Да вайны Іцхак на Садовай служыў рабінам. Адзіным сьведчаньнем яго рабінскага стану была чорная, працёртая ярмолка, якую ён ніколі не здымаў і якую старшыня калгаса Нурсултан прымаў за цюбяцейку. Нурсултан ня раз прапаноўваў яму новую, цьвятастую, з выдатнай тканіны, але Іцхак упарта адмаўляўся ад дару.

Прабачаў яму старшыня калгаса й іншае дзівацтва. Па вечарох Іцхак зьбіраў дзяцей уцекачоў, якія хадзілі ў казахскую школу, і таемна навучаў іх жыдоўскай грамаце. Былі сярод яго вучняў хлопчыкі з Бабруйска, Слоніма, Шаўляў, Янавы і нават два мальцы зь Ленінграда.

Ён вучыў нас ня толькі грамаце, але й захоўваць суботу і ўсе жыдоўскія сьвяты. На сьвяты жонка Іцхака Этэль раздавала падарункі — катлеты зь печкуроў і ячменныя аладкі.

Але не печкуровыя катлеты і не ячменныя аладкі прываблівалі да яго дзятву. Галоўнай павабай былі яго аповеды пра яго родны горад — Вільню.

Ён расказваў нам пра Гаона Эліягу, пра знакамітых жыдоўскіх вучоных і выдаўцоў, пра паэтаў, якія апелі Ерушалаім дэ Літа і пра багацеяў, якія абдарылі Яго сваёй літасьцю. Іх імёны ў цеснай мазанцы гучалі як назвы зорак — усё вакол сьвятлела, і у кожнага з нас над галавой зьяўляўся німб нябачнага сьвятла; за вокнамі адкрываўся не кішлак зь яго глінабітнымі хатамі, а горад, дзе ён, Іцхак, нарадзіўся і дзе, як яму здавалася, ніколі не прападзе ніводзін сьлед — жыдоўскай думкі, жыдоўскай стапы, жыдоўскага разца, жыдоўскага голасу.

Чаго граха таіць, я бачыў у Іцхаку, згорбленым, кволым, крыху заікастым, не калгаснага рахункавода, ня рабіна, а намесьніка Бога ў бязьмежным казахскім стэпе. Я быў упэўнены, што ён вернецца ў свой Ерушалаім і, можа быць, разам зь ім вернемся мы — калі не наяве, то ў снах. У сьне шлях заўсёды карацейшы.

Але аднойчы, калі я прыйшоў з казахскай школы, мама мне сказала:

— Бяда... Іцхак памёр.

Адныя казалі, што ён пакончыў з сабой, другія, што памёр ад брушнога тыфу, трэція, што ў яго спынілася сэрца. Ішло, ішло на радзіму, у Вільню, у Ерушалаім дэ Літа, і спынілася. Ногі, маўляў, яшчэ працягвалі ісьці, а вось сэрца спынілася.

Неўзабаве адыйшла й Этэль.

Іх пахавалі за кішлаком, там, дзе агароды пераходзяць у стэп.

Старшыня Нурсултан сказаў над яго магілай прамову. Ён казаў па-казахску, і ніхто яго не зразумеў.

Не зразумеў яго й нябожчык.

Яму, напэўна, хацелася пачуць кадыш. Але кадыш не было каму казаць — усе мужчыны-жыды былі прызваныя ў армію — завея ўцягвала іх у сваю сьмяротную бель.

У той дзень, па-мойму, я стаў дарослым.

У той дзень мяне апякло страшным сумневам.

Ці толькі па рабіну-рахункаводу-астролягу Іцхаку трэба казаць памінальную малітву?

Можа, па маіх снах?

А можа?..

Калі ўголас, вучыў мяне дзед, прамовіць тое, чаго яшчэ не адбылося, то абавязкова адбудзецца.

У Вільню — Vilnius — я прыехаў у пачатку сорак пятага году. Скончаўся люты. Мяло шчодра, густа, і засьнежаны, нядаўна вызвалены горад быў падобны на хворага, які ляжыць у пасьцелі на высокіх падушках, набітых гусіным пер'ем. Дамы з сарванымі стрэхамі, вуліцы,

*Працяг на старонцы 15*

# Шэсьць пунктаў падабенства

Сяргей Шупа

1. Пачынаючы з простых зямных рэчаў, найперш варта зазначыць фатальную залежнасьць абодвух народаў ад бульбы — грунту нацыянальнага выжыцьця й перадумовы дабрабыту. Няўрод бульбы ў Ірляндыі паўтары сотні гадоў таму вынішчыў амаль траціну насельніцтва, думаецца, калі б бульба не ўрадзіла ў нас — страты былі б ня меншыя. Вось жа ў Эўропе толькі два народы натуральна абзываюцца «бульбашамі». Дарэчы, звычайная, неэкзатычная бульба (Solanum tuberosum) па-ангельску завецца Irish potato. Ёсьць у нас што й да бульбы. Мабыць, любы з нас, упершыню пакаштаваўшы віскі, з трымценьнем у душы адчувае незвычайнае смакавае падабенства гэтай «вады жыцьця» (ірл. uisce beatha) да нашага соку зямлі — хатняе жытняе гарэлкі. І наадварот — прывязіце зь дзедавай вёскі чыстую, для сябе робленую, крыху закрашаную для шляхотнасьці гарэлку й дайце пакаштаваць хоць каму — любы скажа, што гэта віскі. Тэхналёгія закадаваная ў генатыпе.

2. У дваццатым стагодзьдзі ніводная іншая эўрапейская нацыя не панесла такіх моўных стратаў, як ірляндцы й беларусы. Пры гэтым працэс адраджэньня нашых моваў шмат у чым адбываецца падобна — на іх перастае гаварыць вёска, а пачынаюць абуджацца ў іх маладыя творчыя або палітызаваныя гараджане. Ворагі адраджэньня нашых моваў таксама падобныя ў сваёй аргумэнтацыі, найчасьцей яны машуць нам перад носам сваёй легендарнай «кілбасой» — эканамічнай немэтазгоднасьцю. Ірляндыя, дарэчы, нярэдка выстаўляецца нам як прыклад — вось, маўляў, жыве народ і не памірае без сваёй мовы. У сувязі з гэтым варта адзначыць істотную розьніцу. Мову чужынцаў ірляндцы зрабілі настолькі сваёй, што яна пачала выконваць ролю мовы культуры — цэлыя чатыры англамоўныя ірляндцы сталіся ляўрэатамі Нобэлеўскай прэміі ў галіне літаратуры. У нас жа расейская мова, у той жахліва зьбедненай і ўбогай форме, як яна бытуе ў нашым народзе, ніколі не выходзіла за межы функцыяй мовы элемэнтарных зносінаў. Згода, большасьць гараджанаў, і нават інтэлігенцыі гавораць у нас амаль што па-расейску, але ж дзе нашыя расейскамоўныя Джойсы й Бэкеты, ці хаця б Быкавы й Разанавы? Вось жа «вялікая» расейская культура сталася на нашай глебе пустацьветам.

3. Нас яднае геасоцыякультурнае падабенства. За Ірляндыяй на захадзе й за намі на ўсходзе канчаецца Эўропа й пачынаецца штосьці іншае. Таму мы непазьбежна — ускраіна, задворкі, глыбокая правінцыя эўрапейскае цывілізацыйнае прасторы (хоць, праўда, у суседняй з намі Літве як найменей пяць мясцовасьцяў прэтэндуюць на статус Цэнтру Эўропы...). Адгэтуль — шэрасьць, нуднасьць і запаволенасьць жыцьцёвых працэсаў як у Беларусі, гэтак і ў Ірляндыі. Каб чамусь вартаму навучыцца, зарабіць грошай, асьвяжыць мазгі, або й проста «пагуляць», трэба як найменей кудысьці выехаць.

4. Тая нярадасная акалічнасьць, што часта як ірляндцам, гэтак і беларусам амаль не было чаго губляць у сваёй бацькаўшчыне, сталася прычынай таго, што нашыя народы сталіся народамі эмігрантаў. Маюцца на ўвазе не малалікія й нерэгулярныя хвалі палітычнае эміграцыі, а масавыя выезды простых людзей у пошуках лепшае долі. Наўрад ці якая іншая краіна ў Эўропе дала большы працэнт колькасьці эмігрантаў ад агульнае лічбы насельніцтва, як Ірляндыя й Беларусь. Нездарма, дарэчы, адзін замежны дасьледнік назваў з гэтай нагоды Беларусь «Ірляндыяй Расейскай імпэрыі». На эміграцыі часам завязваліся й самыя шчырыя беларуска-ірляндзкія кантакты, як прыкладам у 20-я гады ў Чыкага.

5. Аднолькавы ці прынамсі падобны ў нас і найбольш вызначальны геапалітычны фактар — наяўнасьць вялікага й магутнага суседа на ўсходзе, няспыннай крыніцы палітычнай, культурнай і моўнай агрэсіі й сталай пагрозы нашаму йснаваньню. У сувязі з гэтым шмат у чым падобныя й нашыя шляхі да незалежнасьці. Сёньняшняе мадзеньне «Рэспублікі Беларусі» ў складзе СНГ тыпалягічна й паталягічна нагадвае йснаваньне «Ірляндзкае Вольнае Дзяржавы» (Irish Free State) у складзе Брытанскае Садружнасьці (1922-1937). Поўная, або прынамсі большая, незалежнасьць прыйшла да Ірляндыі ў 1937 годзе. А колькі давядзецца чакаць нам?

6. Апошняя аналёгія толькі патэнцыяльная й дай Божа, каб яна гэткая й засталася. Магчымыя й непазьбежныя зьмены ў палітычным жыцьці Беларусі, памножаныя на непрадказальнасьць разьвіцьця падзеяў у Расеі, могуць прывесьці да расколу ў беларускім грамадзтве ў пытаньні формаў суіснаваньня з Расеяй. Зьнешнія праявы расколу выяўляюцца ўжо сёньня ў правакацыі дыскусіяў аб мовах, сымболіцы й г.д. Прычым заўважаецца й геаграфічная лякалізацыя патэнцыяльна канфліктных зонаў — усходняя й паўночна-ўсходняя Беларусь. Хто ведае, ці не захоча нейкая значная частка насельніцтва найбольш зрусыфікаваных раёнаў застацца «ляяльнаю» расейскай апецы? Хто ведае, ці ня знойдзецца пры гэтым у тых самых раёнах меншая, але даволі энэргічная частка людзей, якія актыўна гэтаму запярэчаць, не спыняючыся перад *дзейснымі* сродкамі? Як бы там ні было, любыя сцэнары далучэньня Беларусі, або хаця б нейкае яе часткі, да Расеі — якія ходзяць па мудрых усенародна абраных галовах — пагражаюць нам ірляндызацыяй, у самым злавесным сэнсе гэтага слова.

# Беларусы і Ірляндцы

Карэспандэнт нашае часопісі з Чыкаго паведамляе, між іншым, аб дужа прыхільных адносінах тамтэйшага ірляндзкага грамадзянства да беларусаў і беларускае справы. Ірляндцы — прыхільнікі дэ-Валеры ахвотна аказваюць сваё падтрыманьне беларускім дзеячом і арганізацыям, якія толькі нядаўна пачалі сваю працу сярод беларускай эміграцыі ў Амэрыцы.

Спогад з боку народу, які больш за сто гадоў вядзе няўстанную барацьбу з Англіяй за сваё вызваленьне, зусім зразумелы. Ніхто лепш за ірляндцаў ня можа адчуць і зразумець настрояў і імкненьняў беларускага народу. З шчырым здаваленьнем лічым патрэбным тутака адзначыць, што ня першы гэта раз прадстаўнікі ірляндзкага народу працягіваюць нам братнюю руку помачы.

Першае спатканьне беларусаў з ірляндцамі адбылося ў самым пачатку беларускага руху да вызваленьня Бацькаўшчыны — восемнаццаць гадоў таму назад. Было гэта вось як.

У 1905 годзе ў Фінляндыі адбываўся зьезд прадстаўнікоў рэвалюцыйных партыяў усіх нацыянальнасьцей Расейскага гаспадарства. На зьезьдзе гэтым дэлегатам Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады (зь якое пасьля сфармавалася Беларуская Сацыялістычная Грамада) быў павадыр усяго беларускага адраджэнскага руху с.п. Іван Луцкевіч. Быў тутака і прадстаўнік ірляндзкіх рэвалюцыянэраў. Апошні вельмі зацікавіўся беларускім рухам, прасіў беларускага дэлегата завезьці сваім таварышам шчырае прывітаньне ад арганізацыі сін-фэйнэраў і аддаць зялёны трылістнік — ірляндзкі нацыянальны значок. Праз нейкі час ірляндзкія сінн-фэйнэры прыслалі Беларускай Рэвалюцыйнай Грамадзе невялікую суму грошы на выдавецтва, як доказ шчырага спогаду ірляндзкага народу беларусам.

На гэтым зацікаўленасьць ірляндцаў беларускай справай не спынілася. Праўда, беспасярэдніх зносін не было, але ўжо ў пачатку сусьветнае вайны — у 1914 годзе — ірляндзкія газэты закранулі беларускае пытаньне ў сувязі з сусьветнымі падзеямі. Стацьці аб беларусах былі пранікнуты шчырай сымпатыяй да нашых нацыянальных імкненьняў.

Цяпер беларусам давялося ізноў спаткацца з ірляндцамі на амэрыканскім грунце, на якім ірляндзкія байцы за вызваленьне свайго народу заўсёды знаходзілі прыпынак і бясьпечны сход. І сымпатыя паміж двума *мужыцкімі* ўціснанымі народамі ўраз-жа выявілася не на славах, а на дзеле.

Мы ў свой чарод шлем гарачы прывет многапакутнаму ірляндзкаму народу, які сваёй цьвёрдасьцю і вернасьцю нацыянальнаму ідэалу служыць узорам для ўсіх прыгнечаных і ўціснаных. Мы выказваем шчырую радасьць, што гэты народ-змагар урэшце значна прыблізіўся да зьдзейсьненьня свайго ідэалу, і верым у хуткае давядзеньне справы поўнага вызваленьня Ірляндыі спад уціску капітала да пажаданага канца.

аль

*«Наш сьцяг» (Вільня), 20 чэрвеня 1923.*

* Перахоўваўся ў Віленскім Беларускім Музэі імя Івана Луцкевіча, але зьнік бязь сьледу з акупацыяй Вільні расейскім войскам у 1944 г.

# Некалькі кніг з Блумзбэры

Мэва Марон

Я сяджу на адной з самых нязвыклых Лёнданскіх плошчаў, нязвыклых таму, што сквэрык на ёй адчынены ў будні дні й зачынены ў выхадныя. На поўдні, паміж мною й Брытанскім Музэем, месьцяцца дзьве ўнівэрсытэцкія бібліятэкі, адна зь літаратурай на славянскіх і фіна-вугорскіх мовах, другая — на ўсходніх і каўкаскіх. На поўнач ад мяне вулка, дзе Цыпрыян Каміль Норвід правёў месяц нягодаў у 1854 годзе, каля станцыі, ад якой адыходзяць цягнікі на Ірляндыю — вулка сёньня поўная індыйскіх кандытэрыяў, і клюб эспэрантыстаў.

За гэткія ж 5 хвілінаў на ўсход адсюль на некалькі месяцаў у 1873 годзе спыняўся Рэмбо. На паўдзённы ўсход, на Поланд стрыт — адзінае месца, пазначанае мэмарыяльнай дошкай — жыў 200 гадоў таму Блэйк. Блэйк узяў ірляндзкія графствы, усе 32, як (нумэрычную) мадэль народаў сьвету, што жывуць у ладзе — жахлівы знак для прарокаў! Бясспрэчна, адыгралі сваю ролю й 32 напрамкі ружы вятроў; Шарль Фур'е таксама збудаваў на гэтай лічбе сыстэму.

Да нядаўняга часу нельга было б і ўявіць сабе, што сярод гэтае безьлічы моваў жыве й ірляндзкая — хоць і можна было б знайсьці пару вершаў тысячагадовае даўнасьці. Але ўнівэрсытэцкая кнігарня пачала распрадаваць склад неліквідаў, які, як можна было спадзявацца, складаўся з рэклямных асобнікаў, якія адразу йшлі на паліцы для скупленых кніг, а там відны азнакі жыцьця. Выбар мог бы быць і лепшы, але ж гэта толькі пачатак.

«Халодны месяц» завецца зборнік эратычных хайку Гэбрыела Роўзэнстока. Ангельскі назоў і ангельскія тэксты стаяць над ірляндзкімі; ніводзін з варыянтаў не захоўвае пасьлядоўна сямнаццаць складоў, таму й невядома, які зь іх назваць арыгіналам. А можа спачатку былі малюнкі? Роўзэнсток — рэаліст: малюнкі значаць больш за словы, пару сотняў ірляндзкіх словаў — больш чым дастаткова для бальшыні чытачоў...

Вось такія хайку, паводле ангельскага перакладу:

*паволі паднімаючыся ў акварыюме*
*ён разяўляе рот*
*цалуе паверхню спадыспаду*

*дажджлівы дзень*
*уяўляю як ты стаіш пад душам*
*ручаі ў лагчынках*

*вішнёвыя кветкі ападаюць*
*у адных хайку або другіх*
*яна мела ружовую начную кашулю*

*ажыны сьпеюць*
*нібы гузак*
*на гузаку*

(Зразумелі аб чым я? Колькі б такога ўлезла на адну старонку!)

Пераклады Майкла Хартнэта твораў Падрагіня Хакеда, дамініканіна сямнаццатага стагодзьдзя, які часам пісаў зь Лювэну, надрукаваныя без арыгіналаў на старонцы побач. (Хартнэт — той чалавек з сэрыі «Бывай, ангельшчына», чыя ірляндзкая мова не заўсёды добра прымалася...) Ну, тут ясна, што мы маем справу зь перакладамі: ёсьць заўвагі пра гульню словаў, ёсьць рэчы, якіх бы тут і не было, калі б за імі не стаяў арыгінал.

Хакед/Хэкет — даволі сьмелы пісьменьнік эпохі пераходу ад традыцыйнае ірляндзкае да танічнае мэтрыкі з (як цьвердзяць Кінсэла й О Туама) «велізарнай інтэлектуальнай энэргіяй» (ірляндзкі Норвід? — не зусім!) і «нястрымнай узлаванасьцю на ворагаў, палітычных і клерыкальных». У яго глыбока распрацоўваецца тэма (добра ведамая з «Уліса») аб тым, што Ірляндыя падобная да Ізраіля ў дарозе з Эгіпту:

*«Тады, згідзіўшыся расой зь Нябёсаў,*
*калекі й жабракі сярод Абраных*
*сказалі: гэта жоўць, ня дождж нябесны,*
*і гонар чуўся ў іхным нараканьні.*

*«Шкада, ня ўзялі мы з сабой з Эгіпту*
*ўсе карані ягоныя, ўсе зёлкі»*
*(цыбулю горкую й часнык сьмярдзючы!)*
*«бо тут бязь іх нам цяжка ды нязносна»*

*— казалі так бяздушныя нябогі,*
*і Бог зьнявечыў племя недаверкаў...»*

Апошні верш Хакеда (1654?) быў напісаны «З нагоды загаду ірляндзкага духавенства, што манахам забараняецца складаць вершы па-ірляндзку»: *«Я зашыю сабе вусны плеценым узорам»* [паводле іншага перакладу —

# УЛІС — Кароткая гісторыя*

Рычард Элман

... Напрыканцы 1917 году Джойс давёў пачатковыя разьдзелы да выгляду, у якім яны маглі быць перапісаныя на машынцы й апублікаваныя. Тады ён запрапанаваў Хэрыет Шоў Уівэр, якая выдавала малатыражны, але ўплывовы часапіс «Egoist» (Лёндан), апублікаваць у ім «Уліса» ў сэрыях, так як яна зрабіла ў 1914-15 гадох з «Партрэтам мастака». Міс Уівэр, адданая таленту Джойса як апякун, гэтак і выдавец, згадзілася адразу. Але яе запал, зь якім яна рызыкавала трапіць у турму, не адолеў цяжкасьцяў у адшуканьні друкара. Той друкар, якога ўдалося намовіць пасьля гадовых пошукаў, згадзіўся надрукаваць толькі разьдзелы II, III, VI і X, дый то зь некаторымі пропускамі. Яны паказаліся ў 1919 годзе, але ў міжчасе нецярплівы Джойс зьвярнуўся да Эзры Паўнда, які ўжо раней аказаўся яму падсобным, пра дапамогу пры публікацыі ў Злучаных Штатах. Паўнд быў загадчыкам замежнага аддзелу ў часопісе «Little Review», які Маргарэт Андэрсан заснавала ў Чыкага ў 1914 годзе, а цяпер (у 1917 г.) перанесла ў Нью-Ёрк, падзяліўшыся выдавецкай справай з Джэйн Хіп. Атрымаўшы ад Паўнда тры першыя разьдзелы «Уліса», Маргарэт Андэрсан заявіла з захапленьнем: «Мы гэта надрукуем, нават калі б яно мела стацца апошнім намаганьнем у нашым жыцьці». Як і Уівэр, ёй таксама вельмі цяжка было знайсьці друкара, але ўрэшце ўдалося дасягнуць пагадненьня зь нейкім сэрбам, які паставіўся абыякава да некаторых аднаскладовых словаў, што тады лічыліся нецэнзурнымі. Зь ягонай дапамогай «Уліс», пачынаючы з сакавіка 1918 году пачаў выходзіць у сэрыях.

Паўнд ды нюёркскі юрыст і калекцыянэр мастацтва Джон Куін (які пачаў разьдзяляць Паўндавы турботы лёсам Джойса) зьвярнулі ўвагу на вялікую небясьпеку для кніжкі, калі б на нейкі яе месячны выпуск у «Little Review» была накладзеная судовая забарона — у такім выпадку яна пашкодзіла б публікацыі твору ў цэласьці. Каб запабегчы гэтаму, Паўнд, не спытаўшыся ў Джойса, самавольна выняў з чацьвертага разьдзелу дваццаць радкоў пра спаражненьне Блюмавага кішэчніка. Джойс даведаўся аб гэтым пропуску запозна, каб супрацьдзеіць, але даў выразна зразумець, што хоча бачыць свой твор апублікаваны ў тым выглядзе, у якім ён быў напісаны. Куін раіў яму спыніць сэрыйную публікацыю й выдаць цэласьць кніжкаю, кантэкст якой мог бы значна лягчэй апраўдаць некаторыя асобныя ўрыўкі. Джойс прапусьціў гэта міма вушэй. Чаго баяліся, тое й наступіла: цэнзары амэрыканскае пошты пачалі чытаць «Уліса» з крытычнай жарсьцю. У студзені 1919 году яны канфіскавалі й спалілі эпізод «Lestrygonians», у траўні — «Scylla and Charybdis», а ў студзені 1920 году — «Cyclops» (гэтыя гарэраўскія назовы розных эпізодаў Джойс пазьней зьняў з выданьняў «Уліса»). Дзеля гэтага ня трэба было спэцыяльнае судовае позвы, таму й пратэст Куіна, заяўлены юрысконсульту Пошты, застаўся безвыніковы. Джойс, памятаючы пра зьнішчэньне «Дублінцаў» дублінскім друкаром у 1912 годзе, успрыймаў гэтыя нягоды са зьедлівым гумарам, а пасьля чарговае зь іх зрабіў заўвагу: «Гэта ўжо другі раз, як мне выпала прыемнасьць гарэць зажыва на зямлі, а таму я спадзяюся, што праз агонь чысьцілішча прайду так хутка, як мой патрон сьвяты Алёйзіюс». Аднак справы ўзялі сур'ёзны паварот. Джон С.Самнэр, сакратар Нюёркскага Таварыства Супрацьдзеяньня Злачыннасьці прачытаў ліпеньска-жнівеньскі выпуск «Nausicaa», у якім Герта МакДаўэл раскрывае свае павабы перад пільным позіркам Блюма. У верасьні Самнэр падаў афіцыйную позву ў суд. Пасьля падрыхтоўчага слуханьня ў паліцыйным судзе 22

* *Фрагмэнт*

# (Леапольдавага, а не Вірджыніі Вулф)

кручаным шнурам] *«/ і змаўчу пра іх сквапную нікчэмнасьць, / але я вінавачу гэтую зграю за яе забароны / і за яе нянавісьць, о Божа, да майго народу!»*

Другая кніга з выдавецтва Gallery ў графстве Міт, «Першая мова» Кірана Карсана — як выбух бомбы. Пачынаецца яна вершам *па-ірляндзку,* які завецца «La Je-Ne-Sais-Quoi». (Не магу стрымацца, каб не сказаць, што адзін «францускі» філёзаф В.Янкелевіч напісаў кнігу пад назовам «Le je-ne-sais-quoi et le presque rien» — цытую назоў толькі каб зьвярнуць увагу, што le зьмянілася на la!)

Карсан (чый аднафамілец Сэр Эдвард вёў допыт Оскара Ўайлда і адыграў значную ролю ў падзеле краіны) заваяваў сабе вядомасьць па абодва бакі Ірляндзкага мора зборнікам «Як будзе НЕ па-ірляндзку», рэдкай кнігай, раскупленай амаль адразу, дзе сярод іншага зьмешчаны бязладны на першы погляд роспавед пра «*Obsession* Кальвіна Клейна», парфуму на футры ў дзяўчыны, зь якой аўтар выйшаў пагуляць па Бэлфасьце ў 1968 годзе, а таксама «Дрэздэн» (бомбы й пастушкі) з радкамі пра Фліна *«якому загадалі сесьці ў гэты аўтобус і перавезьці стрыжні гелігніту / празь мяжу, у Дэры»*: ён *«пражыў там сем гадоў і навучыўся гаварыць / як найлепей па-ірляндзку. Ён ведаў трынаццаць словаў для цечкі ў каровы. / Слова для трэцяй лавы ў лодцы, для следу ад лодкі падчас адліву...»*

Яго наступная кніга, «Бэлфасцкае Confetti», як здаецца, урабляе тую самую ніву: усё вельмі добра, калі вы ведаеце мясьціны й можаце ўявіць сабе чалавека, які кленчыць каля абадранай скураной канапы, а *«у цёмных схованках пад падушкамі [...] цягнуліся дзясяткі Ружанцаў, абвіслая нітка зь мінулых гадоў нацягвалася / костка за косткай...»*

Таму staccato «Першае мовы» выглядае неспадзяванкаю. Хоць пасьля першае старонкі лацінскія й польскія матывы чуюцца больш выразна за ірляндзкія: *«Глухі бронзавы шум касьцельных званоў тады гудзеў і зьвінеў у лацінскіх / спражэньнях; статуі стаялі ўбраныя ў барвовыя шаты; кадзіла кашляла дымнай патынай. // Я ўдыхаў* amo, amas, amat *у кавалках* pro *і* versus *і* Introibo / ad altare Dei; *незразумела для іншых, прамаўляў па-ірляндзку. Я праспаў* Introit».

Польскія матывы — даніна Пётру Сомэру, які шмат перакладаў алстэрскіх паэтаў (а таксама Фрэнка О'Хара): *«Гэтыя першыя польскія словы я вывучыў з тэлефоннай лініі з Суляёвак / [...] / Чорная лінія, непраглядна-бакелітава-чорны тэлефон: нібы жук сінявата-чорны, так, так, так / быццам нехта бярэ й кладзе трубку. Ён уставіў більярдны кій у стаяк; / або даслоўна Вульгатна-чорны, як нутро неразгорнутай Біблії — /* Cessaverunt aedificare civitatem. Et idcirco vocatum est ejus Babel». І дзеля доказу - польская карціна зь Бабілёнскай Вежаю на вокладцы.

(Я якраз маю кнігу Сомэра: як прыемна й настальгічна чытаць ягонае «Так, так, так», якое надае палітычны сэнс простым словам у мове жанчын, што стаяць у чэргах!)

Далей Карсан падпірае кнігу «П'яным караблём» Рэмбо й кавалкамі з Авідыя, варыяцыямі на знаёмыя тэмы (прыкладам, зьдзіраньне скуры з Марсія, магчыма лепей вам вядомае паводле Збігнева Хэрбэрта, тут гратэскна асацыюецца з апэрацыяй скручваньня самакрутак) — але ёсьць тут і твор Шона О Рырданя, блізкі да арыгіналу, калі ўлічыць, што бальшыня чытачоў яго ня ведаюць. І калі ўслухацца ўважліва, часта можна пачуць схаваныя ўнутраныя рыфмы, якія злучаюць строфы — вельмі ірляндзкі прыём...

Верш на самой тытульнай старонцы, пра наступствы пацалунку, — нічога асаблівага. Можна лёгка прыгадаць часы, калі «сувэнірныя» вершы іншага гатунку былі абавязкова прысутныя на першых старонках паэтычных зборнікаў... Што да «мяса», як кажуць невэгетарыянцы, дык яго хапае ў кнізе Нуалы Ні Доўналь. Паэзія ня блэйкаўская, але таксама па-свойму містычна-прарочая. Пра вандроўкі ў казачны іншасьвет. І пра ўварваньне іншасьветнае энэргіі ў нашае жыцьцё.

Усе прызнаюць яе як беспамылкова аўтэнтычную паэтку, з выдатнай ірляндзкай моваю, хоць папраўдзе яна вырасла ў паўночнай Англіі, а пасьля паехала аўтаспынам да Турцыі, адкуль вярнулася з мужам. Ёй спадабалася «Як будзе НЕ па-ірляндзку», «кніга поўна насеньня», з рытмамі ірляндзкіх скокаў і карагодаў: «Як ты, бля, гэта напісаў?!» І Пол Малдун, які яе перакладае, таксама піша пра містычныя падарожжы, так што ён як найлепей надаецца да гэтае працы.

Тыя, хто лепш за мяне ведае ірляндзкую, ужо прачыталі вершы ў арыгінале, у вялізнай кнізе поўнай фотаздымкаў — выразны кантраст зь яе першай кнігай, кішэннага фармату, на няўклюдна тоўстай паперы, зь сьціплай галінкай цёрну на вокладцы.

Праблемы ў новай кнізе (таго самага выдавецтва) пачынаюцца з назову, «Астраханскае футра». Словы гэтыя можна знайсьці ў тэксьце, але не (як можна было б спадзявацца) сярод загалоўкаў вершаў, да таго ж толькі на ангельскім баку старонкі.

«Маразільнік» — цяжкі сымбаль «стану нашага сьвету», калі маразільнік замяняе сэрца, кажучы проста. Ірляндзкая мова й *ёсьць* простая. А Малдрун пляце карункі. *«Memento mori»*, кажа яна, а ён балбоча нешта навакол гэтай тэмы. «Мёртвыя й застылыя й галодныя, як магіла», — так у яе ў апошнім радку, а ён кажа «мароз прабірае да костак / што мы найхутчэй апынемся / сярод тых тлустых залатых цыплятаў». Разумна, ясная справа, але зусім ня тое, што напісала тая жанчына.

У іншай ейнай кнізе ёсьць пераклады, выкананыя Майклам Хартнэтам, значна больш сьціплыя: ён сёе-тое прапускае, замест таго, каб устаўляць «красівасьці», таму, можа, вершы маюць менш посьпеху на паэтычных чытаньнях. А сёньня вакол гэтага ўся гульня, не вакол словаў на старонцы. Вось да чаго ўсё йдзе: пішы старанна для жменькі людзей, якія будуць мучыцца над арыгіналам, і саступі надзённым густам у перакладзе — да таго ж, гэта ўжо не твая справа!

Адгэтуль я буду даваць толькі начытанай ёю касэтцы, хоць яна і ўся па-ірляндзку!

Выснова: і тут ірляндзкая мова апусьцілася да таго самага (дэкаратыўнага) статусу, што й на дарожных знаках і музэйных шыльдах? Ці прароцтва — маразільнік? Ці тая цудоўная казка, што стаецца яваю? Дамо апошняе слова самой Нуале (наколькі гэта магчыма праз моўныя бар'еры — г. зн. без «мастацкага» пасярэдніцтва Пола Малдуна):

*«Закахаюся я, як штогоду ўвосень / у кроплі дажджу на пярэдняй шыбе ў машыне, [...] / [...] у гнілое лісьцё, расьціснутае на маёй дарозе, / у грыбы, ганарыста выстраеныя на трухлявым палене, / закахаюся нават у халодную гліну і ў балота / калі ўспомню, што гэта было ўжо нам знакам, мой любы. // Закахаюся ва ўсё, што адыходзіць: / у счарнелыя гнілыя бульбіны ў баразьне, / у Brussels sprouts што ржавеюць на сьцяблінах [...] / Закахаюся амаль што ў саму сьмерць. // Ні занятпад, ні вясновы ўздым [...] / не кранаюць мяне, а мой сумнеў ва ўсім гэтым. / Мы страсаем зь сябе сьнежнае покрыва, коўдру зь ледзянога пер'я, аброненага незямнымі птахамі. / Мы адкідаем усё гэта, як змрок, адрынуўшы ў забыцьцё, / зачараваныя ўсьмешкаю сонца [...]»*.

Яшчэ не зусім канец. Яшчэ адзін паварот. У Ні Доўналь ёсьць адзін артыкул у часапісе Krino (у апошнім нумары, прысьвечаным сымпозіюму аб стане ірляндзкай паэзіі), які яна пачынае словамі аб тым, што для людзей з добрай ірляндзкай мовай ад школы, але «лінгвістычна абдзеленых дзеля нястачы функцыянальнага кантэксту, у якім яны маглі б карыстацца мовай безь няёмкасьці або боязі памылак» зьяўленьне двухмоўных кніжак адчыніла «браму гета: ірляндзкамоўная літаратура, даведзеная да статусу бантустану моўным апартайдам, зноў сталася заўважная ў сваёй роднай краіне».

Аднак чытачы сёньня патрабуюць перакладаць усё, ім не стае цярпеньня на пісьменьнікаў, якія ўпарта стаяць за выданьне (і чытаньне) сваіх кніг толькі па-ірляндзку. Мы ня хочам вяртацца да тых злых старых часоў, калі часапісы запаўнялі пустыя мясьціны на старонках сумнеўнымі ірляндзкімі «вершамі» як сувэнірнай экзотыкай. Якая ж альтэрнатыва? «Пераклады, але з абавязковым папярэджаньнем аб небясьпецы для здароўя, *caveat lector!*»

кастрычніка, справа была перададзеная ў Спэцыяльны Крымінальны Суд. Як Маргарэт Андэрсан з Джэйн Хіп, гэтак і сам Джойс усьведамлялі, што, нягледзячы на вынік, гэтая справа можа заняць годнае месца ўпоравень са славутымі ў папярэднім стагодзьдзі працэсамі над «Les Fleurs du Mal» і «Madame Bovary».

Справа слухалася 14 і 21 лютага 1921 году. Джон Куін, выступаючы ў абарону выдаўцоў, пачаў з падкрэсьліваньня значэньня Джойса ў літаратуры, але яму не далі разьвіць гэтую тэму на той падставе, што яна нібыта ня мае дачыненьня да справы. Яму дазволілі выступаць у абарону толькі тых урыўкаў, што былі пералічаныя ў абвінавачаньні. Тады Куін паклікаў трох сьведкаў. Джон Каўпэр Поўіс сьцьвердзіў, што «Уліс» — твор занадта туманны й філязофскі, каб нанесьці маральную шкоду. Філіп Мэлэр з Аб'яднаньня Тэатраў бараніў падсудны разьдзел, даказваючы, што ён раскрывае ў фройдаўскай манэры чалавечую падсьвядомасьць, а гэта звычайнага чытача можа хутчэй за ўсё зьбіць з панталыку, чымся паслужыць пабуджальным афрадызіякам. Ні прысутнасьць Фройда, ні адсутнасьць Афрадыты не аблашчыла судзьдзяў. Скофілд Тэер, выдавец часопісу «Dail», пахваліў кніжку, але быў вымушаны зрабіць прызнаньне, што сам праўдападобна не апублікаваў бы гэтага злачыннага разьдзелу. Куін падсумаваў усё прамовай больш хітрай, чымся інтэлігентнай: кніжка мае футурысцкі і экспэрымэнтальны характар, яна — запэўніваў ён — хутчэй за ўсё творчая няўдача, выклікае хутчэй агіду, чымся пажаду, хутчэй адпіхвае, чымся разбэшчвае. Трое судзьдзяў абмінулі гэтыя заўвагі й наклалі на абвінавачаны бок мінімальны, але ўсё ж каральны, штраф па пяцьдзесят даляраў ад галавы пры дадатковай умове спыненьня публікацыі кніжкі Джойса. Маргарэт Андэрсан і Джэйн Хіп заплацілі, але потым, як усе добрыя лібэралы, пашкадавалі, што замест таго не пайшлі ў турму.

Джойса гэты вынік таксама апанурыў. Зразумела, яго не захапіла абарона Куіна, бо ж ня творчую няўдачу ён зьбіраўся публікаваць. Куін сказаў яму, што судзьдзі жадалі яшчэ менш узьнёслай абароны, але ці можна было яму давяраць далей, калі ён стаў судзіць суд? Прынамсі спраўдзілася ягоная ранейшая перасьцярога, што кожны прысуд у некарысьць урыўка перашкодзіць выданьню кніжкі ў цэласьці. Папярэдне зацікаўленыя выдаўцы пачалі губляць інтарэс. Б.У.Хюбіш, які апублікаваў у Злучаных Штатах ранейшыя кніжкі Джойса, неахвотна напісаў, што гэтую ня зможа выдаць бязь зьменаў. Раззлаваны Джойс адмовіўся, забраў рукапіс і пераслаў яго ў выдавецтва Боні й Лівэрайта, дзе яму сказалі тое самае. У Лёндане міс Уівэр не магла ані апублікаваць кніжку сама, ані знайсьці дзеля гэтага каго іншага; яна прапанавала гэта Леанарду й Вірджыніі Вулфам, але й тут ёй адмовілі.

Павядомлены аб гэтых няўдалых захадах, Джойс цяжка ўздыхнуў і пісаў далей; ён адчуваў сябе аптымістам, хоць ягоны выгляд на тое й не паказваў. Ягоная сытуацыя была непараўнальна лепшая, чымся тады, калі ён быў зусім невядомым пісьменьнікам на другім канцы Эўропы: «Дублінцы», «Партрэт» і «Выгнаньнікі», так як і «Камэрная музыка», дайшлі да чытача; пераехаўшы па намове Эзры Паўнда ў Парыж, ён ужо даў знаць аб сваёй прысутнасьці ў горадзе. Думка аб публікацыі «Уліса» ў Парыжы прыйшла яму ў галаву ў той самы час, што й Сылвіі Біч, маладой амэрыканскай эмігрантцы, якую ён сустрэў у ліпені 1920 году, праз пару дзён пасьля свайго прыезду ў Парыж. Міс Біч якраз была адчыніла славутую сёньня кнігарню «Shakespeare and Company» на вуліцы Дзюпютрэн. Джойс стаў тулы наведвацца й дзяліцца сваімі клопатамі зь міс Біч. Разам з сваёй сяброўкай Адрыен Манье, чыя ня менш славутая кнігарня «La Maison des Amis des Livres» знаходзілася непадалёку, яны сталі распавядаць пра твор Джойса ўсім знаёмым.

У ходзе сваёй рэклямнай дзейнасьці міс Біч паказала «Партрэт маладога мастака» Валеры Лярбо, найбольш кампэтэнтнаму ў ангельскай літаратуры францускаму крытыку. Кніжка глыбока ўразіла Лярбо, і ён выказаў ахвоту пазнаёміцца з аўтарам. Гэтае спатканьне, якое прынесла значныя наступствы, было прызначанае на Куцьцю 1920 году, калі сама нагода патрабавала сардэчнасьці. Пры калядках Лярбо папрасіў сабе тыя часткі «Уліса», што былі апублікаваныя ў «Little Review». Неўзабаве пасьля гэтага ён напісаў міс Біч: «Чытаю «Уліса». Адпала ахвота чытаць што іншае, адпала ахвота нават думаць пра што іншае». Яшчэ праз тыдзень ён дадаў: «Вар'яцею ад «Уліса». З часу, калі ў 18 гадоў я прачытаў Уітмэна, не захапляўся гэтак ніводнай кніжкай... Яна цудоўная! Веліч, як у Рабле: містэр Блюм стане несьмяротным, як Фальстаф». З Джойсавага дазволу ён пераклаў некалькі старонак у «Nouvelle Revue Française». Гэтая ацэнка дайшла да Джойса якраз перад непрыхільным вырашэньнем у справе «Little Review» і асаладзіла яму горыч расчараваньня.

У наступныя тыдні стала ясна, што ні ў Нью-Ёрку, ні ў Лёндане ніхто ня хоча публікаваць «Уліса». Няўцешны Джойс заходзіў да Сылвіі Біч і казаў: «Мая кніжка ніколі ня выйдзе». Міс Біч ведала, што Адрыен Манье ўдавалася публікаваць кніжкі для свае кнігарні, і яна спыталася ў Джойса, ці дазволіў бы ён «Shakespeare and Company» публікаваць ягоныя творы ў Парыжы. Джойс згадзіўся адразу. Наступныя дзесяць гадоў свайго жыцьця міс Біч прысьвяціла Джойсавым інтарэсам і творчасьці. Можна сказаць, што гэткім чынам яна ўратавала яго, як і наадварот — ён ўратаваў яе, даўшы ёй жыцьцёвую місію й трывалае месца ў гісторыі літаратуры. Яна дамовілася з друкаром з Дыжону Марысам Даранцье апублікаваць падпіснае люкс-выданьне накладам 1000 асобнікаў. Разасланыя падпісныя бланкі вярнуліся з заказамі ад такіх розных асобаў, як Уінстан Чэрчыль і пляменьнік Бэлы Куна. Лярбо даў згоду выступіць на літаратурнай сустрэчы ў кнігарні мадэмуазэль Манье 7 сьнежня 1921 году і яшчэ перад заканчэньнем кніжкі абвясьціў яе геніяльнай. А Джойс апантана працаваў, каб канчатковым доказам падмацаваць ацэнку Лярбо. Ён дамогся сабе шасьці камплектаў карэктуры і на кожным зь іх паўсюды ўстаўляў новыя фразы. Забабоннаму Джойсу захацелася апублікаваць кніжку дакладна ў дзень сваіх саракавых угодкаў, 2 лютага 1922 году. Але яшчэ дні за тры-чатыры перад гэтай датай ён усё ўносіў канчатковыя папраўкі. Нягледзячы на гэта, Даранцье ўдалося праз машыніста хуткага цягніка Парыж-Дыжон перадаць два гатовыя асобнікі ў працягнутыя рукі міс Біч якраз у гэты знамянальны дзень. Джойс, якога кідала ў дрыжыкі ад думкі, што ён ніколі ня знойдзе выдаўца, здолеў апублікаваць «Уліса» ўсяго праз пару дзён пасьля ягонага завяршэньня, ажыцьцявіўшы гэткім чынам адно з самых заспакаяльных і адначасова турботных выданьняў ва ўсёй гісторыі літаратуры...

Спачатку выглядала, што ні ў Англіі, ні ў Амэрыцы ня знойдзецца часапісу ці газэты, якія асьмеляцца зьмясьціць рэцэнзію на непадцэнзурную кніжку. Аднак майстэрства «Уліса» было такое відавочнае, а рэкляма ягонага эксцэнтрычнага выхаду такая шырокая, што праз пару тыдняў зьявіліся першыя водгукі зьбітых з панталыку рэцэнзэнтаў, іншы раз непрыхільныя, але з бальшыні — захоп-

*Працяг на старонцы 14*

# Сон пра зьніклы Ерусалім

*Працяг са старонкі 11*

разварочаныя цяжкімі гусеніцамі танкаў, натоўпы чырвонаармейцаў у задубелых ад марозу шынялях і ў аблавухах, насунутых на лоб; рэдкія мінакі з боханам хлеба пад пахай, самотны рамізьнік на прывакзальным пляцы, які чакаў седака; конь, які стрыг сваімі вялізнымі пэргамінными вушамі; шпілі касьцёлаў дзіравілі абкладзенае сьвінцовымі хмарамі неба, і вокны, вокны з выбітымі шыбамі, без фіранак, бяз твараў, без галасоў; скарабачаная шыльда на нямецкай мове зь ледзьве адрознымі літарамі — усё было чужое, незразумелае, страшнае й падазронае. Позірк дарэмна шукаў які-небудзь штрых, які-небудзь гук, якую-небудзь дэталь, якія б раднілі горад з тым, пра які я столькі чуў і які ўваходзіў у мае хлапечыя сьненьні.

Няўжо гэта ён — Ерушалаім дэ Літа?

Хіба ў ім мая цётка Хава, старая дзева, знойдзе свайго нарачонага?

Хіба у ім пекар Рахміэль адкрые насупраць Вялікай Сынагогі крамку, куды на раніцы зазірне Ўсявышні, каб пакаштаваць слаёны піражок з макам, лёгкі, падобны да матыля?

Хіба ў ім дзядзька Лэйзэр спачне па суседзтву з магілай наймудрэйшага з мудрых рабі Эліягу?

Дзе яна, Вялікая Сынагога? Дзе яны, могілкі, на якіх спачывае прах Гаона?

Дзе яны, Лэйзэры, Хавы, Рахміэлі, Шымшэны, Моткі, дзе яны, хлопчыкі й дзяўчынкі з гучнымі царскімі імёнамі — Юдзіф і Руф, Саламон і Давыд?

Вакол толькі сьнег, толькі сьнег, толькі сьнег.

Можа, мама мяне не туды прывезла? Можа, мы трапілі ў зусім іншы горад, звычайны, непрыкметны, панылы — ня ў Вільню, не ў Ерушалаім дэ Літа. Можа, у сьпешцы пераблыталі й набылі квіткі ня ў той бок.

— У той, — сказала мама.

— Так... Але дзе ж... дзе ж усе?

— Хто ўсе?..

— Жыды...

— Жыды, Гіршэлэ, там... — уздыхнула мама й тыкнула рукою ў сьнег. За покрывам сьнегу нічога не было відаць. Нічога, акрамя шэрых дамоў, нежывых, як надгробкі.

Вясной, калі зазелянелі дрэвы, я выправіўся туды — у Панары.

Паветра было чыстае й сьвежае. Як сто гадоў таму назад, у Панарах сьпявалі птушкі. Яны заліваліся так утрапёна, так гучна, што, здавалася, іх радасны пошчак чулі й мёртвыя. Восемдзесят тысяч мёртвых.

Іншы раз птушкі пакідалі дрэвы, якія яшчэ пахлі гарэлай чалавечынай, сядалі на зямлю, на веснавую гліну ірвоў і сваімі дзюбкамі выкалупвалі з насыпу нерухавага чарвячка.

Я пазіраў на іх, і ад жаху ў мяне сьціскалася сэрца. Здавалася, яны зьдзёўбваюць не чарвячка, не небараку мошку, а зрэнку вісуса Хаімэлэ ці чарнавокай дзікункі Ханэлэ.

Панары былі вясной, а да таго была Вялікая Сынагога, тая самая, у якой лунаў несьмяротны дух рабі Эліягу і насупраць якой пекар Рахміэль марыў адкрыць сваю даходную крамку.

Я стаяў ля руінаў Сынагогі, і мяне не пакідала адчуваньне, што вось-вось, праз хвіліну, праз кароткае імгненьне з кучы друзу, з гэтай мешаніны вечнасьці й тленнасьці, з-пад гэтага абрынутага, бясьсільнага жалеза ўстане ён, рабі Эліягу, і на ўвесь голас, на ўвесь горад, на ўсю Літву, на ўвесь сьвет прамовіць:

— Жыды! Мёртвыя й жывыя! Бярыце ламы й кіркі, сякеры й долаты! Сьпяшайцеся адусюль — зь мястэчак і гарадоў, з дамоў і магіл! Вялікая Сынагога не павінна ляжаць у руінах! Страхары, накрыйце дах! Сталяры, высьцеліце новымі дошкамі падлогу! Шкляры, зашкліце шыбы! Кавалі, алліце падсьвечнікі! Краўцы, пашыйце таліты! Хутка сьвята — Пасха! Сьвята вызваленьня з эгіпэцкай няволі! Сьпяшайцеся, сьпяшайцеся, бо няма страшнейшай няволі, чым бяспамяцтва, чым забыцьцё!

Але, не прыйшлі ні страхары, ні краўцы, ні кавалі, ні сталяры.

Жывыя пазіралі на руіны й праходзілі міма. Ніхто не набіраў у жменю друзу, не прасейваў яго на далоні й не пасыпаў ім, як попелам, галаву.

Савецкая няволя пераўзыйшла эгіпэцкую.

У студэнцкія гады, як і многія мае аднагодкі, я працаваў на аднаўленьні гораду — расчышчаў дарогі, разьбіваў паркі, высаджваў дрэвы.

Літасьць пераможцаў распаўсюджвалася на ўсё, апроч жыдоўскіх каштоўнасьцяў.

У ешывах, дзе стагодзьдзямі над разгадкай тайны Сьветабудовы й прызначэньня Чалавека карпелі юныя майманіды, дзе ў вінаградніку пэйсаў нараджалася ісьціна, разьмясьціліся савецкія ўстановы, якія займаліся зборам не адкрыцьцяў шляхоў чалавецтва, а утыльсыравіны.

У жыдоўскіх школах гаспадарылі безаблічныя, мысьлеўпорныя чыноўнікі, якія выдавалі пашпарты зь сярпом і молатам ці падшывалі лісткі да асабістых справаў ненадзейных, паўнадзейных і надзейных грамадзянаў.

У зачыненых бальшавікамі друкарнях, якія карысталіся ў даваенныя гады трывалай славай ва ўсім жыдоўскім сьвеце, друкаваліся вартыя жалю двайнікі маскоўскай «Правды» і «Коммуниста», выбарчыя бюлетэні, якія не пакідалі ніякага выбару, і «вялікія» творы «генія ўсіх часоў і народаў» Іосіфа Сталіна.

У гэтым змроку, што згусьціўся над Ерушалаімам дэ Літа, яшчэ кволіўся жыдоўскі сіроцкі дом, які прытуліў ацалелых ад нядаўняй разьні дзяцей; мігцела жыдоўская школа, у якой яшчэ гучалі літары тысячагадовай азбукі; у былой турме гета існаваў прысуджаны да хуткае пагібелі жыдоўскі музэй, дзе экспанатамі былі ня толькі ацалелыя дакумэнты, але й ягоны дырэктар Гуткові і нешматлікія супрацоўнікі.

Я пражыў у Вільні без малога пяцьдзясят гадоў, засьпеўшы яшчэ шматкі таго, сапраўднага Ерушалаіма дэ Літа, які мне сьніўся, подыхі яго высокага і нясхільнага духу.

Амаль абруселыя, са зьнявечаным чужынай ідышам, выкінутыя стыхіяй вайны ў іншыя краіны, дзе ў слове «жыд» зьмяшчалася ўся веда пра наш народ, мы, яго маладыя, азяблыя, згаладнелыя парасткі, бегалі на жыдоўскія літаратурныя вечары, ладжаныя ў пасьляваеннай Вільні, захоплена прымалі гасьцей з Масквы, Пераца Маркіша і Кушнірова, ганарыліся тым, што побач з намі жывуць такія паэты, як Аўраам Суцкевэр і Гірш Ашаровіч.

З маёй памяці ніколі ня зглādзіцца ні з чым не параўнальнае ўражаньне, якое зрабіла на мяне паэма «Кол Нідрэй» у выкананьні майго дзядзькі, дамскага краўца Мотла Кановіча. На праспэкце Сталіна ў ягоным доме зьбіраліся аматары жыдоўскага тэатру й славеснасьці — глухаваты настаўнік Розэнталіс, вялікагаловы, велічны, падобны да рымскага сэнатара, кравец Догім, чорны, быццам абвуглены, рэзкі, як гук пажарнай сырэны, найцішэйшы бухгальтар Упніцкі, які працягваў паўсюдна нешта падлічваць. Дзядзька Мотл, лядачы, усьмешлівы (дамскім краўцам усьмешка на раду напісана), з выразам, зь неўласьцівай яму жарсьцю чытаў ім толькі-толькі надрукаваную паэму. Маленькая гасьцёўня, у якой адбывалася чытка, нагадвала старажытнагрэцкі амфітэатар, а чытальнік — ня кволага краўца, а антычнага аракула.

Ад ягонага голасу дрыжала паветра, дрыжаў графін зь вішнёвай настойкай, дрыжалі талеркі, дрыжала душа.

Сьлёзы сьцякалі з шчок прымоўклых слухачоў. Плакаў і я, хоць ня вельмі разумеў, над чым.

Сьлёз у тыя часы было дастаткова, і нагоду для іх давалі ня толькі вершы.

Кожны новы год абяртаўся новымі бедамі.

Прыйшоў страшны пяцьдзясят трэці, які пагражаў усім жыдам высылкай ў Сыбір.

У жыдоўскіх дамох сушылі на дарогу сухары.

З жыдоўскіх дамоў, як нябожчыкаў, выносілі жыдоўскія кнігі.

Насьпех, у прыцемках, на пустцы недалёка ад лукіскай турмы нашы насьмерць перапалоханыя суседзі спальвалі ўсё жыдоўскае, пачынаючы ад нявіннага, рахманага Мапу і сканчаючы пахмурным і суворым Давыдам Бэргельсонам.

Шаснаццаць тамоў дарэвалюцыйнай жыдоўскай энцыкляпэдыі выносілі ў ноч, як шаснаццаць дамавінак.

То былі вогнішчы пазбаўленьня ад магчымых улік, ад рэчавых доказаў віны, хоць віной была сама прыналежнасьць да жыдоўства, сам факт нараджэньня пад жыдоўскім дахам.

Чад гэтых вогнішчаў плыў над маім юнацтвам, атручваючы маё дыханьне й Будучыню.

А што можа быць горш за ўгарэлую ад страху й прыніжэньня Будучыню?

Тады я яшчэ не ўсьведамляў да канца, што гарэла не папера, а горад маіх сноў — Ерушалаім дэ Літа, і што сам я быў ня больш чым галавешка, у лепшым выпадку — агеньчык-вугалёк.

Колькі іх было! Колькі пагасла на вятры!

Іншы раз ад іх запальваліся зоркі — такія, як Няхама Ліўшыцайтэ.

Але зоркі нядоўга затрымліваліся на тым небасхіле, бо яго раз-пораз зацягвала хмарамі.

Пачаўся ад'езд, цяжкі, але непазьбежны.

Горад маіх сноў, Ерушалаім дэ Літа, сьціскаўся, як чыгрынавая скура.

Жыды з настойлівасьцю й рашучасьцю, вартай макавеяў, сьпяшаліся ў ОВИР, у аддзел выдачы візаў і рэгістрацыі, як калісьці ў Вялікую Сынагогу.

Адзіным і самым жаданым месцам стала вышчарбленая, у разводах мазуту й бруду пляцформа віленскага вакзалу, першы, як казалі чыгуначнікі, і самы верны, як дадавалі жыды, шлях. Шлях зь Ерушалаіма дэ Літа ў сапраўдны Ерушалаім, вечны й незаменны.

У сярэдзіне сямідзясятых я праводзіў свайго старога сябра. Калі ён падняўся па прыступках у вагон, я зьвярнуў ягоную ўвагу на нумар — «0».

Нулявы вагон, нулявая адзнака.

— Ну й што, што нуль? — спакойна сказаў ён. — Як толькі прыеду туды, перад ім зьявіцца едзінка.

— Якая? — пацікавіўся я.

— Радзіма, — адказаў мой сябра. — Вышэйшая адзінка вымярэньня для кожнага жыда.

Ня ведаю, ці хапіла яму, рамантыку, ідэалісту, той самай важнай, на ягоны пагляд, адзінкі, але тады, на пэроне, дзе маладыя хлопцы хвацка й з выклікам вытанцоўвалі «Хойру», адказ ягоны гучаў больш чым пераканаўча.

— Нельга жыць з прывідамі. Як ні добрыя сны, яны калі-небудзь ды сканчаюцца.

Як жа мне гэта ў галаву не прыходзіла? Мой сябра, бадай, мае рацыю: жыву сярод прывідаў і сам патроху ператвараюся ў прывід. Вялікая Сынагога — прывід, жыдоўскі музэй — прывід, дамы — прывіды. Прывіды ў мінуўшчыне і ў цяперашчыне і, можа быць, у будучыні. Цётка Хава, пекар Рахміэль, дзядзька Мотл, які чытае «Кол Нідрэй», Гаон Эліягу, удава Ром...

Нават самы любімы мною чалавек — мой бацька, цудоўны кравец, які абшыў паўгорада, раптам ператварыўся ў прывід.

Кожны дзень — пакуль ён мог перасоўвацца! — у свае восемдзесят чатыры няшчасьці (так бацька называў свой узрост) ён выпраўляўся на паляваньне.

— Ты куды? — пытаўся я ў яго.

І ён сур'ёзна адказваў:

— Шукаць жыдоў!

Ён іх шукаў у Бэрнардынскім садзе, на пляцы, які да абвяшчэньня незалежнасьці Літвы насіў імя Леніна, на беразе Вяльлі, каля цэнтральнай пошты.

— Учора двух злавіў, — хваліўся ён. — Сьлесара Шолэма і шаўца... як яго... Нісона.

— А пазаўчора?

— Пазаўчора толькі аднаго — цырульніка Мэнашэ. Ягоная дачка абяцала падвезьці нас на могілкі... На могілках у нядзелю шмат жыдоў, амаль столькі ж, колькі на канцэртах, калі прыяжджае Шылянскі...

Былі дні, калі бацьку не ўдавалася злавіць ніводнага. Тады ён прыходзіў дадому сумны, маўклівы, пакрыўджаны на сваю старасьць, на лёс, на ўвесь сьвет.

Здабыча памяншалася з кожным днём. Зьехаў Шолэм, папрасіў выклік Нісон...

А майму бацьку патрэбны быў хоць адзін жыд, аднагодак, не аднагодак, няважна. Галоўнае знайсьці лаўку ў Бэрнардынскім садзе і акунуцца ў цёплыя струмяні ўспамінаў. Успамінаць, успамінаць, успамінаць: барміцвэ, вясельле, службу ў войску — літоўскім, польскім, расейскім. Дзень Перамогі ў Тыльзыце ці ў Любліне...

І сёньня, напэўна, там, па пляцах і парках, па набярэжных і прыгарадных пералесках блукаюць такія, як мой бацька, дзядкі.

Блукаюць і не знаходзяць таго, што было, і таго, чаго не было. Стомленыя, забытыя Богам, яны засынаюць пад ліпамі й клёнамі, і ім, як і мне, сьняцца сны пра Ерушалаім дэ Літа, пра горад, у якім яны або нарадзіліся, або пра які чулі ў далёкім дзяцінстве.

Ня трэба іх будзіць. У іх ужо не засталося сілаў, каб жыць наяве, і ўжо няшмат сілаў, каб жыць у сьне.

Нядобра казаць кадыш па гораду. Асабліва калі ў ім ёсьць хоць бы адзін жыд — стары ці малады, сьпіць ён або не.

Я не хачу хаваць Яго.

Я не хачу хаваць Яго вуліцы й завулкі — вузенькія, як вяроўкі, на якіх вякамі сушылася жыдоўская бялізна, — я разьвешваю на іх сваю горыч і смутак; я не хачу хаваць Ягоныя стрэхі з дахоўкі, па якіх кошкі пахаджалі як анёлы, і анёлы, як кошкі, я падымаюся на самы грэбень і мурлыкаю пра любоў да гэтага неба, да гэтага месяца, які сьвяціў многім пакаленьням маіх братоў і сёстраў; я не хачу хаваць Ягоныя брукі, дзе кожны глыж падобны да абломку Майсеевай скрыжалі — я ўмуроўваю ў іх свой памятны камень, які будзе апякць кожную стапу й нагадваць пра Разьню, пра гібель тысяч і тысяч ні ў чым не вінаватых жыцьцяў.

Я не хачу хаваць Вялікую Сынагогу — я заўсёды буду маліцца ў ёй і, пакуль буду маліцца, ніхто не сьцярэ яе з твару зямлі, бо твар зямлі — гэта і мой, і твой твар.

Я не хачу хаваць свае сны.

Хто кажа, што яны разьвейваюцца зь першымі промнямі сонца? Яны — адзінае сонца для тых, хто страціў тое, што любіў.

*Кфар Саба, верасень 1994 г.*



